Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

Б. С. С. Р.



# РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ПРАЎНАЯ ЧАСОПІСЬ

№ 6 (16)
1928 г.

Выданьне Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР
г. МЕНСК

# ЗЬМЕСТ



## Старонка практыка.



## Хроніка.



Галоўліт № 1469. Заг. № 2661. Тыраж 1.000 экз. Гомель. Друк. „Палесдрук".

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Рэвалюцыйная Законнасьць

№ 6 (16). 1928 г. 2-гі год выданьня.

Дамброўскі, Судакоў, Шапіра.

## Дзейнасьць акруговай пракуратуры і Пракуратуры Рэспублікі па агульным наглядзе [1]).

Працягваючы асьвятленьне работы камісіі трэба пашкадаваць, што на першы наш самы вялікі аддзел работы мясцовыя працаўнікі амаль што на старонках часопісі не адгукнуліся. Гэта індыфэрэнтнасьць вельмі цяжка адбіваецца на рацыяналізатарскай працы органаў РСІ. Галоўная мэта асьвятленьня матар'ялу ў часопісі—гэта выяўленьне думкі судовых працаўнікоў месц, непасрэдна працуючых на нізавой рабоце і якія могуць даць свой вопыт і тым дапамагчы ў палепшаньні працы судова-пракурорскіх установ. Мы выказваем думку, што да другога № часопісі мы будзем мець больш матар'ялаў з месц.

Другая галіна абсьледваньня—гэта работа Віцебскай акруговай пракуратуры і Пракуратуры Рэспублікі па агульным наглядзе. Абсьледваны галоўныя наступныя аб'екты работы акрпракуратуры: а) пратаколы АВК, РВК і часткова с/сав., б) удзел у пасяджэньнях адміністрацыйна-гаспадарчых установ, в) абсьледваньне савецкіх установ, г) прыём і разгляд скарг, д) газэтныя нататкі і сувязь з рабселькораўскай грамадзкасьцю, е) прагляд абавязковых пастаноў і ж) нагляд за падатковай, жыльлёвай і іншымі галінамі савецкіх органаў.

Для большага аналізу, чым выклікаены і на чым базіруюцца нашы прапановы, разгледзім коратка паасобку кожную з гэтых работ акрпракуратуры. Трэба зазначыць, што па матар'ялах Пракуратуры Рэспублікі аналіз мэтадаў і форм работы Віцебскай пракуратуры тожсамы, як работа ўсіх акруговых пракуратур.

Акруговай пракуратурай (без вучастковых) па двух РВК прагледжана за 1927 г. 308 пратаколаў, унесена 13 пратэстаў, пры чым пратэсты ўнесены амаль усе выключна па прыметах фармальных. Агульны процант гэта складае 4.

Апроч таго зроблена 59 розных запытаньняў, якія ніякіх рэальных вынікаў ня далі.

Па характару пратэсты разьбіваюцца:

1) на адміністрацыйныя налажэньні—7,

2) на абавязковыя пастановы—2.

і астатнія па іншых пытаньнях.

Па АВК і горсавету прагледжана 102 пратаколы, пры чым з гэтага ліку пракурор прысутнічаў на 64 пасяджэньнях.

Такім чынам, з аналізу гэтых лічбаў, лічачыся з нікчэмным процантам унесеных пратэстаў і выключна амаль па адміністрацыйных справах, таксама з адсутнасьцю зусім пратэстаў на тыя пратаколы, дзе прысутнічаў

[1]) Працяг. Глядзі № 5.

на пасяджэньнях пракурор, мы лічым неабходным адмовіцца ад пэрыядычнага атрыманьня пратаколаў ад АВК, РВК і тым больш с/саветаў. Гэта мерапрыемства значна разгрузіць канцэлярыі пракуратур, а таксама і канцэлярыі выканкомаў.

Адначасова канстатуючы, што ўдзел пракурора ў пасяджэньнях скарачае ўнясеньне пратэстаў канцэлярскім шляхам і тое, што, прымаючы ўдзел у пасяджэньні, пракурор зьвязваецца з агульнай работай выканкомаў, прызнаць такі ўдзел абавязковым у пасяжаньных АВК, горсаветаў, у райвыканкомаў па месьце знахаджэньня камэры; ў іншых РВК і сельсаветах пры выездах ў гэтыя раёны.

Абсьледвацельская работа пракурора не малую ролю іграе ў працы пракуратуры і ня гледзячы на ўжо існуючы абежнік НКЮ, яна не ўпарадачана. Няма зразуменьня ў адзначэньні абсьледваньня савецкіх устаноў. Пракурор выконвае функцыі больш часам інструктара-рэвізора і амаль адхіляецца ад непасрэдных абавязкаў, ад палітычных задач наглядчыка за рэвалюцыйнай законнасьцю.

Агульна па акрузе абсьледвана 269 устаноў, з якіх 17 земкамісій. Толькі па 6 абглядах знойдзены парушэньні, зноў-жа па адміністрацыйных налажэньнях—50 па РВК і 2 АВК.

Між тым абсьледваліся сельсаветы, нардамы, агульныя жыльлёвыя будынкі, інвалідныя пункты, школы, больніцы, каапэр7цыя і інш.

Вось прыклады гэтых актаў. Акт па Лёзьнянскай школе „вучняў 447: хлопчыкаў—289, дзяўчат—188. Заняткі вядуцца па пляну, у так званым „Піянэрдню", не ўрэгулявана пытаньне аб піянэрзанятках, зачым і працы сталай ў гэтым напрамку не вядзецца". З размоў з вучнямі відаць, што ня ўсе разумеюць структуру савецкай ўлады.

Справа гэта, як відаць, выключна інспэктара асьветы, а не пракурора.

З акту па абсьледваньні Заольшанскага дома адпачынку „памяшканьне дому трымаецца ў чыстаце, за выключэньнем палаты № 12...... адзін умывальнік разьбіт, а хто гэта зрабіў, не вядома".

Што рэальнага дало гэта абсьледваньне альбо абсьледваньне па каапэрацыі таго-ж раёну?

„Радзіус каапэрацыі—5 вёрст, дзе налічваецца 595 двароў з 2700 асобамі, каапэравана 198 домагаспадароў.

Тавараў на 1600 руб.
Грошай — 00 „

Паступіла за кастрычнік 2497 руб. і далей балянсавыя пералічэньні. Тут толькі застаецца запытаць пракурора, колькі часу ён бюракратычна і марудна ўбіў на сьпісаньне гэтых лічбаў.

Матар'ялы даюць і такія веды, што абсьледваліся нават і саюзы працземлес і інш. ня толькі па Віцебскай акрузе, але-ж па Менскай і інш.

Мы прапануем, што абгляд можа мець месца толькі як правіла савецкіх устаноў па галінах адмаддзелаў і пратаколаў па РВК і АВК. Абгляд-жа іншых устаноў павінен вытварацца тады, калі ў пракурора будуць даныя, што там маюцца злоўжываньні альбо парушэньні рэвалюцыйнай законнасьці. Побач з гэтым пракурор максымальна павінен павялічыць палітработу праз даклады, бяседы, выезды ў вёску і рабочыя раёны, прыймаць і правяраць на месцы скаргі. Тут ён мае права і павінен праглядзець той ці іншы матар'ял у ўстанове. Практыкаваць вячэрнія прыёмы ў рабочых раёнах і г. д. Вось асноўныя моманты.

Цікава адзначыць яшчэ адну галіну работы—гэта нагляд за зямельнымі справамі і ўдзел пракурора па земсправах. На гэту справу ўжо зьвернута ўвага і ЦВК БССР, пастановай якога арганізован ўжо спэ-

цыя льны аддзел зямельнай пракуратуры рэспублікі. Пытаньне гэта вельм балюча стаіць на мясцох. Часам каверкаецца клясавая лінія, каверкаецц палітыка ўраду ў напрамку абагульненьня раздробленых элемэнтаў сялянскай гаспадаркі, арганізацыі калектываў, арцеляй, камун і г. д.

Работа акруговай пракуратуры ў гэтым напрамку дае наступны малюнак.

Абсьледвана па акрузе 17 земкамісій, гэтыя абсьледваньні няглыбокі, носяць характар бюракратычнай часам пісаніны ў акце зусім нікому непатрэбных матар'ялаў. У акце па абгляду Чашніцкай земкамісіі значыцца: „Асабовы склад камісіі: старшыня Радкевіч М. 40 гадоў, служачы, беспартыйны; члены... (ідзе такое-ж пералічэньне). На дзень абгляду па раэстру значыцца 125 спраў. Нагрузка земкамісіі наступная: устудзені было пасяджэньняў 1, разгледжана 7 спраў і г. д.

Маюцца абгляды, па якіх і апратэстоўваліся рашэньні суду, але-ж у большасьці па працэсуальных фармальных парушэньнях. Лічачыся з тым, што абсьледваньні роўналежна вытвараюцца акрземкамісіямі, што і ўваходзіць у непасрэдныя іх функцыі, а таксама. што земкамісіі зьяўляюцца судовым органам, роля пракурора павінна там быць наглядная. Мы лічым, што працу пракурора і трэба накіраваць па гэтым русле.

Іншыя лічбы нам кажуць за тое-ж самае.

Па акрузе ўсяго ўнесена 10 пратэстаў і выступленьняў ў земсудзе было 15. Між тым некаторыя абсьледваньні займалі па два дні.

Мы прапануем павялічыць удзел пракурора ў судовых пасяджэньнях, павялічыць прагляд спраў у парадку нагляду, а галоўнае палітработу ў гэтым напрамку праз выезды, прыём і праверку скарг, праверку ўмоў батрацтва, арэндных умоў на зямлю і г. д.

Работа праходжаньнем і рэагаваньнем скарг абстаіць вельмі дрэнна. Тут трэба прыняць рашучыя меры.

Лічбы абгляду паказалі, што скаргі, па якіх зьбіраюцца матар'ялы праз установы альбо органы дазнаньня, атрымоўваюць сваё канчатковае вырашэньне, пачынаючы ад 5 дзён да 1 году, што ў сярэднім складае 102 дні.

Скаргі, па якіх робяцца толькі запытаньні, цягнуцца ад 4 да 89 дзён. У канцэлярыі пракуратуры скаргі праходзяць ад 1 да 14 дзён. Між тым мы маем за 1927 г. 3454 скаргі, з якіх 1855 падае на ўстановы нізавыя: с/сав., РВК і інш. Цяжкасьць расьсьледваньня скарг і такія зацяжныя зьявішчы тлумачацца фармальным падыходам да скаргі, фармальнымі адносінамі збоку ўстаноў на адказы, а часам і зусім замаўчваньнямі.

Мы прапануем, што трэба ўстанавіць тэрміны для праходжаньня скарг як у пракуратуры, так і ва ўсіх савецкіх, грамадзкіх і іншых установах. Пракуратура павінна даць скарзе рух ў працягу 3 дзён. Устанавіць тыднёвы тэрмін для разгляду скаргі ў установах, асоб, парушаючых гэтыя тэрміны, прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

Устанавіць 3-дзённы тэрмін на адказ установай па запытаньні пракурора.

Тэрмін праходжаньня скарг у органах дазнаньня не павінен правышаць тэрміну, ўстаноўленага для вядзеньня дазнаньня.

Такія-ж мерапрыемствы трэба ўжыць і наконт праходжаньня газэтных нататак. Трэба заўважыць, што з пасылкай нататак непасрэдна рэдакцыямі мы маем хворае зьявішча,—гэта праходжаньне у лішніх інстанцыях

Камісія канстатавала малую сувязь з насьценгазэтамі пракуратуры і нескарыстаньня матар'ялу насьценгазэт, а таксама, што наогул не наладжана сувязь з рабселькораўскай грамадзкасьцю.

У галіне абавязковых пастаноў камісія канстатавала правільны папярэдні прагляд іх пракуратурай, пакінуўшы самыя мінімальныя тэрміны для прагляду.

Не застанаўльваючыся на іншых галінах работы пракуратуры, неабходна ўсё-ж самыя спрэчныя з іх высьветліць, ў прыватнасьці аб паднятым пытаньні аб утварэньні пры пракуратуры бюро юрысконсультаў. Камісія, вывучаючы яго на месцы прышла да вываду, што ўтварэньне такого бюро будзе немэтазгодна і яно зьявіцца лішняй бюракратычнай надбудоўкай, а узамен гэтых бюро раіць склікаць пры пракуратуры пэрыядычна нарады з удзелам работнікаў акрсуду у прыватнасьці па грамадзянскім аддзеле і на абгаварэньне гэтых нарад ставіць пытаньні практычнай работы, недахопаў работы, заўважаных на працягу пэўнага часу, як па судовай, так і пракурорскай рабоце.

Адным з хворых месц заўважана—гэта адсутнічаньне сувязі паміж рэвізыйнымі камісіямі і пракуратурай; сувязь гэта патрэбна і яе трэба ўстанавіць праз удзел у пасяджэньнях рэвізыйных камісій.

Апошняе—гэта аб тэрмінах разгляду пратэстаў пракурора ў нясудовых органах.

Лічбы абгляду даюць такі малюнак, што пратэсты разглядаюцца ад 1 да 51 дню. Зразумела, што такі зацяжны тэрмін часам губляе сэнс самаго пратэсту. Трэба рашуча вясьці барацьбу праз узбуджэньне крымінальнага прасьледваньня. Адначасова мела месца, калі адваротна адмаўлялі ў просьбе пракуратуры аб прыпыненьні выкананьня, чаму мімавольна паўстае думка аб дачы праў пракуратуры прыпыняць выкананьне па справах, якія маюць яўныя парушэньні закону.

---

# Пра дзейнасьць Пракуратуры Рэспублікі.

Праца Пракуратуры Рэспублікі па агульным наглядзе амаль што нічым не адрозьніваецца ад акруг, за выключэньнем, да дадатка, агульнага кіраўніцтва акругі.

Не разьбіваючы на асобныя аб'екты, пяройдзем к разгляду іх:

1. Пракуратурай праглядаюцца пратаколы цэнтральных устаноў, як Дзяржплян і Эканомнарада, усяго за год прагледжана 190 пратаколаў і па іх унесена 3 пратэсты. Лічачыся з такім малым процантам пратэстаў, а галоўнае з тым, што пратаколы гэтых органаў па ўсіх прынцыповых пытаньнях канчаткова вырашаюцца ў СНК, гэты прагляд зьяўлецца яўна немэтазгодным, бо складае вялікую трату часу.

2. Побач з правадзімай работай ў акругах па праглядзе пратаколаў АВК, адначасова тыя-ж пратаколы праглядаюцца Пракуратурай Рэспублікі. За год іх прагледжана 399. Неабходна адзначыць, што пратаколы гэтыя пападаюць у сярэднім на 23 дзень пасьля іх выясненьня, а да разгляду іх пракуратурай 87 дзён, што такім чынам складае 110 дзён з дню вынясеньня да разгляду. Адны гэтыя лічбы ўжо кажуць за тое, што к часу ўнясеньня пратэсту губляецца ўсялякі сэнс гэтага пратэсту, бо большая частка пастаноў ўжо праведзена ў жыцьцё. Апрача Пракуратуры Рэспублікі пратаколы атрымоўваюць і іншыя органы—ЦВК (арг. аддз.), СНК і НКУС. Такім чынам мы маем поўнае дубліваньне работы як паміж пракурорскімі органамі, так і паміж цэнтральнымі ўстановамі. Атрыманьне пратаколаў АВК фактычна затушоўвае ролю пракурора акругі перад мясцовымі органамі з аднаго боку, і падругое, ўбівае ўсякую ініцыятыву ў гэтым напрамку самой акруговай пракуратуры. Пратэстаў-жа ўнесена

ўсяго 28 і заўваг 17. Усе гэтыя даныя кажуць, што работа гэта непатрэбная і часам шкодная, пагэтаму камісія ўносіць прапановы аб адмаўленьні ад гэтае работы.

3. Так прыблізна праводзіцца работа і па праглядзе абавязковых пастаноў, яны праглядаюцца як акруговай пракуратурай, так і цэнтральнай. Усяго прагледжана за год 146 абавязковых пастаноў і па іх унесена 37 пратэстаў. Вялікі процант пратэстаў кажа толькі аб адным, што ў гэтым напрамку ніякай работы не праводзіцца акруговымі і вучастковымі пракурорамі. Часам работнікі месц разважаюць, што „ёсьць Пракуратура Рэспублікі, там і спэцы і кадыфікацыя законаў, там і прагледзяць, а наша хата з краю". Пагэтаму трэба ўсю работу і ўсю адказнасьць за яе ўскласьці на пракурораў акруг. Агульнае-ж кіраўніцтва гэтай работай і выяўленьне недахопаў гэтае работы павінна рабіцца пры вытвараемых рэвізіях акруговых пракуратур.

Апрача таго, пры праглядзе абавязковых пастаноў пракуратурай абсьледваньнем выяўлена: а) няхуткае рэагаваньне на абавязковыя пастановы, б) няхуткі разгляд абавязковых пастаноў, в) недастатковасьць вучоту рэзультатыўнасьці пратэстаў і г) няхуткі разгляд пратэстаў АВК. Пры перадачы-ж гэтых функцый акрпракуратуры цалком, гэтыя зьявішчы зьнішчацца.

4. Праходжаньне скарг таксама ня зусім здавальняючае. Між тым паступленьне скарг расьце (843—1927 г., узамен 629—1926 г.). Звычайным спосабам расьсьледваньня зьяўляецца перадача скарг і нататак пракурорам акруг, у рэдкіх выпадках органам дазнаньня. Такім чынам, мы маем шмат лішніх перадатачных інстанцый, зацяжку іх разгляду і амаль поўную адсутнасьць рэзультатыўнасьці гэтых скарг. Для палепшаньня работы неабходна: а) устанавіць 3 дзённы тэрмін для праходжаньня спраў ў акрпракуратуры, б) неабходна высунуць пытаньне перад цэнтральнымі ўстановамі аб перадачы скарг непасрэднаму выканаўцу, мінуючы ўсякія перадатачныя інстанцыі; в) павясьці рашучую барацьбу аж да крымінальных прасьледваньняў з зацяжкай і фармальнымі адпіскамі па скаргах; г) скаргі, не аплачаныя гербавым зборам, накіроўваць прыстасавальна да арт. 24 статуту аб гербавым зборы.

5. Вялікая распыленасьць маецца па газэтных нататках. Па іх рэагуюць і цэнтральныя, і акруговыя, і вучастковыя пракуратуры. Трэба рэагаваньне па нататках як саюзнага друку, так і рэспубліканскага ўскласьці на акрпракурораў, а таксама трэба падняць пытаньне перад друкам аб накіраваньні нататак, ня зьмешчаных у друку, непасрэдна выканаўцам, мінуючы і Пракуратуру Рэспублікі і акрпракуратуры. У пракуратуру Рэспублікі і акрпракуратуры накіроўваць толькі тыя, па якіх неабходна належнае ўмешацельства пракуратуры.

6) Адным з аб'ектаў работы Пракуратуры Рэспублікі зьяўляецца дача заключэньняў па прапановах ЦВК і СНК (у большасьці ЦВК). Тут мы маем дваякага роду матар'ял: справы, па якіх патрабуецца збор дадатковага матар'ялу ў парадку нагляду з акруг, і справы, па якіх можна даць заключэньне адразу.

Запатрабаваньне матар'ялаў займае шмат часу, і заключэньні па такога роду справах праходзяць ад 7 да 150 дзён, што ў сярэднім складае 42 дні, а па справах, дзе матар'ялы не запатрабуюцца з месц—ад 7 да 31 дню, у сярэднім 20 дзён.

Зьявішча гэта ненармовае. Ёсьць шмат прыкладаў бяздушнай канцылярскай перапіскі (за адсутнасьцю месца не зьмяшчаем) і з імі трэба вясьці рашучую барацьбу. Камісія прапануе, што па кожнай справе, дзе патрэбна запатрабоўваць матар'ялы, трэба ўстанаўляць асобны тэрмін, па іншых пракуратура абавязана прапусьціць іх на працягу 7 дзён:

З іншай работы займаюць вялікае месца справы аб адміністрацыйных парушэньнях, мытныя, муніцыпалізацыі і інш.

Па адміністрацыйных справах ёсьць шмат выпадкаў, калі па просьбе пракуратур месц аб прыпыненьні ўзыску пры яўным парушэньні закону з боку асобы, якая накладае штрафы, гэты просьбы адхілялі. Паўстае пытаньне аб дачы права пракуратуры ў такіх выпадках прыпыняць узыск.

Амаль што да канца году Пракуратурай Рэспублікі атрымоўваліся акты абсьледваньняў як вучастковымі, так і акруговымі пракурорамі, але-ж яны ўсе аднолькавы па ўсёй Рэспубліцы; як мы казалі, па Віцебскай пракуратуры і гэты мэтад ужо адменен абежнікам НКЮ.

Трэба заўважыць, што ў практыцы работы мала зварочвалася ўвагі на недахопы, якія мелі месца ў установах, ня носячых крымін. учынку, і Пракуратура, заўважаючы іх, амаль не ўваходзіла з прапановамі ў належныя органы аб выжыцьці іх.

Адно з цікавых пытаньняў, паднятых ў апошнія месяцы абгляду— гэта аб арганізацыі сталага бюро юрысконсультаў пры Пракуратуры Рэспублікі. Па праэкту НКЮ пад старшынствам Прак. Рэсп. камісія, вывучаючы гэта пытаньне, выявіла, што па Менску маюцца ўсяго 22 юрысконсульты, што ўцягненьне ў гэту цэнтральную новую ўстанову работнікаў месц нічога рэальнага ня дасьць; такім чынам выказваецца супроць усялякіх падобных як цэнтральных, так і акруговых надбудовак і раіць склікаць пэрыядычныя нарады юрысконсультаў толькі пры акруговых цэнтрах, як казалі мы вышэй, а за Пракуратурай Рэспублікі пакінуць агульнае кіраўніцтва гэтай справай.

Неабходна кораценька спыніцца яшчэ на некаторых арганізацыйных момантах пракуратуры.

Пытаньне аб пашырэньні праў нізавога апарату і павялічэньні адказнасьці ў сувязі з гэтым працаўнікоў месц даўно высунута партыяй, але-ж яно атрымлівае прэламленьне ў НКЮ толькі ў палове 1927 г. і праходзіла вельмі баязьліва.

Гэта агульныя недахопы па ўсім савецкім апараце. Зразумела, што нельга рабіць перагібы і трэба рабіць усе такія мерапрыемствы вельмі асьцярожна, асабліва пракуратуры. дзе апарат цэнтралізован поўнасьцю і павінен быць цэнтралізаваным, але-ж ёсьць шэраг асобных момантаў, якія патрабуюць хуткай рэарганізацыі і даўно ўжо насьпелі і добра вывучаны.

У прыватнасьці, такімі момантамі зьяўляюцца: а) звальненьне і прыём сьледпрацаўнікоў. Калі прыглядзецца добра, да чаго зводзіцца ў гэтым напрамку роля Пракуратуры Рэспублікі, то мы заўважым, што яна зводзіцца толькі да пісаніны загадаў фармальна, часам ня ведаючы зусім асобы, тады калі пракурор акругі вядзе непасрэдна працу, ведае працаўнікоў і нясе першую адказнасьць, дае толькі свае прадстаўленьні. Гэты фармалізм часткова ўжо аджывае, што відаць з тых пастаноў СНК і ЦВК аб прадастаўленьні права акрпракурору перамяшчаць сьледчых. Права назначэньня і звальненьня сьледчых таксама павінна быць перадана акрпракурорам. У часе працы камісій і правядзеньня грамадзкай работы паўставала пытаньне аб перадачы праў акрпракурорам па назначэньні вучастковых пам. пракурораў. Былі думкі аб тым, што правы гэтыя трэба перадаць. Думкі гэтыя бязумоўна бязгрунтоўныя і маюць мясцовы характар. Па прынцыпу, высунутым т. Ленінам, мы ведаем, што пракурор назначаецца цэнтрам, што ён падпарадкаван толькі цэнтру. Гэта першая гарантыя, што пракурор не павінен быць пад уплывам пазглядаў мясцовай улады, а павінен кіравацца агульнымі саюзнымі і рэспубліканскімі законамі. Калі-ж перадаць падобныя функцыі акрпракурорам, дык мы можам мець не пракурораў у поўным сэнсе гэтага слова, а сваіх пракурораў.

Адзін з момантаў арганізацыйных, зьвязаных з пашырэньнем праў акрпракурораў, гэта аб праглядзе грамадзянскіх спраў у парадку нагляду. Тут практыка выпрацавала такі мэтад: калі акрпракурор заўважае, што ў справе яўна парушана клясавая лінія, альбо наогул правы працоўнага, і яму трэба прыпыніць судовае вызначэньне альбо прысуд, дык ён зварачаецца з хадайніцтвам у Пракуратуру Рэспублікі, і тая прыпыняе, мае ў сябе толькі адну адносіну пракурора акругі, ня ведае зусім акалічнасьці справы. Такім чынам паўстае пытаньне аб перадачы гэтых праў акрпракурору. Ды і самае праходжаньне грамадзянскіх спраў вельмі зацяжна. У той час, як па крымінальных справах пратэст уносіцца ў пленум акрсуду, што дае добрыя вынікі ў частцы падняцьця кваліфікацыі суд. працаўнікоў і выпрамленьня памылак, аб чым ужо даказана практыкай іншых рэспублік, у нас у БССР гэтага няма. Апрача таго, накіраваны пратэст у Найвышэйшы Суд акрпракурорам другі раз зусім туды не пападае, бо згодна пастановы пленуму Найвышэйшага Суду ён наперад павінен праглядацца пам. Пракурора Рэспублікі па Найвышэйшаму Суду, у той час як па палажэньні аб судабудаўніцтве пракурор акругі павінен унасіць пратэст непасрэдна ў Найвышэйшы Суд. Практычна мы мелі добрыя вынікі ў тым, што пракурор на месцы, атрымаўшы вынікі свайго пратэсту з Найвышэйшага Суду, скарыстоўваў-бы яго, як практычны матар'ял у працы.

Шмат недарэчнасьцяй маецца ў праглядзе судовых спраў у парадку нагляду. Справы акрсудоў праглядаюцца ўчастковымі пракурорамі і наадварот нарсудоў—акруговымі, дзе яны не абслугоўваюць непасрэдна. Справы, прайшоўшыя Найвышэйшы Суд, акрпракуратруы і часам вуч. пракуратуры наогул пытаньне хоць і вырашана законам, але-ж патрабуе належнага накіраваньня з боку Пракуратуры Рэспублікі.

Апошняе, аб чым неабходна адзначыць—гэта аб кіраўніцтве месц Пракурат. Рэспублікі па агульным наглядзе. Пісьмовае кіраўніцтва бязумоўна здавальняе яго, у лічбах складае: за 1927 г.—22 паказаньні па прынцыповых пытаньнях усім акрпракурорам і па асобных акругах дадзена 67 паказаньняў. Але-ж у сувязі з прадстаячымі зьменамі ў мэтадах работы Пракуратуры Рэспублікі ў галіне кіраўніцтва і спыненьня канцалярскага паралелізму і дубальтовае работы з акрпракуратурай, неабходна максымум павялічыць жывое кіраўніцтва шляхам рэвізій, бо апошнія паўтара гады амаль іх ня было, ня гледзячы на спэцыяльную штатную адзінку, якая маецца ў Пракуратуры Рэспублікі для гэтай мэты.

Наступны—аддзел абсьледваньня РСІ—гэта аб арганізацыйных узаемаадносінах Найвышэйшага Суду і НКЮ ў галіне абслугоўваньня судовых органаў, але-ж пра гэта—у наступным нумары.

---

**В. Гінзбург.**

# За рэальную карную палітыку.

Ляпей менш, ды ляпей. *Ленін.*

XV партыйны зьезд удзяліў значную ўвагу пытаньням рэвалюцыйнай законнасьці наогул і пытаньням крымінальна-судовай палітыкі ў прыватнасьці. У сувязі з дырэктывамі зьезду нам неабходна яшчэ раз праверыць, ці правільна наша лінія ў гэтым пытаньні, і якія папраўкі альбо зьмены нам трэба ўнесьці ў карную палітыку.

Паміж іншым судовыя працаўнікі вельмі часта сустракаюцца з скаргамі насельніцтва на мяккасьць нашай карнай палітыкі. Ці правільна гэта? Ці патрэбна нам агульнае павялічэньне судовай рэпрэсіі? Аб'ектыўны адказ на гэтае запытаньне павінна даць крымінальная статыстыка. У залежнасьці

ад дынамікі і становішча злачыннасьці на абшарах БССР, эканамічнага і палітычнага становішча апошняй, павінна залежыць інтэнсыўнасьць судовакарных мер, дапасоўваемых судовымі органамі.

Калі мы возьмем лічбы аб узьнікненьні злачынстваў за апошнія тры гады, дык мы будзем мець наступны малюнак:

Узьнікла злачынстваў на кожныя 10.000 чалавек насельніцтва: у 1925 г.—224,8—100 проц.; у 1926 г. 244,4—108,7 проц. і ў 1927 год.—247—109,9 проц. Такім чынам магчыма падкрэсьліць некаторы ўздым злачыннасьці, але нам патрэбна высьветліць, за конт чаго ідзе рост. Адкідаючы злачынствы супроць парадку кіраўніцтва і гаспадарчыя, з прычыны перавагі ў гэтых групах дробных дэліктаў (лесапарушэньне і хаваньне і выган самагону), а таксама з прычыны зьмен у падсуднасьці гэтых спраў, мы вылучылі тры грунтоўныя групы злачынстваў: маемасныя, службовыя і супроць асобы, якія ў агульнай колькасьці, ўзнікшых у 1927 годзе злачынстваў, складаюць 71.7 проц., з якіх злачынствы супроць асобы складаюць 43,1 проц., маемасныя злачынствы—25,2 проц. і службовыя—4,3 проц; такім чынам, мы маем справу з злачынствамі, удзельная вага якіх значна розьніцца, з прычыны чаго нам неабходна высьветліць дынаміку злачыннасьці кожнай з гэтых груп паасобку.

| РУХ УЗЬНІКШЫХ СПРАЎ. | На кожныя 10000 ч. насельніцтва | | | У адносных лічбах да 1925 г | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Усяго ўзьнікла . . . . . . . | 224,8 | 244,4 | 247,0 | 100 | 108,7 | 109,9 |
| У тым ліку злачынстваў: | | | | | | |
| Службовых . . . . . . . . . | 10,0 | 12,4 | 10,7 | 100 | 124,0 | 107,0 |
| Маемасных . . . . . . . . . | 69,0 | 66,1 | 62,2 | 100 | 95,8 | 90,0 |
| Супроць асобы . . . . . . . | 87,8 | 104,4 | 106,5 | 100 | 118,9 | 121,3 |

З прыведзеных лічбаў відаць, што значна вырасла колькасьць злачынств супроць асобы і таксама хоць у меншым разьмеры, пры тэндэнцыі да паніжэньня, вырасьлі службовыя злачынствы і паменшылася колькасьць маемасных злачынстваў.

Цяпер зьвернемся да пытаньня, якія віды злачынстваў растуць унутры гэтай альбо іншае групы. Калі мы паглядзім на злачынствы супроць асобы, то пабачым наступнае:

| ЗЛАЧЫНСТВЫ. | На кожныя 10000 ч. насельніцтва. | | | У адносных лічбах да 1925 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г | 1926 г. | 1927 г. |
| Забойствы . . . . . . . . . | 4,0 | 2,3 | 2,1 | 100 | 57,8 | 52,5 |
| Хуліганства . . . . . . . . | — | 14,2 | 4,2 | — | 100,0 | 29,6 |
| Згвалтаваньні . . . . . . . | 0,9 | 1,0 | 1,0 | 100 | 111,1 | 111,1 |
| Пабоі і іншыя справы прыватн. абвінав. . . . . . . . . | 64,8 | 75,2 | 81,8 | 100 | 116,1 | 127,7 |
| Іншыя злачынствы супроць асобы . . . . . . . . . . . | 18,1 | 11,7 | 17,4 | 100 | 64,6 | 96,1 |

Такім чынам, у галіне злачынстваў супроць асобы мы маем памяншэньне спраў аб больш небясьпечных дзеяньнях—забойстваў, хуліганства і іншых, куды ўключаны цяжкія і менш цяжкія цялесныя пакалечаньні і ўсе полавыя злачынствы, акрамя згвалтаваньня; некаторы ўздым

згвалтаваньняў, пры тэндэнцыі да стабілізацыі. Рост-жа ішоў галоўным чынам, па справах прыватнага абвінавачваньня і само сабой зразумела, што гэтыя злачынствы вялікай сацыяльнай небясьпекі не прадстаўляюць.

Узмацненьне судовай рэпрэсіі па ўзросшых справах прыватнага абвінавачваньня вынікаў даць ня можа, бо гэтыя злачынствы ўзьнікаюць на глебе нашай някультурнасьці і адсталасьці і ў гэтай галіне неабходна шырокае дапасоўваньне мер выхоўваючага характару, і на гэты шлях стал РСІ СССР (група Радус-Зеньковіча) у сваіх прапановах аб стварэньні таварыскіх судоў („Еженедельник Советской Юстиции № 39 і 40—1927 г.) У адносінах больш цяжкіх відаў злачынстваў супроць асобы мы ўзросту не назіраем, а значыцца неабходнасьці ўзмацненьня карнай палітыкі па гэтых справах, няма.

Пераходзячы да другой групы злачынстваў, якая таксама дала ўзрост—гэта да злачынстваў службовых, дык адзначаецца наступнае:

| Рух службовых злачынстваў. | На кожныя 10000 ч. насельніцтва. | | | У адносных лічбах да 1925 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Растраты . . . . . . . . . . | 3,0 | 4,6 | 3,7 | 100 | 153,3 | 123,3 |
| Хабарніцтвы . . . . . . . . | 1,3 | 1,1 | 0.6 | 100 | 84,6 | 46,2 |
| Іншыя службовыя злачынствы | 5.7 | 6.7 | 6.4 | 100 | 117,5 | 112,3 |
| Усе „ „ | 10,0 | 12,4 | 10,7 | 100 | 124,0 | 107,0 |

З паказанай табліцы можна ўбачыць значны рост спраў па растратах у 1926 годзе і некаторае падзеньне ў 1927 годзе, але ўсё-ж адносныя лічбы даюць высокі каэфіцыэнт; таксама выраслі іншыя службовыя злачынствы (злоўжываньне ўладай, нядбайнасьць і падлогі). Адзначаецца значнае паменшаньне больш чым на палову хабарніцтва. Не ўваходзячы ў абмеркаваньне прычын, якія выклікалі гэтыя зьмены ў дынаміцы злачыннасьці з прычыны таго, што гэты аналіз не ўваходзіць у мэты гэтага артыкулу, мы лічым неабходным адзначыць, што крывая растрат, якая пракацілася па ўсяму СССР, а таксама ў межах БССР, выклікала інтэнсыўную дзейнасьць з боку савецкай грамадзкасьці і ўзмацненьне судовай рэпрэсіі ў сэнсе па-за чарговага разгляду гэтых спраў і дапасоўваньне цяжкіх мер сацыяльнае абароны. Гэтыя даныя ўсім вядомы і паказваюць, што па меры сапраўднага росту адзначанага сацыяльна-небясьпечнага зьявішча савецкі суд своечасова рэагаваў усімі сродкамі, якія ў яго распараджэньні меліся.

Паказаныя намі зьвесткі аб растратах за 1927 год паказваюць на памяншэньне іх колькасьці—гэта гаворыць за тое, што сумеснымі намаганьнямі савецкай грамадзкасьці і суда знойдзены шляхі папярэджальных мерапрыемстваў.

Зварочваючыся да разгляду дынамікі ўзьнікшых маемасных злачынстваў, мы ўгледжваем наступны малюнак:

| Злачынствы | На кожныя 10000 ч. насельніцтва. | | | У адносных лічбах да 1925 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Крадзежы . . . . . . . . . . | 52 | 50,6 | 48,2 | 100 | 97,6 | 92,7 |
| Грабяжы . . . . . . . . . . | 4 | 2,2 | 2,0 | 100 | 55,0 | 50,0 |
| Іншыя маемасныя злачынствы | 13 | 13,3 | 12,0 | 100 | 102,3 | 92,3 |
| Усе „ „ | 69 | 66.1 | 62.2 | 100 | 95.8 | 90,0 |

Такім чынам, па ўсіх відах маемасных злачыстваў мы маем памяншэньне, з тэндэнцыяй яшчэ да далейшага паніжэньня, і само сабой зразумела, што гаварыць аб узмацненьні карнай палітыкі нельга і ня прыходзіцца.

Заканчваючы свой агляд аб дынаміцы ўзьнікшых злачынстваў за апошнія гады, мы маем магчымасьць зрабіць наступныя вывады.

1. Адзначаецца за апошнія тры гады некаторы рост злачыннасьці, які ідзе па шляху павялічэньня спраў прыватнага абвінавачваньня і службовых злачынстваў, пры падзеньні колькасьці маемасных злачынстваў.

2. Гэты рост злачыннасьці не павінен выклікаць у адносінах да спраў прыватнага абвінавачваньня ўзмацненьне карнай палітыкі, аісьці па шляху ўзмацненьня выхаваўчых мерапрыемстваў.

3. Службовыя злачынствы павінны быць у цэнтры ўвагі судовых установаў, галоўным чынам акрсудоў, і барацьба з імі павінна весьціся ў двух напрамках: дапасоўваньне рэальнай судовай рэпрэсіі і прыняцьце папярэджальных мерапрыемстваў, высьвятляючы ў прыгаворах і канкрэтных справах недахопы дзяржаўнага апарату.

Зьвернемся цяпер да карнай палітыкі, ажыцьцяўляемай судамі; яе інтэнсыўнасьць за апошнія тры гады магчыма ўбачыць з наступнага:

| ПАКАЗЬНЬНІ. | Абсалютныя лічбы. | | | Адносныя лічбы да 1925 году. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 4927 г. |
| Агульны лік асуджаных . . . | 59256 | 46631 | 57866 | 100 | 79,2 | 97,6 |
| У тым ліку да рэальнага пазбаўленьня волі . . . . . | 13307 | 11006 | 21370 | 100 | 82,8 | 160,6 |
| У тым ліку да штрафу . . . | 21120 | 23744 | 17383 | 100 | 112,3 | 82,3 |
| „ „ „ ўсіх іншых мер . | 24829 | 11481 | 19113 | 100 | 87,9 | 77,4 |

Агульны лік асуджаных у 1926 годзе даў рэзкае памяншэньне на 20,8 проц. у параўнаньні з папярэднім годам, але ў 1927 годзе зноў вырас і амаль што дасягнуў узроўня 1925 г.—97,6 проц. Гэта трэба растлумачыць ня ростам злачыннасьці, а далучэньнем да БССР Гомельшчыны. Гэта магчыма ўбачыць, калі мы возьмем колькасьць асуджаных на кожныя 10.000 чал. насельніцтва; яны складаюць у 1925 годзе 14 чал., у 1926 г.—11 чал. і у 1927 г.—11,8 чал. Такім чынам адносная колькасьць асуджаных памяншаецца. Цікава падкрэсьліць, што з усіх мер сацыяльнае абароны рост дало рэальнае пазбаўпеньне волі, пры паніжэньні ўсіх іншых мер. Гэта яскрава высьвятляецца, калі мы паглядзім, якую ўдзельную вагу складаюць паасобныя меры сацыяльнае абароны; на працягу апошніх трох гадоў на кожных 100 чалавек асуджаных падпадуць:

| | У 1925 г. | У 1926 г. | У 1927 г. |
|---|---|---|---|
| Да рэальнага пазбаўленьня волі . | 22,5 чал. | 23,4 чал. | 36,9 чал. |
| „ штрафоў . . . . . . . . . . | 35,6 „ | 50,1 „ | 30,1 „ |
| „ ўсіх іншых мер . . . . . . . | 41,9 „ | 26,5 „ | 33,0 „ |
| **Усяго. . . .** | **100,0 „** | **100,0 „** | **100,0 „** |

Такім чынам з гэтых лічбаў відаць рост пазбаўленьня волі ў адносінах да ўсіх мер сацыяльнае абароны. Аднак, калі мы параўнаем з зьвесткамі РСФСР (зводная справаздача за 1926 год), дык там рэальнае пазбаўленьне волі дапасоўваецца ў значна большай колькасьці: на кожных 100 асуджаных у 1926 годзе былі прыгавораны да рэальнага пазбаўленьня волі 39,6 ч.

супроць 23,4 чал. у БССР, у тым-жа годзе, але гэтая тэндэнцыя, як відаць, маецца і ў судох БССР, і прычыны гэтага зьявішча трэба шукаць у нярэальнасьці (дрэннай арганізацыі) прымусовых прац і ў тым, што штрафы таксама дрэнна спаганяюцца і ў распараджэньні суда маецца толькі адна сапраўдная мера сацыяльнае абароны—гэта пазбаўленьне волі.

Цяпер паглядзім, да якіх тэрмінаў пазбаўленьня волі ў нас прыгаворваюць:

| Меры сацыяльнае абароны. | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Абс. ч. | % | Абс. ч. | % | Абс. ч. | % |
| Каротка-тэрміновае пазбаўленьне волі (ад 15 дзён да 1 году) . . | 3.687 | 27,7 | 8.813 | 80,2 | 17.383 | 81,3 |
| Доўга-тэрміновае пазбаўленьне волі (ад 1 году да 10 гадоў) . | 9.620 | 72,4 | 2.293 | 19,8 | 3.987 | 18,7 |
| Усяго да рэальнага пазбаўленьня волі . . . . . . . . . . . . | 13.307 | 100,0 | 10.996 | 100,0 | 21.370 | 100,0 |

З гэтых лічбаў відаць, што калі ў 1925 годзе галоўную масу асуджаных складалі асобы, асуджаныя да доўга-тэрміновага заключэньня 72,3 проц. ўсіх асуджаных да пазбаўленьня волі, то ў наступныя гады доўга-тэрміновае заключэньне значна паменшылася як у абсалютных лічбах, так і ў процантных адносінах. Гэтае зьявішча знаходзіцца ў сувязі з дынамікай злачыннасьці, і ў 1926-1927 годзе мы мелі памяншэньне забойстваў, грабяжоў і іншых відаў цяжкіх злачынстваў, якія выклікалі ў якасьці рэпрэсіі доўгатэрміновае пазбаўленьне волі, і. наадварот, павялічылася колькасьць дробных дэліктаў супроць асобы (пабоі) і службовых злачынстваў, па якіх часта дапасоўваецца каротка-тэрміновае пазбаўленьневолі.

Як адбілася тэндэнцыя судоў да павялічэньня прыгавароў з рэальным пазбаўленьнем волі на населенасьць папраўчых дамоў? Агульная колькасьць асуджаных складала:

| Даты. | Абсалютныя лічбы. | Адносныя лічбы да 1/1—1926 г. |
|---|---|---|
| На 1 студзеня 1926 году . . . . . | 3 975 | 100,0 |
| „ 1 ліпеня 1926 „ . . . . . . | 3.667 | 92,5 |
| „ 1 студзеня 1927 „ . . . . . . | 3.235 | 81,0 |
| „ 1 ліпеня 1927 „ . . . . . . | 3.707 | 93,3 |
| „ 1 студзеня 1928 „ . . . . . . | 2.735 | 68,8 |

Такім чынам, мы павінны падкрэсьліць, што, ня гледзячы на значнае павялічэньне прыгавароў з рэальным пазбаўленьнем волі, колькасьць асуджаных у папраўчых дамох памяншаецца. Трэба агаварыцца, што па даных 1 студзеня 28 г. сказалася дапасоўваньне амністыі. Вось тут і прыпынак, тут мы падыходзім да аднаго з хваробных зьявішч—гэта адрыў судовай крымінальнай палітыкі ад папраўча-працоўнай палітыкі. Вось тут корань скарг на няправільную і мяккую карную палітыку. Прыгавор суду, пападаючы ў спраўдом, падпадаецца мэтамарфозе і ў выніках зусім мяняе свой твар.

Якая грунтоўная прычына гэтага разрыву паміж палітыкай судоў і папраўча-працоўнай палітыкай. Справа ў тым, што правільныя прынцыпы, якія закладзены ў выпраўча-працоўны кодэкс, якія маюць сваёй мэтай максымальна садзейнічаць сапраўднаму выпраўленьню злачынца, ператвараюцца ў прынцып разгрузкі папраўчых дамоў. Па ўмоўна-датэрміновым

аслабаненьні за 1927 год і 3 месяцы 1928 году здаволена 3628 хадайніцтваў—47,2 проц. ўсіх пададзеных заяў; калі да гэтых лічб прыкінуць хадайніцтвы здаволеныя камісіяй, прыватнай амністыі пры Ц. В. К. за 1927 год, якой поўнасьцю памілавана 57 чал., часткова 193 чал. і умоўна аслабанёна 102 чал., дык у выніках мы будзем мець, што больш паловы—53,4 проц. усіх асуджаных атрымалі ў 1927 г. умоўна-датэрміновае вызваленьне. Трэба адзначыць, што значная колькасьць асуджаных у паказаным годзе аслабанёна па амністыі 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, і пагэтаму шмат асуджаных і не падавалі хадайніцтв, з гэтага магчыма зрабіць вынік, што ў звычайным годзе колькасьць датэрмінова вызваленых яшчэ больш.

Перад намі стаіць задача ўвязаць крымінальна-судовую палітыку з папраўча-працоўнай палітыкай. Якім чынам гэта зрабіць? У гэтых адносінах трэба шчыра прывітаць пастанову прэзыдыуму ЦВК і СНК РСФСР за 26 сакавіка 1928 году („Еженедельник Советской Юстиции", № 16), якая намячае канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтай галіне. Ва ўмовах БССР нам трэба паклапаціцца аб хутчэйшым выданьні новага Крымінальнага Кодэксу. Сапраўды наш існуючы кодэкс, які выдан у 1922 годзе, толькі ў пачатку пераходу на рэйкі новай эканамічнай палітыкі, у сучасны момант устарэў і яго карныя санкцыі не заўсёды адпавядаюць патрабаваньням моманту і злачынства і кодэкс павінен быць перагледжан у бок памяншэньня санкцыі шэрагу артыкулаў і замены пазбаўленьня волі па дробных злачынствах іншымі мерамі сацыяльнае абароны. Трэба ляпей арганізаваць прымусовыя працы і палепшыць спагнаньне штрафаў. Гэтым самым мы паменшым дапасоўваньне пазбаўленьня волі.

Аднак, калі суд усё-ж прызнае патрэбным асуджанага прыгаварыць да пазбаўленьня волі, мы павінны дамагацца каб апошняе было сапраўдна рэальным, каб была гарантыя, што прыгавор суду будзе выканан. Прыгавор суду ў мясцох заключэньня павінен захоўваць свой твар.

Мы лічым, што рэальная карная палітыка, павінна стаць чарговай і грунтоўнай задачай працаўнікоў юстыцыі.

---

**Ф. Гаўзэ**

# Яшчэ пра сыстэматызацыю і кадыфікацыю заканадаўства БССР[1]).

I.

Пытаньні сыстэматызацыі і кадыфікацыі заканадаўства прадаўжаюць цікавіць як заканадаўчыя органы Саюзу ССР і саюзных рэспублік, так і адміністрацыйныя органы і юрыстых, якія гэтыя законы ўжываюць. У паасобных законах Саюзу і саюзных рэспублік, у пратаколах заканадаўчых органаў мы часта натыкаемся на прапановы кадыфікаваць нормы пэўнай галіны права. Найбольш характэрным зьяўляецца дырэктыва ЦВК і СНК Саюзу саюзным рэспублікам аб распрацоўцы жыльлёвага кодэксу (пастанова ЦВК і СНК Саюзу ад 4/І-1928 г. „Аб жыльлёвай палітыцы". Зб. зак. СССР № 6, стр. 49[2]).

За апошні год у саюзных рэспубліках закончана некалькі буйных кадыфікацыйных прац: у УССР выдан 12 кастрычніка 1927 г. „Адміністрацыйны Кодэкс, апублікаваны ў № 63-65 „Збору Зак. УССР" за 1927 г.; у

---

[1]) Гл. нашы тэзісы пад тэй-жа назвай № 1-2 „Рэвалюц. Закон." за гэты год

[2]) Пакажам да-рэчы, што да распрац. кодэксу жыльлёвых закон. рэспубл. БССР, РСФСР, УССР прыступілі яшчэ да атрыманьня агульна-саюзнай дырэктывы.

БССР канчаткова адрэдагаван і апублікаван у № 14 „Зб. Зак. БССР“ за бягучы год „Водна-мэліярацыйны Кодэкс“. Абодвы гэтыя кодэксы, такім чынам, ужо дзейнічаюць, першы—ў УССР, другі—ў БССР. У РСФСР таксама выканаты за гэты час некаторыя кадыфікацыйныя працы больш вузкага маштабу: выдан зводны закон аб рэквізыцыях і канфіскацыях, закон аб сельска-гаспадарчай каапэрацыі і некаторыя іншыя. Цэлы шэраг кадыфікацыйных работ яшчэ праводзіцца ў ведамствах і стануць агульным набыткам толькі праз некаторы час. Сярод іх мае нясумненна асабліва вялікае значэньне праца па сыстэматызацыі і кодыфікацыі ўсяго чыннага законадаўства, каторая адначасна праводзіцца ў Саюзе ССР і амаль ва ўсіх саюзных рэспубліках.

Праца гэта, носіць аднак. у паасобных рэспубліках розны характар. РСФСР, пасьля таго як яна прарабіла аграмадную працу па выяўленьні адмененых і страціўшых сілу законаў, прыступіла да выданьня зборніку чынных законаў, абмежаваўшыся толькі тэхнічай працай па сыстэматызацыі законадаўства, выключэньню з паасобных законаў афіцыйна адмененых артыкулаў і ўключэньню ў новай рэдакцыі артыкулаў, зьмененых у законадаўчым парадку. УССР жа паставіла перад сабою больш складаную задачу. Па паказаньні т. Мазурэнкі Савет Народных Камісараў УССР даў спэцыяльную дырэктыву, „аб напрамку працы па сыстэматызацыі чыннага законадаўства: а) узгадненьне яго з спрашчэньнем апарату і прахаджэньнем спраў; б) належная вытрымка клясавай лініі і патрэб абароны інтарэсаў працоўных; в) адхіленьне тых з іх, каторыя садзейнічаюць бюракратызму і валакіце“. Задачай сыстэматызацыі т. Мазурэнка, кіруючы гэтай працай, прызнае „ня толькі тэхнічнае зьбіраньне законаў і падзяленьне іх па пэўнаму пляну, але адначасна і *перагляд усяго законадаўства прыстасавальна да сучаснага сацыяльна-эканамічнага становішча*[3])“. На сярэдняй пазіцыі стаіць кадыфікацыйная камісія Саюзу ССР. Паводле распрацаванай камісіяй інструкцыі па складаньні „Зводу Законаў Саюзу“ дапушчаецца пры рэдагаваньні тэксту: а) зьліяньне і падзел на часткі законадаўчых актаў для аб'яднаньня з другімі актамі; б) адхіленьне відавочных памылак і яўна застарэлых частак актаў; в) адхіленьне супярэчнасьцяй і няўзгодненасьці ў актах, *паколькі для такога адхіленьня не патрабуецца выданьне новага закону*; г) спрашчэньне і ўніфікацыя ўжытых у законе тэрмінаў; е) зьмена ў выпадках неабходнасьці і патрэбнасьці ў кадыфікацыйных мэтах тэкстаў актаў *бяз усякай зьмены пры гэтым іх сэнсу і зьместу*“. Абавязковым для камісіі зьяўляецца толькі праца, паказаная ў пунктах „б“ і „в“.

Першая праца БССР у гэтым напрамку—выданьне „Зборніку чынных законаў БССР за 1921-24 г.“—прымыкае бліжэй да працы, якая праводзіцца цяпер у РСФСР, адрозьніваючыся ад яе тым, што папершае, законы прыведзены не ў сыстэматычным, а ў храналёгічным парадку (за выключэньнем палажэньняў пра цэнтральныя і мясцовыя органы ўлады), падругое, у мэтах узгадненьня законаў тых годоў з чынным законадаўствам, у зборніку зьмешчана ў відзе зносак звыш 60 паясьненьняў.

З юрыдычнага пункту гледжаньня розьніца між працай БССР і РСФСР, з аднаго боку, і працай Саюзу ССР і УССР, з другога, заключаецца ў тым, што ў першым выпадку афіцыйным тэкстам законаў застаецца тэкст, які зьмешчан у З. З., а ў другім,—акты, якія зьмешчаны ў „Своде Законов Союза“, або ў „Сборніке Законов УССР“ замяняюць сабою поўнасьцю акты, якія зьмешчаны ў „Зб. Зак. і Загадаў СССР“ і ў „Зб. Зак. і Загадаў УССР“, і зьяўляюцца афіцыйнымі тэкстамі.

---

[3]) Курсыў тут і ў астатніх выпадках наш. Ф. Г.

II.

У сучасны момант у БССР шчыльна падыйшлі да выкананьня тае задачы па ўпарадачэньні нашага законадаўства, каторую мы паставілі ў нашым беларускім друку яшчэ ў пачатку 1927 году[1]). Праца па сыстэматызацыі і кадыфікацыі законадаўства БССР павінна быць па нашай думцы закончана да дзесяціго зьдзя існаваньня БССР, г. зн. да 1-га студзеня 1929 году. Які-ж характар павінна насіць гэта праца? Адказаць на гэта пытаньне мы здолеем толькі тады, калі дакладна вызначым мэту, дзеля якой праца павінна праводзіцца.

Па нашай думцы, мэта гэта павінна быць фармулявана наступным чынам: законадаўства належыць прыблізіць да працоўных. Наша законадаўства павінна быць так пабудована, каб працоўныя, інтарэсы якіх яно ахоўвае, маглі лёгка адшукаць патрэбны ім закон і лёгка ў ім разабрацца. Для дасягненьня гэтай мэты, законадаўства павінна здавальняць наступным умовам:

1) колькасьць законаў павінна быць максымальна скарочана;

2) усе законы павінны быць сабраны ў адно месца, распаложаны па строга ўстаноўленай простай і зразумелай сыстэме;

3) павінны быць адхілены ўсе непагоджанасьці, супярэчнасьці і прагалы.

Ідэалам зьяўляецца звод законаў, які складаецца з некалькіх дзесяткаў кодэксаў. Ясна, аднак, што ў умовах пераходнага пэрыяду для краіны, якая знаходзіцца ў стадыі будаўніцтва новых форм жыцьця, гэты ідэал недасягаемы. Ясна таксама, што той максымум, які можа быць выканан і ў нашых умовах патрабаваў-бы грунтоўнага перагляду законадаўчымі органамі ўсяго нашага законадаўства, што надзвычайна ўскладніла-б нашу працу і надоўга адцягнула-б тэрмін яе выкананьня[2]). Гэта праца—працяжная, патрабуючая сталага напружаньня думкі і волі законападрыхтавальных і законадаўчых органаў. Зараз мы павінны выканаць тую працу, каторая можа быць праведзена бяз удзелу законадаўчых органаў, прыцягваючы апошнія толькі ў строга вызначаных, яўна неабходных выпадках. Гэтакім павінен быць агульны характар працы, каторая можа і павінна даць вялікія станоўчыя вынікі, Пяройдзем да паасобных высунутых намі вышэй умоў, каторым павінна здавальняць законадаўства ў выніку працы па сыстэматызацыі і кадыфікацыі яго:

1) Значнае скарачэньне колькасьці законаў будзе перш за ўсё дасягнута выключэньнем усіх адмененых, застарэлых і страціўшых сілу. Ужо праца па выданьні „Зборніку чынных законаў БССР за 1921-1924 г.“ мела той вынік, што з законаў 1919-1921 г.г. прызнан чынным і практычна патрэбным толькі адзін, а з 400 законаў, выданых у 1922-1924 г.г., пакінуты ў якасьці чынных толькі 89, г. зн. 22 проц. пры скарачэньні на 78 проц. Процант скарачэньня павялічыцца да 79, калі мы прымем пад увагу, што законадаўства 1921-1924 г.г. дадзена ў Зборніку па стану на 1 кастрычніка 1927 году, гэта значыць пры яго складаньні выкарыстаны тыя законы, якія выданы ў пэрыяд 1/I-1925 г.—31/IX-1927 г., каторыя зьмянілі альбо адмянілі законы 1921-1924 г.г. Праведзеная да гэтага дня работа па законадаўстве 1925-1928 г.г. прывяла да наступных вынікаў. З 687 законаў, выданых за гэтыя гады, мы прызналі чыннымі 423. З іх

[1]) Гл. нашы арт. арт : „Асноўныя праблемы законадаўства БССР“ („Весьці НКЮ“ № 2-3 за 1927 г.) і „Аб уніфікацыі законадаўства БССР“ (там жа № 1 за той жа год).

[2]) К таму-ж мы заблуталіся-б у дэбрах тэарытычных праблем, напрыклад, праблемы кадыфікацыі гаспадарчага права, праблемы разьмежаваньня законадаўчай кампэтэнцыі і аб‘яднаньня законадаўства Саюзу ССР і саюзных рэспублік і г. д.

66 законаў прадстаўляюць сабою зьмены ў Кодэксах і 48—ў іншых законах, а 12 законаў тычацца пашырэньня законаў БССР на тэрыторыю Гомельшчыны. Усе гэтыя законы (у ліку 126) адпадаюць, бо пастановы аб зьмене законаў інкарпараваны ў тэкст асноўных законаў, а 12 „Гомельскіх“ адпадуць у выніку пашырэньня падрыхтоўваемага Зборніку поўнасьцю на тэрыторыю Гомельшчыны. Значыцца застаюцца 297 законаў, г. зн. каля 41 проц. З 120 пастаноў Эканомнарады ў выніку тэй-жа працы засталося 76, а з 89 законаў „Зборніку за 1921-1924 г.“ засталося 75. Робячы падагульненьне ўсім прыведзеным даным, мы знаходзім, што з выданых за 5 год (пачынаючы з 1922 г.) усімі законадаўчымі органамі, уключаючы і Эканомнараду, 1207 законаў, застаецца ў выніку ўжо праробленай працы 348[1]), г. зн. 38 проц.

У выніку далейшай працы колькасьць законаў скароціцца яшчэ больш. Асноўная праца яшчэ наперадзе· Яна перш за ўсё заключаецца ў тым, каб аб'яднаць паасобна і ў розныя часы выданыя законы, якія зьвязаны агульнай тэмай. Мы, напрыклад, маем няўключоныя ў Лясны кодэкс цэлы шэраг законаў па пытаньні аб лясох. Усе гэтыя законы мы мяркуем зьвесьці да 2-х—3-х, а пры магчымасьці, і ўключыць іх у Лясны Кодэкс. Таксама з законамі фінансавымі, па сацыяльным забесьпячэньні, па народнай асьвеце і г. д. Напэўна, гэта не заменіць сабою працу па складаньні новых кодэксаў, або пераапрацоўцы па сутнасьці старых, але ўсё-ж гэта прывядзе да таго, што пэўнае пытаньне, каторае законадаўчымі органамі было ўрэгулявана 3—5 пастановамі, будзе вычэрпана ў вадным законе, што значна палегчыць працоўным азнаямленьне з законамі пэўнай галіны. У некаторых выпадках прыдзецца таксама паасобныя акты падзяліць на часткі з далучэньнем паасобных частак да другіх асноўных законадаўчых актаў. Мяркуючы па маючыхся ў нас даных, колькасьць паасобных законадаўчых актаў будзе зьведзена да 300. Гэта значыць колькасьць законаў будзе скарочана на 75 проц.

2) Сыстэматычнае распалажэньне законадаўчага матар'ялу дае ня толькі мажлівасьць хутка адшукаць патрэбны закон, але і ўстанаўляе яго сувязь з блізка да яго стаячымі галінамі права, што перасьцярагае знакомячагася з даным законам ад штучнага адрыву ад рачавістасьці, ад таго „асяродзьдзя“, у каторым закон ужываецца. Гэта перасьцяражэ асобу, якая ўжывае закон, ад аднабаковасьці, каторай асабліва страдаюць спэцыялістыя. Сыстэматызацыя важна і таму, што яна зьяўляецца вялікім крокам на шляху да ўтварэньня кодэксаў. Нарэшце, у выніку сыстэматызацыі больш яскрава выяўляюцца прагалы ў законадаўстве, што зьяўляецца стымулам да іх запаўненьня.

Прапануемую намі сыстэму мы прыводзілі ў папярэднім артыкуле на гэту тэму[2]). Пагэтаму мы дамо тут толькі асноўныя заголоўкі кніг:

I. Дзяржаўны лад.
II. Законадаўства па ўнутраному кіраўніцтву і адміністрацыі.
III. Гаспадарчае законадаўства.
IV. Працоўнае законадаўства.
V. Фінансавае законадаўства.
VI. Законадаўства па культурнаму будаўніцтву.
VII. Крымінальнае законадаўства.
VIII. Законадаўства па судабудаўніцтву і судаводзтву.

---

[1]) Гэта лічба характарызуе сабою стан законадаўства БССР на 1-е студзеня 1928 г., бо законы 1919-1921 г.г. у сучасны момант апрача некалькіх актаў палітычнага значэньня ня дзейнічаюць.

[2]) На яго зроблена спасланьне ў пачатку гэтага артыкулу.

Пытачьне сыстэмы надзвычайна складанае. Нямысьліма ўтварыць такую ідэальную сыстэму, пры каторай ня ўзьнікла-б спрэчак аб зьмяшчэньні паасобных законаў у тую або іншую часьць сыстэмы. Жыцьцё вельмі складанае; у ім вельмі пераплятаюцца самыя розныя факты і нормы. Яшчэ цяжэй гэта ў нашу эпоху, калі самыя-то зьявы жыцьця, якія рэгулююцца ў законах, падпадаюць бунейшым зьменам. Тэхнічна гэта ўскладняецца і тым, што ў сыстэму ўваходзяць ужо выданыя кодэксы, каторыя мы прынцыпова ня можам разарваць, і каторыя зьяўляюцца, дзякуючы гэтаму, „дзяржавай у дзяржаве". Мы прадбачым шэраг пярэчаньняў супроць паасобных пунктаў сыстэмы. Абгрунтаваньне і абарона яе зьяўляецца, аднак, з прычыны складанасьці задачы тэмай для спэцыяльнага артыкулу [1]. У цэлым-жа гэта сыстэма, бязумоўна, правільна і ўжо апраўдала сябе ў працэсе нашай працы.

3. Праца па сыстэматызацыі і кадыфікацыі была-б зроблена толькі напалавіну, калі-б яна ня выканала трэцяй высунутай умовы. За гэтыя гады адбылося шэраг зьмен у дзяржаўным будаўніцтве, ў арганізацыі і дзейнасьці дзяржаўнага апарату, у структуры нашай экономікі і гаспадарчых прадпрыемстваў. Адпаведна таму мянялася і законадаўства. Па гэтаму апошняму можна прасачыць шэраг этапаў у разьвіцьці Савецкага Саюзу. У прыватнасьці, утвареньне Саюзу ССР, двухразовае ўзбуйненьне БССР, раёнаваньне, выданьне шэрагу кодэксаў, існаваньне агульна-саюзнага законадаўства—усе гэтыя і шмат іншыя зьявішчы прывялі да таго, што і ў законы, якія дзейнічаюць па сучасны момант, трэба ўнесьці шмат папpавак. Доказам правільнасьці нашай думкі служыць той факт, што да 82 законаў, зьмешчаных у зборніку 1921—1924 г.г. было зроблена звыш 60 паясьненьняў. У зборніку, які мае быць выданым у выніку працы па сыстэматызацыі і кадыфікацыі законадаўства, мы павінны адмовіцца ад паясьненьняў, зьмясьціўшы зьмены ў самы тэкст закону. Пры ўнясеньні зьмен трэба мець на ўвазе неабходнасьць пераводу расейскіх мер у мэтрычныя, а таксама і ўзгадненьне назваў і функцый устаноў з адбыўшайся рэарганізацыяй апарату згодна закону аб спрашчэньні апарату (З. З. за 1928 г., № 6, арт. 36). Роўналежна павінны быць выпраўлены памылкі, яўныя і лёгка запаўнімыя прагалы, зьнішчаны паўтарэньні, застарэлыя часткі і г. д. Нарэшце, у працэсе працы прыдзецца выявіць тыя пратакольныя пастановы законадаўчых органаў, каторыя часткова зьмянілі апублікаваны закон і адбіць гэтыя пастановы ў тэксьце законаў, калі гэта будзе патрэбна. Гэта частка работы можа быць прароблена толькі пры дзейным удзеле у ёй зацікаўленых ведамстваў.

## III.

Пры выкананьні гэтай працы ўзьнікае шэраг пытаньняў:

1. Якія законы павінны лічыцца чыннымі і падлягаючымі зьмяшчэньню ў зборнік? Ці дзейнічаюць законы аб абвяшчэньні незалежнасьці БССР, аб нацыяналізацыі прадпрыемстваў, аб умовах муніцыпалізацыі будынкаў, або іх належыць лічыць страціўшымі сілу з прычыны таго, што нормы, якія ў іх выкладзены, увайшлі ў склад іншых больш позных законадаўчых актаў (у Канстытуцыю БССР, у Грамадзянскі Кодэкс і г. д.) або ўжо выканалі сваё назначэньне (будынкі, падпадаючыя пад дзеяньне закона, ужо ўсе муніцыпалізаваны і да г. п). Бясспрэчна, што адмяніць іх нельга, бо нормы іх маюць працяжнае, „перманэнтнае" дзеяньне. Мы лічым, што, за выключэньнем некаторых актаў вялікага палітычнага значэньня, усе астат-

---

[1]) Уключэньне яго ў даны артыкул павялічыла-б яго ў два разы, што непажадана ды і немагчыма па тэхнічных прычынах.

нія не павінны ўвайсьці ў зборнік чыннага законадаўства БССР, але і не павінны быць абвешчаны адмененымі. Гэты прынцып павінен атрымаць афіцыйнае прызнаньне ў акце ўраду.

Такім-жа парадкам павінна быць вырашана пытаньне аб пастановах Зьездаў Саветаў і Сэсій ЦВК, якія маюць характар дырэктыў, „вызначаючых (па выражэньні Канстытуцыі) агульны кірунак дзейнасьці ўраду" на будучы час, калі праца ўжо выканана, або да гэтага часу дырэктывы застарэлі, або гэтыя дырэктывы ўвайшлі ў відзе станоўчых норм у законадаўчыя акты. Прыблізна такі падыход павінен быць і да актаў амністый. Не падлягаюць зьмяшчэньню пастановы сэсій ЦВК аб паступовым зацьвярджэньні законаў. Гэтыя пастановы павінны быць выкарыстаны праз зьмяшчэньне афіцыйнае адзнакі аб тым пад кожным зьмешчаным у зборніку актам.

2. Складаным зьяўляецца пытаньне аб пашырэньні дзеяньня ўсяго законадаўства БССР на тэрыторыю Гомельшчыны. Да гэтага часу паасобныя законы БССР атрымалі сілу на Гомельшчыне праз выданьне спэцыяльных пастанов ураду. Гэта праводзілася бяссыстэмна і выпадкова. У сучасны момант, як нам вядома, НКЮ пыдрыхтоўвае пытаньне аб пашырэньні ўсіх законаў БССР на Гомельшчыну з адменай законаў РСФСР. Мы думаем, што падрыхтоўваемы зборнік павінен быць поўнасьцю пашыран на ўсю тэрыторыю БССР.

3. Як адзначыць час уступленьня законаў ў сілу? Пытаньне складанае таму, што раней законы ўступалі ў сілу ў розныя часы на паасобных частках тэрыторыі БССР[1]). Устанавіць зараз дакладны тэрмін немагчыма. Належыць дзеля гэтага пасьля тэксту кожнага закону зазначыць, у якім нумары афіцыйнага органу ён апублікаван, а калі закон выдан пасьля выданьня пастановы „аб апублікаваньні і часу ўваходжаньня ў сілу законаў і загадаў БССР", г. зн. пасьля 1927 г., то павінен быць паказан і тэрмін, у які ён набыў законную сілу, пры чым для Гомельшчыны рабіць гэтыя адзнакі асобна. Для пазьней выданых альбо зьмененых паасобных артыкулаў закону гэтыя адзнакі павінны быць зроблены пасьля адпаведнага артыкулу.

4. У якім парадку і ў якой ступені дапушчаць падзяленьне і злучэньне законаў, выпраўленьне нязгодненасьці, памылак, прагалаў і г. д? Пры правядзеньні гэтай працы належыць прытрымлівацца па нашай думцы па магчымасьці надворнага распалажэньня норм ў акце, зьмешчаным у „Зборы Законаў" і яго нумарацыі, бо ў многалікавых абежніках і інструкцыях ведамств ёсьць спасланьні на тэкст закону, зьмешчанага ў „З. З." А трэба мець на ўвазе, што насельніцтву часьцей бывае вядома абежнік, загад або інструкцыя ведамства, чым закон. Аднак, павінны быць дапушчаны зьмены тады, калі гэта патрэбна для суцэльнасьці і зьвязанасьці законодаўчага акту з тым, каб пасьля зьмяшчэньня яго была зроблена адзнака, з якіх актаў або частак актаў, зьмешчаных у „З. З.", гэты закон складзен. Усе зьмены, дапаўненьні і выпраўленьні павінны мець санкцыю законадаўчых органаў праз зьмяшчэньне перад тэкстам „Зборніку" акта Ураду аб зацьверджаньні „Зборніку" і аб прызнаньні яго абавязковым да выкананьня. Такім чынам, розьніца ў рэдакцыі акта, зьмешчанага ў „Зборніку" з рэдакцыяй таго-ж акту, які зьмешчан раней у „Зб. Законаў" павінна вырашацца для часу пасьля выданьня „Зборніку" ў карысьць „зборніку"[2]).

---

[1]) З моманту атрыманьня ў адміністрацыйным цэнтру нумару афіцыйнага выданьня, ў каторым паказан закон.

[2]). Калі-ж розьніца заключаецца ў выпраўленьні памылак, то рэдакцыя „Зборніку" прызнаецца абавязковай і ў дапасаваньні да юрыдычных фактаў, якія ўзьніклі і да выданьня „Зборніку."

5. Пытаньне аб уводных законах і ўводных частках законаў павінна быць, па нашай думцы, вырашана наступным парадкам: уступныя законы пакідаюцца толькі ў тых выпадках, калі яны ўстанаўляюць новыя нормы і па магчымасьці павінны быць уключаны ў самы закон; уступныя часткі законаў зьмяшчаюцца ў законе, калі яны ня страцілі свайго значэньня.

* * *

Уся гэта складаная, аграмаднага значэньня праца можа быць выканана толькі пры шырокім удзеле саміх ведамстваў і іх працаўнікоў. Яна не павінна быць пладом канцэлярыі. Да жывога ўдзелу ў гэтай праця і заклікаю ўсіх чытачоў „Рэвалюцыйнай Законнасьці“.

---

**Б. Ватацы.**

# Новыя плыні ў савецкім законадаўстве аб праве забудоўкі. [1]

III.

Стаўшы на шлях інтэнсыўнага стымуляваньня жыльлёвага будаўніцтва, сучаснае савецкае законадаўства ня можа спыніцца толькі на тых мерапрыемствах, якія адбіліся ў выкладзеным законе.

Высоўваючы наперад і ўсякімі мерамі заахвочваючы кааперацыйнае будаўніцтва, законадаўца ня можа пакінуць у ранейшым становішчы і прыватнага будаўніка. Патроху высоўваюцца такога роду канструкцыі права забудоўкі, пры якіх і прыватнае будаўніцтва давала-б значны эфэкт.

Да ліку такіх мерапрыемстваў неабходна аднесьці прапановы аб зьмене пастановы, выражанай ў артыкуле 84 ГК БССР (адпаведны яму артыкул 83 грамадзянскіх кодэксаў УССР і РСФСР). На грунце прыведзенага артыкулу пабудаваныя на праве забудоўкі будынкі па спыненьні права забудоўкі за зыходам тэрміну дагавору, абавязкова пераходзяць у рукі камунальнага аддзелу. Мэта і значэньне выкладзенай нормы ясныгэта павялічэньне, законт забудоўшчыка, плошчы камунальнага фонду. Аднак гады, якія прайшлі з моманту ўвядзеньня ў дзеяньне закону аб забудоўцы, паказалі, што, ня гледзячы на абавязальнасьць узнагароды за пераходзячыя да камунальнага аддзелу будынкі, вынікі аказаліся значна меншыя, чым можна было спадзявацца, бо дамы будуюцца, галоўным чынам, спажывецкага тыпу [2].

Такім чынам, належыць прызнаць, што пастанова арт. 84 ГК БССР, калі і стварыла стымул забудоўшчыку падтрымліваць будынкі ў іспраўнасьці, то ці напэўна яна дапамагала ўмацаваньню будуемых на праве забудоўкі дамоў.

---

[1]) Працяг. Пачатак гл. № 5.

[2]) Цікава адзначыць, што ясна выцякаючае з зьместу артыкулу 84 ГК БССР палажэньне аб абавязковасьці ўзнагароды за пераходзячы да камунаддзелу дом, прызнаваемае і найболш выдатнымі савецкімі цывілістымі (праф. Гойхбарг, Раевіч, Варшаўскі), спаткала ў нас неспадзяванае пярэчаньне з боку Менскага Акруговага Выканаўчага Камітэту. Магчыма, што гэта пярэчаньне тлумачыцца наяўнасьцю украінскім ГК увагі да арт. 83 (да-рэчы зараз яно ўжо выключана), які дапушчае згоду аб бясплатным пераходзе будовы да камунаддзелу.

А між тым дзяржава зацікаўлена ў пабудове дамоў, як раз больш буйных разьмераў, якія маглі-б значна павялічыць жыльлёвую плошчу данага гораду.

Адным з магчымых да гэтага мерапрыемстваў зьяўляецца прадастаўленьне забудоўшчыку права астаўленьня за сабою пабудаваных ім будынкаў пасьля сканчэньня тэрміну дагавору аб забудоўцы. Да гэтай як раз думкі прыйшла, у выніку шырокага абсьледваньня будаўнічай справы Рэспублікі, Калегія НКРСІнспэкцыі, каторая ў лік пытаньняў, якія патрабуюць законадаўчага афармленьня, уключыла таксама пераход у ўласнасьць забудоўшчыка пабудаваных ім будынкаў па зыходзе тэрміну дагавору аб забудоўцы.

Складзены НКЮ і НКУС законапраект абмяжоўваецца пакуль толькі павялічэньнем гранічных тэрмінаў, на каторыя дапушчаецца заключаць дагаворы аб забудоўцы „да 65-ці год для каменных і 45-ці год—для драўляных будынкаў“.

## IV.

У імкненьні знайсьці рэальныя сродкі да пашырэньня жыльлёвага будаўніцтва, калегія НКРС Інспэкцыі выказала (у тым-жа пратаколе № 47 за 30/XI-26 г.) яшчэ адно пажаданьне—аб унясеньні ў нашы законы асобнай пастановы „аб праве заняцьця пад халодныя і жыльлёвыя будынкі свабодных месц на вучастках, якія няпоўнасьцю забудаваны, і аб правох уладальнікаў гэтых вучасткаў на пабудаваньне на іх новых жыльлёвых халодных будынкаў“.

Пастаноўка паказанага вышэй пытаньня ў парадак, так сказаць, законадаўчага дня ўпаўне своечасова.

Справа ў тым, што па чынным ў сучасны момант законадаўстве БССР пытаньне аб праве ўласьнікаў немуніцыпалізаваных будынкаў на пабудаваньне на вучастках такога роду домаўладаньняў новых будынкаў і на дабудоўку, перябудоўку і надбудоўку старых належыць лічыць адчыненым. Прамога адказу аб тым, ці мае ўласьнік немуніцыпалізаванага або дэмуніцыпалізаванага домаўладаньня права на такія дзеяньні, а таксама, калі мае, то якім шляхам ён можа ажыцьцявіць,—у законе ня маецца. Праўда, па аналёгіі і зьместу арт. 15 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу БССР (З. З. БССР 1925 г., № 43, арт. 353), можна заключыць, што пабудаваньне новых будынкаў на вучастках немуніцыпалізаваных домаўладаньняў патрабуе папярэдняга заключэньня ўласьнікам немуніцыпалізаванай будовы з адпаведным камунальным аддзелам дагавору аб праве забудоўкі на падставе арт. арт. 81—86 ГК БССР.

Да гэтага вываду прыходзяць звычайна і з таго меркаваньня, што чынны закон не дапушчае ўзьнікнавеньня зноў права прыватнай ўласнасьці на будову—дзяржава, кажуць, быццам толькі церпіць права тых уласьнікаў, дамы каторых былі пабудаваны яшчэ да Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

З пункту гледжаньня звычайна прынятых правіл тлумачэньня закону выкладзены вывад нельга прызнаць бясспрэчным, бо норма арт. 15 Палажэньня аб зямельных распарадках тычыцца толькі прыватнага выпадку—зьнішчэньня або зруйнаваньня будынкаў ў выніку якіх-небудзь стыхійных няшчасьцяў. Ці можна, па аналёгіі, прыведзеную норму дапасаваць і да ўсіх астатніх выпадкаў, г. зн. да выпадкаў, паказаных вышэй, і да выпадку пабудаваньня будынкаў на месцы ўстарэлага або зруйнованага ня з прычыны стыхейнага няшчасьця, а з прычыны, напрыклад, натуральнай ізношанасьці, грыбка або іншых няспрыяючых умоў?—Трэба думаць, што не. А ў такім выпадку як-жа быць? Закон маўчыць, а між тым жыцьцё настойліва патрабуе таго або іншага яго разьвязаньня.

Але, калі нават і згадзіцца з прыведзеным вышэй тлумачэньнем, то Палажэньне ўсё-ж нельга прызнаць упаўне спрыяючым. Зьвернемся да прыкладаў.

Для пабудаваньня на вучастку немуніцыпалізаванага домаўладаньня новых будынкаў заключаецца з камунальным аддзелам дагавор аб забудоўцы. У выніку ствараецца складаны камплект праў: на адным і тым-жа вучастку два дамы, зьвязаныя агульным дваром, службамі, вадаправодам і інш., прыналежаць аднэй і тэй-жа асобе на розных правох: адзін на праве ўласнасьці і другі—на праве забудоўкі. Варта ўладальніку прадаць адзін дом аднэй асобе, а права забудоўкі другому (а гэта магчыма), і створыцца надзвычайная блытаніна. Ня меншая блытаніна створыцца і пры пераходзе, а таксама спыненьні права забудоўкі на падставе арт. арт. 83 і 84 ГК БССР. Як вырашыць калізію праў гэтых двох уладальнікаў: камунальнага аддзелу, з аднаго боку, і ўласьніка немуніцыпалізаваных будынкаў, сказаць трудна.

Напэўна, яшчэ больш складанае юрыдычнае палажэньне ўтворыцца пры заключэньні дагавору (у парадку арт. 85 ГК БССР) на дабудоўку, надбудоўку або перабудоўку немуніцыпалізаванага дому. Тут мы рызыкуем, напэўна, васкрасіць сумнай памяці[1] эксдывізорскае права, паводле каторага дом прыналежаў некалькім (лік іх даходзіў да 35) асобам, але не на праве агульнай ўласнасьці, пры каторай кожнаму ўласьніку прыналежыць ідэальная доля ў агульнай ўласнасьці, а на асобным праве, калі кожнаму з ўласьнікаў прыналежыць права на вызначаную, вылучаную, частку дома, напрыклад, тры пакоі другога паверху, або два пакоі трэцяга і г. д. [1])

Праўда, нам могуць пярэчыць, што запутаны вузел можна расьсеч, калі яго трудна разьвязаць. Можна, напрыклад, увесьці пастанову, паводле якой ўладальнік немуніцыпалізаванага домаўладаньня, які заключыў з камунальным аддзелам дагавор у парадку арт. арт. 71—86 ГК БССР на вытварэньне тых або іншых, зазначаных вышэй, будаўнічых работ на вучастку яго домаўладаньня, гэтым самым і ўсё домаўладаньне цалком пераходзіць з становішча прыватна ўладальніцкага ў становішча будынку, пабудаванага на праве забудоўкі. Гэта было-б сапраўды спрашчэньнем, але ці ня было-б гэта рэквізыцыяй, для каторых законам устаноўлены спэцыяльныя ўмовы і парадак?

Перад Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспекцыі, напэўна, паўсталі ўсе выкладзеныя пытаньні, чым і аб'ясьняецца высунутая ім прапанова, аб якой выкладзена вышэй.

На спатканьне гэтай прапанове пайшлі Народныя Камісарыяты Унутраных Спраў і Юстыцыі і ўнесьлі ў Савет Народных Камісараў асобны законапраект „аб заахвочваньні жыльлёвага будаўніцтва“.

Асноўныя палажэньні гэтага законапраекту, разгледжанага ўжо ў камісіі законадаўчых праектаў пры СНК, зводзяцца да наступнага:

1. Уласьнікам жылых будынкаў даецца права дабудоўваць, перабудоўваць і надбудоўваць на праве ўласнасьці прыналежачыя ім будынкі без заключэньня якіх-небудзь дагавораў з органамі мясцовай гаспадаркі.

---

[1]) „Эксдывізорскае права“ ўзьнікла ў гор. Вільні ў першай палове XVIII стагодзьдзя на грунце ўжываньня Літоўскага статуту: маемасьць даўжніка (напрыклад, дом) аддавалася ў уласнасьць крэдытора, пры чым яна падзялялася між крэдыторамі на рэальныя часткі, прапарцыянальна даўгавым прэтэнзіям.

Вынік такога арыгінальнага права ясен: уласьнік, напрыклад, крамы ў першым паверсе не зацікаўлен у рамонце верхніх паверхаў, таксама як уласнік трэцяга паверху ня стане траціць сродкаў на рамонт ніжніх паверхаў. Усё гэта вяло да надзвычайнага ўстарэньня эксдывізорскіх дамоў.

2. Уласьнікі будынкаў маюць права на вучастку зямлі, які абслугоўвае домаўладаньне, будаваць на праве ўласнасьці новыя жылыя зьвязаныя імі няжыльлёвыя будынкі без заключэньня якіх-небудзь цагавораў з органамі мясцовай гаспадаркі.

3. Калі зямельны вучастак, які абслугоўвае домаўладаньне, перавышае ўстаноўленую для сядзібных вучасткаў норму больш чым на 50 проц. (арт. арт. 9 і 12 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох), і калі гэты лішак можа быць вылучан бяз шкоды для нармальнага вядзеньня гаспадаркі на астатняй частцы вучастку і забясьпечан асобным праездам да вуліцы, то орган мясцовай гаспадаркі мае права перадаць лішак зямлі пад забудоўку таму-ж уласьніку або іншым асобам на падставе арт. арт. 71—86 Грамадзянскага Кодэксу БССР.

4. Усе ільготы, якія ўстаноўлены чыннымі законамі для забудоўшчыкаў і іх жыльцоў, пашыраюцца таксама і на асоб, зазначаных у прыведзеным законе, пры чым ільготы гэтыя пашыраюцца, як агульнае правіла, на зноў пабудаваныя будынкі альбо на дабудоўку, прыбудоўку і г. д.; але ільготы пашыраюцца і на ўсё домаўладаньне цалкам, калі ў выніку забудоўкі атрымалася новая жыльлёвая плошча, якая складае ня менш 50 проц. быўшай раней плошчы.

Выражаны ў выкладзеным законапраекце прынцып не зьяўляецца навінай у савецкім законадаўстве.

Яшчэ ў самым канцы 1925 г. на Украіне было выдана аналёгічная пастанова (З. З. УССР, 1925 г., № 96, арт. 525), якая адрозьніваецца ад унесенага ў Савет Народных Камісараў БССР законапраекту тым, што ня ўводзіць ніякіх абмежаваньняў уласьніка немуніцыпалізаванага домаўладаньня. А між тым наш практ устанаўляе два істотных абмежаваньні.

Першае—гэта тое, што на праве ўласнасьці дазваляецца будаваць ня ўсякія будынкі, а толькі жыльлёвыя або абслугоўваючыя няжыльлёвыя будынкі. Такім чынам праектуемым законам больш яскрава, чым гэта зроблена ў украінскім законе, выражана асноўная яго мэта—заахвочваньне менавіта жыльлёвага будаўніцтва.

Другое абмежаваньне, уведзенае згодна паказаньням НКУС, тычыцца разьмера плошчы, на якой дазваляецца забудова на праве ўласнасьці. Бязумоўнае права забудоўкі на праве ўласнасьці прыналежыць уласьніку немуніцыпалізаванага домаўладаньня толькі ў межах нармальнай сядзібнай плошчы, калі-ж плошча вучастку вельмі вялікая (гл. вышэй), органу мясцовай гаспадаркі прадастаўляецца, пры паказаных вышэй ўмовах, вылучыць лішак. Закон, напэўна, мяркуе поўную гаспадарчасьць дзеяньняў органу мясцовай гаспадаркі, катораму ёсьць сэнс скарыстаць дадзенае яму права толькі пры тэй ўмове, што падлеглы вылучэньню зямельны вучастак досыць вялікі і ўдобны па сваёй сытуацыі, каб стаць плошчаю для самастойнага домаўладаньня. [1])

Імкненьне разьвінуць будаўніцтва дало падставу яшчэ аднэй норме, которая ўпяршыню зьявілася ў украінскім законадаўстве, але, трэба меркаваць, не замарудзіць атрымаць права грамадзянства і ў законадаўстве іншых саюзных рэспублік. Мы гаворым аб артыкуле $71^1$ ГК УССР у рэдакцыі закону за 30 мая 1926 г. На падставе гэтага закону пашыраецца круг органаў, катоғым даецца права здаваць знаходзячыяся ў іх распараджэньні зямельныя вучасткі пад забудоўку. Да паказанага закону па ГК УССР таксама, як і па грамадзянскіх кодэксах БССР і РСФСР, гэтым правам карысталіся толькі органы мясцовае гаспадаркі, г. зн. камунальныя і зямельныя аддзелы і іх замяняючыя, а ў вядомых выпадках

[1]) Першая частка гэтага арт. была ўжо надрукавана, калі быў апублікаваны закон аб заахвочваньні жыльлёвага будаўніцтва (гл. „Сав. Бел.", № 102—1928 г.).

(увага да арт. 60 Зямельнага Кодэксу БССР) і зямельныя грамады. Па арт.-ж 71[1] Грамадзянскага Кодэксу УССР паказанае права даецца таксама дзяржаўным прамысловым прадпрыемствам, якія пераведзены на камэрцыйны разрахунак, каторыя „могуць здаваць сваім рабочым і служачым пад забудоўку на падставах, якія вызначаны арт. арт. 71—83 ГК, паасобныя вучасткі зямлі, які знаходзяцца па-за межамі гарадзкой паласы, якія лічацца за гэтымі прадпрыемствамі“. У выпадку страты прадпрыемствам па якіх, небудзь прычынах права на зямлю, у межах якой разьмешчаны здадзеныя пад забудоўку вучасткі, дагаворы аб забудоўцы захоўваюць сілу да зыходу ўстаноўленых у іх тэрмінаў, а правы і абавязкі прадпрыемстваў ў адносінах забудоўшчыка пераходзяць да органаў Народнага Камісарыяту Земляробства або Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, па прыналежнасьці.

Падводзячы вынікі, мы павінны канстатаваць, што за кароткі параўнаўча пэрыяд часу існаваньня права будаўніцтва ў савецкім законадаўстве моцна разьвінулася і абагацілася новымі відамі. У розных канцох Саюзу ССР намеціліся новыя шляхі.

Большая частка новых, паказаных вышэй плыняў прабівае сабе дарогу і ў законадаўстве БССР. Зараз у нас распрацоўваецца жыльлёвы кодэкс, у які будуць, паводле яго праграмы, перанесены ўсе праўныя нормы, якія рэгулююць будаваньне новых будынкаў і адбудаваньне існуючых. Трэба спадзявацца, што гэты кодэкс убярэ ў сябе ўсё лепшае з новых плыняў, а таксама ўдасканаліць і разьвіне існуючыя ўжо нормы аб праве забудоўкі.

---

Пасьля надрукаваньня першай часткі гэтага артыкулу („Рэвал. Зак.“, № 5), была апублікавана ў „Савецкай Беларусі“, № 101, пастанова ЦВК і СНК БССР „пра зьмену разьдзелу Грамадзянскага Кодэксу аб праве забудоўкі“.

Паказаны закон зьяўляецца пераапрацоўкай усяго разьдзелу аб праве забудоўкі на асновах вышэйпаказанага агульнасаюзнага закону і прапаноў НК Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі.

Параўнальна з нормамі, якія зьмяшчаліся ў арт. арт. 71—86 ГК БССР, выданьня 1927 г., новы закон дае наступныя новыя нормы.

1. Акрамя органаў камунальнай гаспадаркі і зямельных органаў, вучасткі пад забудоўку могуць здаваць яшчэ дзяржаўныя прамысловыя трэсты.

2. Тэрміны, на якія здаюцца дзялянкі пад забудоўку, павялічаны: на 5 год для каменных і на 10 год для драўляных звыш папярэдніх тэрмінаў.

3. Дазваляецца здача дзялянак пад забудоўку ў бястэрміновае карыстаньне рабочым і агульна-грамадзянскім жылішчна-будаўнічым каапэрацыйным таварыствам.

4. Забудоўшчыку, які пабудаваў усе ўмоўленыя дагаворам будынкі, дазваляецца далей будаваць на тэй жа дзялянцы і іншыя, не прадугледжаныя дагаворам будынкі, паводле існуючых будаўнічых і санітарных норм, без заключэньня другога дагавору.

5. Права забудоўкі можа адчужацца, перадавацца ў спадчыну (гэта дазвалялася і папярэднім законам). Але аддавацца ў заставу права забудоўкі можа толькі тады, калі гэта прадугледжана дагаворам аб праве забудоўкі. Такім чынам, у адзнаку ад правіла арт. 80 ГК БССР, выд. 27 г., цяпер права заставы права забудоўкі абмежавана—яна дапушчаецца толькі з дазволу органу, які здае дзялянку пад забудоўку.

6. Таксама, па разглядаемаму закону, абмяжоўваецца і права продажу права забудоўкі—яго дазваляецца прадаваць бесьперашкодна толькі пасьля сканчэньня абумоўленых дагаворам будынкаў, а да гэтага часу права забудоўкі можа адчужацца толькі з дазволу органу, які аддаў зямлю пад забудоўку.

7. Кошт будынкаў, якія пераходзяць пасьля сканчэньня тэрміну дагавору да органу, здаўшаму вучастак зямлі пад забудоўку, устанаўляецца па згодзе забудоўшчыка з тым органам, да якога пераходзіць права забудоўкі, а калі такой згоды няма, то судом.

8. У артыкулах 86, 86-а і 86-б даюцца падрабязныя правілы аб здачы муніцыпалізаваных домаўладаньняў для дабудоўкі, аднаўленьня будынкаў, надбудоўкі новых паверхаў, прыбудоўкі, а таксама для перабудоўкі малых будынкаў на дамы з вялікай кубатурай. Калі для выкананьня будаўнічых работ патрэбна высяленьне наймальнікаў кватэр, то орган, які перадаў домаўладаньне пад дабудоўку і г. д., павінен даць высяляемым асобам годную для жыльля плошчу паводле існуючай нормы. У дагаворы аб забудоўцы гэты абавязак можа быць ускладзены на забудоўшчыка.

Такім чынам, з выданьнем пастаноў: а) аб праве забудоўкі („Сав. Беларусь“, № 101) і б) пра заахвочваньне да жылішчнага будаўніцтва („Сав. Бел.,“ № 102), у беларускае права ўведзены новыя нормы, маючыя сваёй задачай пашырэньне будаўніцтва, асабліва жыльлёвага. Будучае пакажа, ці спыніцца на гэтым наша законадаўства, або права забудоўкі яшчэ больш зьменіцца.

---

**А. Вішнеўскі.**

# Пра водна-мэліарацыйны кодэкс БССР[1]).

Канстытуцыя БССР абвяшчае дзяржаўнаю ўласнасьцю ўсе землі, воды, лясы і нетры. Правы і абавязкі насельніцтва ў адносіне зямель, горных багацьцяў і лясоў вызначаюцца горным палажэньнем СССР, зямельным і лясным кодэксам, а таксама іншымі законамі, якія былі выданы ў разьвіцьцё гэтых кодэксаў. Рэгуляваньне-ж воднае гаспадаркі рабілася да гэтага часу на падставе пераважна ведамсьцьвеных распараджэньняў.

Між тым у сувязі з разьвіцьцём народнае гаспадаркі ў розных яе галінах усё павялічваецца скарыстаньне існуючых у рэспубліцы вадазбораў. Сельская гаспадарка карыстаецца імі ў нас для асушкі балот і для рыбнага промыслу. Гандаль скарыстоўвае ўласьцівасьць вадазбораў, якія служаць найбольш выгоднымі і таннымі шляхамі зносін для перавозу і сплаву цяжараў, якія ня вытрымліваюць дарагога чыгуначнага тарыфу. Прамысловасьць выкарыстоўвае сілу руху вады для пабудаваньня млыноў, электрастанцый, лесапілак і другіх прадпрыемстваў.

Адзін і той-жа вадазбор можа служыць для задавальненьня розных патрэб. Гэта даводзіць да сутычкі інтарэсаў шэрагу вадакарыстальнікаў і неабходнасьці рэгуляваць гэтыя інтарэсы, вызначыўшы законам правы іх на воды.

Разам з тым у БССР стаіць праблема мэліарацыі, бо тут каля 20 проц. тэрыторыі прадстаўляе нявыгодную зямлю, а побач з тым 35 проц. сялянскіх гаспадарак не задаволена сельска-гаспадарчымі ўжыткамі. Трэба асушыць балоты і аблясіць пяскі. Выканаць усе гэтыя работы на свае сродкі дзяржава ня можа. Яна рэгулюе толькі рэкі, каб зрабіць магчымай асушку балот, і праводзіць на бюджэтныя сродкі магістральныя

[1]) Гэты кодэкс ужо вышаў з друку, які зьмешчан ў № 14 Зб. Зак. і Заг. БССР—1928 г.

каналы, якія работы ня могуць быць выкананы за кошт насельніцтва. Усе-ж іншыя мэліарацыйныя работы павінны быць зроблены землякарыстальнікамі.

Для ажыцьцяўленьня гэтых работ неабходна найперш вызначыць правы насельніцтва на мэліараваныя ім землі. Трэба ўтварыць магчымасьць асушкі такіх плошчаў, якія знаходзяцца ў карыстаньні многіх асоб, праз аб'яднаньне іх у таварыствы. Належыць палегчыць ім мэліарацыйную працу, арганізаваўшы неабходны крэдыт. Праводзіць мэліарацыйныя работы, як паказала практыка, вельмі цяжка бяз праўнага абасваваньня.

Усё гэтае выклікала неабходнасьць распрацоўкі ў нас водна-мэліарацыйнага кодэксу. Праект яго быў складзен Народным Камісарыятам Земляробства яшчэ ў канцы 1926 г. і паслан на заключэньне ўсім зямельным органам БССР, народным камісарыятам земляробства саюзных рэспублік і вышэйшым навуковым і навучальным установам. Многія з іх далі свае вельмі каштоўныя заўвагі. У прыватнасьці, пры канчатковым рэдагаваньні кодэксу законадаўчымі органамі БССР скарыстаны заключэньні тэхнічных камітэтаў народных камісарыятаў земляробства РСФСР і УССР, Ленінградзкага гідралёгічнага інстытуту, Самарскага і Адэскага сельскагаспадарчых інстытутаў.

Выданы ў нас водна-мэліарацыйны кодэкс складаецца з двух частак і ў сапраўднасьці прадстаўляе сабою два кодэксы. Першая яго частка— гэта водны кодэкс, а другая—кодэкс мэліарацыйны.

Першая частка кодэксу вызначае абавязкі і правы насельніцтва на розныя вадазборы і рэгулюе ўсялякія віды вадакарыстаньня, апроч мэліарацыі.

Усе вадацёкі, а таксама стаячыя вадазборы па сваім праўным становішчы дзеляцца на тры катэгорыі. Да першай належаць студні, пруды, сажалкі, крыніцы і іншыя невялічкія вадазборы, якія цалкам зьмяшчаюцца ў межах паасобных гаспадарак. Вадазборы гэтыя знаходзяцца ў поўным іх карыстаньні. Падарожныя могуць бясплатна браць ваду з паказаных вадазбораў толькі для піцьця. Суседзі карыстаюцца імі па згодзе з тэй гаспадаркай, на зямлі якой знаходзіцца вадазбор. Калі-ж няма згоды, і не хапае ў данай мясцовасьці добрай для піцьця вады, то ўмовы агульнага карыстаньня вадою вызначаюцца абавязковаю пастановаю мясцовага савету.

Да другой катэгорыі аднесены грамадзкія вадаправоды, студні, невялікія азёры і іншыя вадазборы, якія знаходзяцца на ўсёй даўжыні сваіх берагоў у межах зямельных грамад, паселішчаў і мэліарацыйных таварystваў. Гэтыя вадазборы зьяўляюцца аб'ектам поўнага карыстаньня паказаных аб'яднаньняў. Асобы, якія не ўваходзяць у склад даных паселішчаў, зямельнае грамады ці таварыства, могуць браць ваду для піцьця і вадапою з грамадзкіх вадазбораў. За карыстаньне вадою можа паводле пастановы мясцовага савету быць устаноўлена плата для папаўненьня выдаткаў на іх пабудову і ўтрыманьне.

Вялікія рэчкі, азёры, малыя рэчкі і каналы, якія выходзяць за межы зямель паселішчаў, грамад і таварыстваў, належаць да вод агульнага карыстаньня. Усе грамадзяне, таварыствы і ўстановы маюць права бясплатна карыстацца гэтымі вадазборамі для патрэб сельскай і хатняй гаспадаркі, саматужнай вытворчасьці, пераездаў, перавозкі і сплаву цяжараў.

Для ажыцьцяўленьня агульнага карыстаньня на берагох вадазбораў вызначаецца паласа шырынёю ад 1 да 15 мэтраў, лічачы ад грэбня берагу. Права на карыстаньне берагавою паласою ўзьнікае аднача́сна з распачацьцем суднаходзтва, сплаву альбо іншага карыстаньня вадою. Шкода,

зробленая сельскай гаспадарцы на берагавой паласе пры ажыцьцяўленьні права агульнага карыстаньня вадою, ня сплачваецца, бо паласа гэтая знаходзіцца ў абмежаваным карыстаньні прыбярэжных жыхароў.

Эксплёатацыя воднае энэргіі для вададзеючых пабудоў дазваляецца зямельнымі органамі. Шкода, якая робіцца будаваньнем вададзеючых прадпрыемстваў іншым такім самым прадпрыемствам і прыбярэжным землякарыстальнікам ад падтопу ляжачых вышэй зямель, сплачваецца за кошт уладара пабудовы, зрабіўшай шкоду. Кожная такая пабудова павінна ў ставе мець мерны знак, на якім выразна адзначаецца найбольшы дазволены ўзровень вады.

Калі берагі невялічкіх вадазбораў знаходзяцца ў карыстаньні розных асоб, то кожная з іх мае аднолькавае права на карыстаньне ўсім вадазборам. Калі-ж такі вадазбор высахне, то кожны з прыбярэжных землякарыстальнікаў мае права на частку рэчышча альбо дна вадазбору да яго сярэдзіны адпаведна з даўжынёю берагоў. Рэчышчы-ж, пакінутыя зьмяніўшым сваё цячэньне вадазборам агульнага карыстаньня, уваходзяць у склад дзяржаўнага запаснага фонду, калі не належаць да залічэньня ў склад гарадзкіх зямель спэцыяльнага прызначэньня.

Першая частка кодэксу рэгулюе таксама сплаў лесу і рыбны промысел і падрабязна вызначае абавязкі ўсіх вадакарыстальнікаў па ўтрыманьні вадазбору ў парадку, санітарнай ахове вод і спосабах змаганьня з разводзьдзем.

Другая частка кодэксу зьмяшчае правілы, якія спрыяюць мэліарацыям, вызначаюць іх працэс і парадак вырашэньня зьвязаных з імі спрэчак.

Усякая мэліарацыя ажыцьцяўляецца на падставе зацьверджанага ў належным парадку праекту. Толькі нязначныя мэліарацыі вод і зямель у інтарэсах хатняе гаспадаркі могуць рабіцца без асобнага дазволу пры ўмове, што яны ня шкодзяць суседнім землякарыстаньням.

Калі для мэліарацыйных пабудоў неабходна адабраньне зямлі, то яно робіцца ў парадку земляўпарадкаваньня, пры гэтым даецца замена, і сплачваюцца страты. У большасьці-ж выпадкаў для правядзеньня асушальных канаў ня трэба адбіраць зямлю. Тут неабходны альбо згода тых землякарыстальнікаў, праз землі якіх канава праводзіцца, альбо дазвол зямельных органаў. На самой справе, калі пракопваюць канаву праз балота, ніякага адабраньня зямлі ня робіцца. Перад асушкай зямля была зьмешана з вадой і складала балота. Пасьля правядзеньня асушальнай канавы зямля найчасьцей становіцца сухім сенакосам, а вада зьбіраецца ў адно месца—канаву, пры чым агульная плошча ранейшага балота ад гэтага не зьмяняецца і застаецца ў руках тых-жа землякарыстальнікаў.

Праз асушку балота і ўтварэньне з яго сенакосу землякарыстальнікі атрымоўваюць прыбытак, дзеля чаго яны павінны прыняць удзел у выдатках па правядзеньні канавы. Бывае часам, што мэліарацыйная пабудова прыносіць гаспадаркам страты, напрыклад, канава перасякае засеянае поле альбо праходзіць праз узвышэньне, якое аддзяляе балота ад рэчкі, і гэтым яшчэ больш высушвае гэтую высокасьць. Усе гэткія страты павінны быць на агульных падставах аплочаны тымі, ў чыіх інтарэсах робіцца мэліарацыя.

Перад мэліарацыяй насельніцтвам няўжытковых зямель, якія ўваходзяць у склад дзяржаўнага запаснага фонду, зямельныя органы ўстанаўляюць норму землякарыстаньня. Для сельска-гаспадарчых калектываў яна не павінна перавышаць падвойнай а для паасобных гаспадарак—паўторнай максымальнай. Правільна мэліараваныя сялянамі землі замацоўваюцца ў іх працоўнае карыстаньне і звальняюцца ад падаткаў на тэрмін да пяці год.

Калі мэліарацыі патрабуе плошча, якая належыць да многіх землякарыстальнікаў, то заява большасьці іх аб жаданьні мэліараваць гэтую плошчу абавязвае меншасьць на ўваход у мэліарацыйнае таварыства. Апошняе пасьля прыняцьця статуту і зарэгістраваньня яго акруговым зямельным аддзелам карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнае асобы.

Зямельныя органы бясплатна абслугоўваюць мэліарацыйныя таварыствы сваім тэхнічным апаратам. Таварыства карыстаецца правам на атрыманьне пазычак з мэліарацыйнага фонду. Пагашэньне пазычак забясьпечваецца ўраджаем з мэліараванай плошчы, а таксама і маемасьцю членаў таварыства ў межах, якія вызначаны статутам. Пачаць работы таварыства павінна не пазьней будаўнічага сэзону, наступнага за зацьвярджэньнем мэліарацыйнага праекту.

Мэліарацыйны працэс па кодэксу складаецца з наступных стадый: узбуджэньне справы, адшуканьні, складаньне праекту, тэхнічная яго праверка зямельнымі органамі, прад'яўленьне зацікаўленаму насельніцтву, разгляд спрэчак зямельнымі камісіямі і, нарэшце, выкананьне. У тым-жа парадку разглядаюцца праекты торпараспрацовак.

Мэліарацыйныя справы пачынаюцца як па хадайніцтве зацікаўленых асоб, так і па пастанове зямельных органаў. Хадайніцтвы аб мэліарацыі накіроўваюцца ў акруговы зямельны аддзел. Ён, калі прызнае хадайніцтва грунтоўным, робіць праз сваіх тэхнікаў мэліарацыйныя адшуканьні бясплатна для таварыстваў і за асобную плату для іншых землякарыстальнікаў. Шкода, якая робіцца пры адшуканьнях, сплачваецца за кошт паднявўшых хадайніцтва аб адшуканьнях. Разьмер шкоды ўстанаўляецца па згодзе альбо па ацэнцы. Адшуканьні ня спыняюцца незалежна ад таго, ці будзе дасягнута згода, ці будзе паданы іск у зямельную камісію аб сплаце за шкоду. Шкода, якая робіцца лясной гаспадарцы прарубкаю прасек, а таксама скарыстаньнем драўніны для мэліарацыі, не аплочваецца.

На падставе матар'ялаў і зьвестак, якія атрыманы пры адшуканьнях, складаецца мэліарацыйны праект. У ім павінны зьмяшчацца ўсе тэхнічныя, юрыдычныя і эканамічныя даныя. Калі каштоўнасьць работ па праекту не перавышае 50.000 руб., ён разглядаецца з тэхнічнага боку і канчаткова зацьвярджаецца акруговым водна-мэліарацыйным камітэтам. Калі-ж каштоўнасьць работ перавышае гэтую суму, акруговы камітэт дае па праекту толькі сваё заключэньне і прадстаўляе яго на канчатковы разгляд водна-мэліарацыйнага камітэту пры Народным Камісарыяце Земляробства.

Зацьверджаны з тэхнічнага боку праект паказваецца потым на месцы зацікаўленаму насельніцтву. Калі ў 2-тыднёвы тэрмін на праект не паступіць скарг, ён выконваецца ў натуры. У выпадку-ж падачы, скарг яны разам з праектам накіроўваюцца на разгляд па падсуднасьці зямельнай камісіі ці народнаму суду. У гэтым разе праект выконваецца толькі пасьля набыцьця законнай сілы судовым рашэньнем.

Зямельныя камісіі разглядаюць скаргі на мэліарацыйныя праэкты, калі мэліарацыя робіцца на землях працоўнага карыстаньня, лясных і дзяржаўных зямельных маемасьцяй. Калі-ж мэліарацыя праводзіцца на землях гарадзкіх і спэцыяльнага прызначэньня, то справу разглядае народны суд.

Нарэшце, кодэкс прадугледжвае ўтрыманьне ў парадку мэліарацыйных пабудоў і вызначае асновы мэліарацыйнага крэдыту.

Выданьне водна-мэліарацыйнага кодэксу дае мэліарацыям праўную падставу і ўтварае ўмовы, спрыяючыя іх далейшаму разьвіцьцю.

Круцялёў П., Альтшуль Д.

# Адміністрацыйныя пакараньні па савецкім заканадаўстве.

(*Да выданьня Адм. Кодэксу БССР*).

У бягучы момант адміністрацыйнае права саюзных рэспублік абмяжоўваецца паасобнымі законадаўчымі актамі, і толькі УССР мае кадэфікаванае законадаўства—„Адміністрацыйны Кодэкс“. РСФСР прыступіла да кадэфікацыі і склала пракет Адміністрацыйнага Кодэксу.

БССР да гэтага часу ня мае свайго Адміністрацыйнага Кодэксу, і накладаньне пакараньняў у адміністрацыйным парадку прадугледжваецца ў палажэньні аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб налажэньні за іх парушэньне пакараньняў у адміністрацыйным парадку (пастанова ЦВК і СНК БССР ад 10/VII-25 г.). Зразумела, гэтае палажэньне не прадугледжвае ўсебакова адміністрацыйнае права БССР, чым і выклікаецца патрэбнасьць выданьня Адміністрацыйнага Кодэксу, да распрацоўкі якога і прыступілі. Маючы на ўвазе, што пытаньне аб адміністрацыйных пакараньнях павінна заняць галоўнае месца ў новым законадаўчым акце, мы і ставім сваёй мэтай выказаць некаторыя думкі, якія неабходна прыняць пад увагу пры выданьні Адміністрацыйнага Кодэксу БССР.

Высьвятляючы гэтае пытаньне, нам патрэбна будзе скарыстаць практыку і іншых рэспублік у адміністрацыйным законадаўстве.

Па нашым савецкім законадаўстве, адміністрацыйныя пакараньні абмяжованы, апроч спэцыяльных выпадкаў, т. з. абавязковымі пастановамі—за парушэньне норм, паказаных у абавязковых пастановах, адпаведныя адміністрацыйныя органы маюць права ўжываць адміністрацыйныя пакараньні без папярэдняга судовага разбору. Пры выданьні абавязковых пастаноў, абавязкова трэба адзначыць, якія-ж меры адміністрацыйнага пакараньня будуць ужывацца да асоб, парушаючых гэтакія нормы. Пры ўстанаўленьні відаў і разьмераў адміністрацыйных пакараньняў, адміністрацыйныя органы павінны быць чым-небудзь абмяжованы, бо нельга, каб кожны орган беспасрэдна выпрацоўваў для сябе асобныя нормы. Да гэтага часу гэтае абмежаваньне праводзілася самастойна ў кожнай рэспубліцы, і толькі 4/I-28 г. была выдадзена пастанова ЦВК і СНК СССР аб агранічэньні накладаньня штрафаў у адміністрацыйным парадку, што датычыцца да ўсіх саюзных рэспублік.

Віды адміністрацыйных пакараньняў не аднолькавы ў розных рэспубліках; напэўна, спэцыфічныя асаблівасьці кожнай рэспублікі маюць сваё значэньне пры ўстанаўленьні мер адміністрацыйнага пакараньня.

У большасьці савецкіх рэспублік, за парушэньне абавязковых пастаноў, як мера адміністрацыйнага пакараньня ўжываецца, штраф і прымусовыя работы, а ў УССР ужываюцца ганьбаваньне і арышт.

Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР ад 4/I-28 г., „накладаньне ў адміністрацыйным парадку штрафу дапушчаецца толькі: а) калі гэтыя штрафы прама ўстаноўлены законам; б) калі яны ўстаноўлены інструкцыямі і абавязковымі пастановамі ведамстваў Саюзу ССР і саюзных рэспублік у выпадках і межах, вызначаемых законамі; в) калі яны ўстаноўлены абавязковымі пастановамі мясцовых саветаў у выпадках і межах, вызначаемых законам“.

Што-ж датычыцца разьмеру штрафу за парушэньне абавязковых пастаноў, то ўстанаўляецца максымальны—больш якога нельга накладаць.

Да выданьня пастановы ЦВК і СНК СССР, ад 4/I-28 г. аб агранічэньні накладаньня штрафу ў адміністрацыйным парадку ня было максымальнага разьмеру для ўсіх саюзных рэспублік, і кожная рэспубліка выпрацоўвала свой максымум. Напрыклад, паводле дзейнічаючага палажэньня, у БССР за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выдаваліся акруговымі выканаўчымі Камітэтамі, штраф устанаўляецца ня звыш 300 рублёў, а за парушэньне абавязковых пастаноў; выдаваемых раённымі выканаўчымі камітэтамі, ня звыш 25 рублёў, па Адміністрацыйным Кодэксу УССР, у залежнасьці ад органаў, выдаючых абавязковыя пастановы, максымальны разьмер штрафу устанаўліваецца ад 100 да 10 рублёў.

Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 4/I-28 г. кажа: „Разьмеры накладаемага штрафу ў адміністрацыйным парадку, калі законам у адносінах да пэўных катэгорый парушэньняў спэцыяльна не паказаны межы штрафу, могуць быць устаноўлены: а) ведамствамі Саюзу ССР і саюзных рэспублік за парушэньне ведамсьтвеных інструкцый і абавязковых пастаноў—ня звыш 100 рублёў; б) краёвымі, абласнымі, губэрскімі, акруговымі (і адпаведнымі ім) выканаўчымі камітэтамі і іх прэзыдыумамі за парушэньне абавязковых пастаноў гэтых камітэтаў і прэзыдыумаў для гарадоў—ня звыш 100 рублёў і сельскіх мясцовасьцяй—ня звыш 10 рублёў; в) павятовымі (і адпаведнымі ім) выканаўчымі камітэтамі і іх прэзыдыумамі за парушэньне абавязковых пастаноў гэтых камітэтаў і прэзыдыумаў для гарадоў—ня звыш 50 рублёў і сельскіх мясцовасьцяў—ня звыш 5 рублёў; г) раённымі, валаснымі (і адпаведнымі ім) выканаўчымі камітэтамі за парушэньне абазязковых пастаноў гэтых выканаўчых камітэтаў—ня звыш 3 рублёў і г. д.

Як відаць, абмяжоўваючы разьмер штрафу, законадаўца знайшоў патрэбным зьменшыць меру адміністрацыйнага пакараньня да асоб, якія пражываюць у сельскіх мясцовасьцяй, дзе грашовы зварот слаба разьвіты.

Разьмер прымусовай работы, як мера адміністрацыйнага пакараньня, устанаўляецца выключна ў залежнасьці ад органа, якім выдадзена абавязковая пастанова (за выключэньнем дзейнічаючага палажэньня РСФСР). Адміністрацыйны Кодэкс УССР устанаўляе за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выдаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі і горсаветамі гарадоў, якія зьяўляюцца акруговымі цэнтрамі, прымусовыя работы ня звыш 5 дзён, а вышэйстаячых органаў—ня звыш аднаго месяца.

Палажэньне БССР устанаўляе максымальны разьмер прымусовых работ ад 3 месяцаў і да 15 дзён, а праект Адміністрацыйнага Кодэксу РСФСР абмяжоўваецца ад 2-х тыдняў да 5 дзён у залежнасьці ад органаў, абавязковая пастанова якіх была парушана (арт. 77).

Што датычыцца арышту, грамадзкага ганьбаваньня і папярэджаньня, як мер адміністрацыйнага пакараньня, то мы лічым, што павінна застацца толькі папярэджаньне і ўжывацца ў выпадках прызнаньня немэтазгоднасьці ўжываньня штрафу альбо прымусовай працы, з прычыны нязначнасьці парушэньня, недастатковай сьвядомасьці парушэньня і г. д., як кажа арт. 17 палажэньня РСФСР.

Разгледзеўшы віды і разьмер адміністрацыйных пакараньняў, мы пераходзім да пытаньня, чым жа кіравацца пры ўжываньні мер адміністрацыйнага пакараньня ў кожным, асобным, канкрэтным выпадку парушэньня абавязковых пастаноў.

На гэтае пытаньне дае адказ 52 арт. Адміністрацыйнага Кодэксу УССР, які кажа: „Пры ўжываньні віда і разьмеру меры адміністрацыйнага пакараньня, орган, яе ўжываючы, павінен кіравацца характарам зробленага парушэньня абавязковай пастановы, а таксама маемасным становішчам і клясавай належнасьцю асобы, парушыўшай абавязковую пастанову“. Хоць у іншых рэспубліках гэты момант і не вылучаецца ў асобны артыкул, але адміністрацыйныя акты зьменшаць той самы клясавы прынцып. Такім

чынам, калі за парушэньне абавязковай пастановы ўстаноўлен штраф ня звыш 50 рублёў, то орган, выносячы пастанову аб адміністрацыйным пакараньні, можа ўжыць штраф і ў 10 рублёў, кіруючыся маемасным становішчам, клясавай належнасьцю і характарам зробленага парушэньня.

Цяпер дапусьцім, што пастанова выдадзена, парушэньня яе зроблена. Паўстае пытаньне: хто-ж мае права накладаць адміністрацыйнае пакараньне?

Амаль што ва ўсіх савецкіх рэспубліках гэтае права даецца: а) загадчыку акругового (губэрскага, абласнога) адміністрацыйнага аддзелу альбо яго намесьніку, б) загадчыку павятовага адміністрацыйнага аддзелу, в) прэзыдыуму гарсаветаў, г) прэзыдыуму РВК (вал. вык. ком.), д) органам міліцыі, калі гэта права запісана ў абавязковай пастанове і е) іншым службовым асобам, якім гэта права даецца паводле спэцыяльных законаў. Як в даць, права самастойнага накладаньня адміністрацыйнага пакараньня не даецца сельскім саветам. Гэта выклікаецца тым, што сельсавет не належыць да тых органаў, якія маюць права выдаваць абавязковыя пастановы. Сельскі савет павінен толькі сачыць за выкананьнем абавязковых пастаноў вышэйшых адміністрацыйных органаў. Права накладаньня сельсаветамі адміністрацыйных пакараньняў вельмі абмяжована. Паводле 23 арт. палажэньня—аб выданьні валаснымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарсаветамі заштатных гарадоў і сельскімі саветамі абавязковых пастаноў і аб ужываньні за іх парушэньне пакараньняў у адміністрацыйным парадку (пастанова ЦВК і СНК РСФСР ад 21/XI-27 г.)—„Валасным альбо раённым выканаўчым камітэтам прадастаўляецца права перадаваць асобным сельскім саветам накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выдаюцца валаснымі альбо раённымі выканаўчымі камітэтамі“.

Адміністрацыйны Кодэкс УССР дае сельсаветам права адміністрацыйнага пакараньня толькі ў тых выпадках, калі гэта права запісана ў абавязковай пастанове (арт. 46, п. „г.“). Ну, а як жа быць с/савету, калі ён бачыць злоснае парушэньне абавязковай пастановы, але ў ёй не даецца яму права ўжываць адміністрацыйнае пакараньне? Нам здаецца, што с/савет павінен скласьці пратакол аб парушэньні абавязковай пастановы і адаслаць у раённы выканаўчы камітэт на зацьвярджэньне, пасьля чаго і ўжываць меры адміністрацыйнага пакараньня. Гэтую думку падтрымлівае і арт. 48 Адміністрацыйнага Кодэксу УССР, дзе гаворыцца, што с/савет, лічачы патрэбным ужыць большую меру адміністрацыйнага пакараньня, чым паказана ў абавязковай пастанове, павінен паведаміць аб гэтым адпаведны выканаўчы камітэт.

Хоць права ўжываньня адміністрацыйнага пакараньня і даецца органам міліцыі, але яно абмяжоўваецца толькі штрафам і то ў малай суме і за вядомы від парушэньня абавязковых пастаноў (у большасьці, за парушэньне грамадзкага парадку і вулічнага руху). Пры ўжываньні адміністрацыйнага пакараньня органамі міліцыі накладаньне штрафу і яго спагнаньне робіцца на месцы ўчыненьня парушэньня пад квітанцыю міліцыянера. Калі-ж ужываюць меры адміністрацыйнага пакараньня іншыя адміністрацыйныя воргана, то паміж парушэньнем, накладаньнем і выкананьнем адміністрацыйнага пакараньня маецца больш-менш вядомы пряцяг часу.

У выпадку парушэньня абавязковых пастаноў складаецца пратакол, які сьпешна пасылаецца ў адпаведны выканаўчы камітэт альбо гарсавет, якія і павінны зрабіць сваю пастанову: альбо аб спыненьні справы, альбо аб накладаньні адміністрацыйнага пакараньня.

Адміністрацыйнае права ўжывае даўнасны тэрмін і для адміністрацыйнага пакараньня. Папершае, мы спынімся на даўнасным тэрміне для

накладаньня адміністрацыйнага пакараньня. Гэты тэрмін не аднолькавы ў розных рэспубліках, і нават для ўстанаўленьня яго асобныя законадаўчыя акты выходзяць з розных момантаў.

Па дзейнічаючым Адміністрацыйным Кодэксе УССР, гэты тэрмін устанаўляецца ў залежнасьці ад органаў, якія накладаюць адміністрацыйнае пакараньне.

„Пастановы аб накладаньні мер адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноў павінны быць прыняты ў наступныя тэрміны:—(кажа 40 арт. Адм. Кодэксу УССР): а) сельскімі і пасялковымі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі на працягу месяца ад дня ўчыненьня парушэньня абавязковай пастановы; б) акруговымі адміністрацыйнымі аддзеламі па пратаколах, якія складаліся на тэрыторыі акруговага гораду,—на працягу аднаго месяца і па пратаколах, якія складаліся на тэрыторыі акругі і пасылаюцца для накладаньня адміністрацыйнага пакараньня ў акруговыя адміністрацыйныя аддзелы—на працягу 2 месяцаў".

Артыкул 29 дзейнічаючага палажэньня ў РСФСР кажа:

„Пастанова можа быць вынесена не пазьней месячнага тэрміну ад дня ўчыненьня адпаведнага парушэньня, пасьля якога справа падлягае спыненьню". Што-ж датычыцца парушэньня абавязковых пастаноў раённых выканаўчых камітэтаў, то паводле пастановы ЦВК і СНК РСФСР ад 21/XI-27 г.—нармальна—не пазьней двух тыдняў ад дня парушэньня.

У РСФСР мы бачым, што даўнасны тэрмін устанаўляецца ў залежнасьці ад органа, якім выдадзена парушаная абавязковая пастанова, а не якім накладаецца адміністрацыйнае пакараньне.

Згодна праекту Адм. Кодэксу РСФСР за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выдаваліся вышэйстаячымі органамі над вал. вык. кам.—даўнасны тэрмін—адзін месяц, а абавязковых пастаноў валасных выканкомаў—два тыдні. Трэба падкрэсьліць, што цячэньне даўнаснага тэрміну па праекту Адміністрацыйнага Кодэксу РСФСР пачынаецца не ад дня ўчыненьня парушэньня, а ад дня в ы я ў л е н ь н я. Такім чынам, магчыма выносіць пастановы аб адміністрацыйным пакараньні на асобу, якая ўчыніла парушэньне абавязковай пастановы некалькі год таму назад, а выявілі гэтае парушэньне толькі цяпер, бо незаўсёды час учыненьня супадае з часам выяўленьня: апошні вельмі часта наступае куды пазьней чым першы. Арт. 11 дзейнічаючага палажэньня ў БССР устанаўляе як тэрмін распачатку справы—не пазьней двух месяцаў з дня ўчыненьня, так і тэрмін яе разгляду—у працягу месяца з дня яе распачатку.

Мы лічым, што даўнасны тэрмін для распачатку справы павінен устанаўлівацца як у залежнасьці ад органаў, якія выдаюць абавязковыя пастановы, так і ад органаў, якія накладаюць адміністрацыйнае пакараньне. Напрыклад, за парушэньне абавязковай пастановы акруговага выканаўчага камітэту, дзе тэрмін ўстаноўлены ў 1 месяц, гэты тэрмін павінен быць павялічаны, калі за гэтае парушэньне накладае адміністрацыйнае пакараньне раённы выканаўчы камітэт. Гэта павінна быць адзначана ў законадаўчым адміністрацыйным акце. Што-ж датычыцца моманта, калі пачынаецца цячэньне даўнаснага тэрміну, то, зразумела, павінен лічыцца момант у ч ы н е н ь н я, а не момант в ы я ў л е н ь н я парушэньня абавязковай пастановы, як робіць праект Адміністрацыйнага Кодэксу РСФСР.

Па вынясеньні адпаведнымі адміністрацыйнымі органамі пастановы аб адміністрацыйным пакараньні пасьля прад'яўленьня ў пісьмовым відзе асобе, на каторую пакараньне накладзена, гэтая пастанова павінна быць выканана. Выкананьне робіцца органамі міліцыі, сельскімі выканаўцамі і іншымі службовымі асобамі, на якіх гэты абавязак ускладаецца законам альбо абавязковай пастановай. Тэрмін выкананьня пастаноў аб адміністрацыйным пакараньні вызначаецца ў залежнасьці ад дня вынясеньня пастановы.

Арт. 34 дзейнічаючага палажэньня у РСФСР гаворыць, што да выкананьня пастановы патрэбна прыступіць не пазьней 2 месячнага тэрміну—пасьля гэтага пастанова траціць моц. Адміністрацыйны Кодэкс УССР вызначае 3-х дзённы тэрмін (арт. 54 п. 2). Трэба адзначыць, што як у РСФСР, так і ў УССР да апошняга часу ня было наогул стала вызначанага тэрміну, пасьля якога нельга ні накладаць, ні выконваць пастанову аб адміністрацыйным пакараньні, і толькі ў палажэньні РСФСР (пастанова ЦВК і СНК РСФСР ад 21/XI-27 г.) гэты тэрмін вызначан. Частка другая арт. 28 гэтага палажэньня кажа: „Усё справаводзтва аб накладаньні адміністрацыйнага пакараньня павінна быць скончана ў працягу шэсьцімесячнага тэрміну ад дня ўчыненьня парушэньня; пасьля паказанага тэрміну справа падлягае спыненьню“. Гэты момант патрэбна ўвесьці і ў Адміністрацыйны Кодэкс, які скора будзе выдадзены ў БССР.

Для адхіленьня самавольства і незаконнага накладаньня адміністрацыйнага пакараньня адпаведнымі органамі дапушчаецца хадайніцтва аб пераглядзе і падача скарг у вышэйстаячы орган. Згодна Адм. Кодэксу УССР, тэрмін аскарджаньня трохдзённы з моманту аб'явы ім пастановы, альбо пакараны мае права хадайнічаць перад органам, які вынес гэту пастанову, аб пераглядзе апошняй. Падача хадайніцтва альбо скаргі ў вызначаны трохдзённы тэрмін спыняе прывядзеньне да выкананьня пастановы аб накладаньні меры адміністрацыйнага пакараньня. Орган, які вынес пастанову аб накладаньні меры адміністрацыйнага пакараньня, павінен разгледзець хадайніцтва аб пераглядзе і вынесьці сваю пастанову ў працягу сутак ад дня атрыманьня хадайніцтва. Орган, якому пададзена скарга, павінен разгледзець скаргу ў тыднёвы тэрмін ад дня яе атрыманьня. Пастанова органа, якому пададзена скарга, лічыцца канчатковай“. Арт. 43 палажэньня РСФСР кажа: „Скарга, пададзеная ў трохдзённы тэрмін пасьля атрыманьня пастановы аб адміністрацыйным пакараньні, спыняе выкананьне пастановы“.

Праект Адм. Кодэксу РСФСР вызначае пяцідзённы тэрмін, але падача скаргі не заўсёды прыпыняе выкананьне пастановы: выкананьне пастановы спыняецца тады, калі, як мера адміністрацыйнага пакараньня, ужываецца прымусовая праца (арт. 92). Па нашай думцы, трэба прытрымлівацца таго погляду, што падача хадайніцтва альбо скаргі ў вызначаны тэрмін павінна спыняць выкананьне пастановы аб адміністрацыйным пакараньні да новага разгляду, адчаго ня будзе лішняй працы па выкананьні пастаноў, і нявіноўны не павінен будзе маральна пераносіць пакараньне.

Усё гэта датычыцца толькі адміністрацыйных пакараньняў за парушэньне абавязковых пастаноў, але ёсьць і такія выпадкі парушэньня абавязковых пастаноў, пакараньне за якія прадугледжана Крымінальным Кодэксам. Да іх адносяцца выпадкі, прадугледжаныя 97, 99, 217, 218, 221 і іншымі артыкуламі Крымінальнага Кодэксу (рэдакцыя 1922 г.)

Мы думаем, што і гэтыя выпадкі адміністрацыйнага пакараньня таксама павінны ўваходзіць у Адміністрацыйны Кодэкс, каб адпаведныя органы яскрава бачылі, на якія парушэньні абавязковых пастаноў яны маюць права накладаць самастойна адміністрацыйнае пакараньне і за якія патрэбна прыцягваць асоб да крымінальнай адказнасьці.

Цяпер паўстае пытаньне: да каго-ж магчыма ўжываць меры адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноў? Адміністрацыйны Кодэкс УССР і палажэньне БССР кажуць наогул аб асобе, ня тлумачачы, ці гэта фізычная ці юрыдычная. Палажэньне 1926 і 1927 г. г. РСФСР гэты момант вызначае асобна і кажа: „Дзейнічаньне абавязковых пастаноў распаўсюджваецца як на прыватных асоб, так і на дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы і грамадзкія арганізацыі, пры чым адпаведныя службовыя асобы нясуць у адміністрацыйным парадку тую-ж адказнасьць, што і прыватныя асобы“.

## ВЫВАДЫ.

1. Мерамі адміністрацыйнага пакараньня павінны быць: папярэджаньне, штраф і прымусовыя работы.

2. Пры ўстанаўленьні максімальных разьмераў мер адміністрацыйнага пакараньня мець на ўвазе як орган, які выдае абавязковыя пастановы, так і асобу, якою гэта пастанова была парушана.

3. Трэба дакладна сказаць ў адміністрацыйным кодэксе, чым кіравацца пры ўстанаўленьні меры адміністрацыйнага пакараньня ў кожным асобным, канкрэтным выпадку парушэньня абавязковых пастаноў.

4. Права накладаньня адміністрацыйнага пакараньня павінна быць дадзена сельскім саветам, і ў тых выпадках, калі ў абавязковай пастанове гэтага не агаворана, але з папярэдняга дазволу райвыканкому.

5. Даўнасны тэрмін для распачатку справы павінен устанаўляцца ў залежнасьці як ад органаў, якія выдаюць абавязковыя пастановы, так і ад органаў, якія накладаюць адміністрацыйнае пакараньне за іх парушэньне.

6. Цячэньне даўнасьці павінна пачынацца з моманту ўчыненьня парушэньня абавязковай пастановы, а не з моманту яго выяўленьня.

7. Трэба ў адміністрацыйным кодэксе вызначыць такі даўнасны тэрмін, па сканчэньні якога справа павінна быць спынена, у якой бы стадыі яна ні знаходзілася.

8. Падача хадайніцтва альбо скаргі ў вызначаны тэрмін заўсёды павінна спыняць выкананьне пастановы аб адміністрацыйным пакараньні да новага разгляду справы.

9. Прыступаць да выкананьня пастановы аб адміністрацыйным пакараньні па сканчэньні тэрміну для падачы хадайніцтва альбо скаргі (калі апошняя не пададзена) альбо вырашэньня скаргі вышэйстаячым органам.

10. Выпадкі крымінальнай адказнасьці за парушэньне абавязковых пастаноў павінны прадугледжвацца і адміністрацыйным кодэксам.

11. У адміністрацыйным кодэксе павінна быць асобна абгаворана аб ужываньні мер адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне абавязковых пастаноў да юрыдычных асоб.

Мы думаем, што гэтыя моманты патрэбна прыняць пад увагу пры выданьні адміністрацыйнага кодэксу БССР.

---

**С. Слупскі.**

# Злачынствы супроць асобы.

Злачынствы супроць асобы прадстаўляюць групу пасяганьня на жыцьцё, здароўе і гонар асобы. Істотную асаблівасьць гэтых злачынстваў складае залежнасьць іх у многіх выпадках ад культурнага ўзроўню насельніцтва, з меншым параўнальна, уплывам эканамічнага фактару. Ня спыняючыся ў юрыдычную прыроду названай групы злачынства, разгледзім рух і склад гэтых злачынстваў супроць асобы, а таксама і меры сацыяльнай абароны, ужытыя судовымі ўстановамі БССР у адносінах праванарушнікаў.

Колькасьць паступіўшых у судовыя ўстановы спраў і зарэгістраваных органамі міліцыі злачынств супроць асобы:

| | Паступ. судов. спраў | Асуджана | Асуджан. асоб, у адносін. якіх прыгавары ўвайшлі ў законную сілу | З 100 асуджан. зроб. злачынств: У гор | З 100 асуджан. зроб. злачынств: Сельск. мясцов. | % асудж. за злач. супроць асобы да агульн. ліку асуджан.: Па гар. | Па сельск. мясцов. | Па БССР |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 г. | — | — | 3.886 | 12,4 | 87,2 | 9,0 | 15,9 | 14,6 |
| 1925 г. | 42.220 | 8.400 | 9.619 | 12,9 | 87,1 | 21,3 | 32,0 | 30,1 |
| 1926 г. | 47.375 | 12 115 | 9.318 | 16,6 | 83,4 | 24,0 | 31,4 | 29,8 |

Злачынствы супроць асобы ў 1926 г., параўнальна з папярэднімі двума гадамі, павялічыліся па ліку паступіўшых у судовыя ўстановы спраў і зарэгістраваных вышукам і міліцыяй. Прыкмячаецца зьніжэньне колькасьці асуджаных, што можа быць вытлумачана значным павышэньнем у 1926 г. працанту апраўданых: у 1925 г. апраўдана—30,1 проц.
у 1926 г. „ —44,2 „

Такое павышэньне на 14,1 проц. значна сказалася на зьніжаным ліку асуджаных.

У разьвіцьці злачынстваў супроць асобы заўважаецца адна асаблівасьць, якая прыкмячаецца ў павышэньні ступені разьвіцьця іх у гарадох, ня гледзячы на пераважны сельскі характар—у 1924 г. з 100 асуджаных усіх злачынстваў прыходзіцца на гарады 12,4 проц., а ў 1925 г.—16,6 проц. і адпаведнае зьніжэньне працанту ў сельскіх мясцовасьцях.

На пераважны сельскі характар злачынстваў супроць асобы паказвае павышэньне ліку пабояў, абражаньняў, забойстваў, як вынік прыватных боек і зьвядзеньня асабістых шчатоў, у вогуле складаючых у 1926 г.; 31,4 проц., а ў гарадох—24,0 проц. Удзельная вага асабовых злачынстваў наогул павысілася з 14,6 проц. у 1924 годзе да 29,8 проц. у 1926 г. павышэньне наглядаецца ў гарадох на 13 проц. (24,0 проц. супроць 9,0 проц.), а ў сельскіх мясцовасьцях—15,5 проц. (31,4 проц. супроць 15,9 проц.).

З прычыны значнага павышэньня злачыннасьці супроць асобы неабходна высьветліць ступень павышэньня паасобных злачынстваў гэтай групы, бо паказьнікам павышэньня зьяўляюцца даныя аб паступленьні спраў і ліку зарэгістраванных вышукам і міліцыяй. Прывядзем іх у працантах да агульнага ліку.

| | Абсалютнае: 1 паўгодз. 1925 г. | 2 паўгодз. 1925 г. | 1 паўгодз. 1926 г. | 2 паўгодз. 1926 г. | Адноснае: 1 паўгодз. 1925 г. | 2 паўгодз. 1925 г. | 1 паўгодз. 1926 г. | 2 паўгодз. 1926 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пабоі, бойкі | 10.437 | 13.858 | 11.934 | 15.199 | 1,8 | 26,6 | 23,7 | 29,6 |
| Хуліганства | 1.400 | 885 | 384 | 841 | 2,9 | 1,8 | 0,7 | 1,6 |
| Абраз. асоб. | 3.944 | 4.488 | 4.326 | 5.015 | 8,3 | 8,9 | 8,6 | 9,3 |

Па прыведзеных даных наглядаецца павялічэньне як абсалютнае, так і адноснае—пабояў, боек і абражан. асобы, пры чым найбольшае павялічэньне пераліченых злачынстваў падае на другое паўгодзьдзе 1926 году.

Хуліганства панізілася было ў перщым паўгодзьдзі 1926 г. у сілу выняцьця першай часьці арт. 176 з падсуднасьці нарсудоў, а далей у другім паўгодзьдзі дасягнула ўжо амаль велічыні другога паўгодзьдзя 1925 г. З злачынстваў супроць асобы павышаюцца, галоўным чынам, малаважныя віды, як пабоі, бойкі, і абражаньне асобы, што сказалася на агульным павышэньні ўсяе групы.

*Полавы склад асуджаных.* У злачынствах супроць асобы полавы склад асуджаных мае свае асаблівасьці, якія выяўляюцца ў павышаным параўнаўча ўдзельнічаньні жанчын.

З ста асуджаных прыходзіцца на жанчын:

У 1924 г. . . . . . . 16,3 проц.
„ 1925 г. . . . . . . 17,4 „
„ 1926 г. . . . . . . 19,2 „

За ўсе гады процант жанчын вышэй сярэдняга і апрача таго прагрэсуе (з 16,3 проц. у 1924 г. да 19,2 проц. 1926 г.). У злачынствах супроць асобы знаходзіць свой адбітак быт з яго асаблівасьцю ў адносінах жанчын, як прыкованых па жыцьцёвых умовах да хатняга ачагу, зьвязаных з клопатамі аб дзецях, аб сям'і, жанчынам часьцей прыходзіцца спатыкацца ў акружаючых іх абставінах з суседзямі, абараняць ад нападу дзяцей і г. д. У выніку гэтых стычак адбываюцца „абраза", паклёп і іншыя нясур'ёзнага характару ўчынкі, якія павышаюць у агульнай складанасьці жаночую злачыннасьць гэтай групы. Нельга не адзначыць таксама, якое назіраецца з даўніх часоў зьявішча павышанага ўдзелу жанчын у забойствах, якія абумоўліваюцца пераважна дзетазабойствам, аст ўленьнем у небясьпецы дзіцяці, схаваньнем трупа дзіцяці, а таксама забойствам супругаў і родзічаў.

*Узрост асуджаных.* Злачынства ўсіх відаў па ўзросьце абвінавачваемых і асуджаных разьмяркоўваецца больш або менш аднастайна: пачынаючы з невялікіх разьмераў у дзяцінстве, яно хутка расьце ў 25-30 г., а потым паступова падае да мінімуму ў старыя гады. Крывая ўзроснай тэндэнцыі злачынстваў супроць асобы адпавядае крывой агульнага злачынства:

| Узрост / Гады | 14-15 г. | 16-17 г. | 18-19 г. | 20-24 г. | 25-29 г. | 30-39 г. | 40-49 г. | 50-59 г. | 60 і старэй | Невяд. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 г. | 0,3 | 3,3 | 5,7 | 12,0 | 18,9 | 25,6 | 13,6 | 7,3 | 5,0 | 1,3 | 100 |
| 1925 г. | 0,3 | 3,4 | 6,6 | 20,9 | 18,2 | 23,8 | 13,3 | 7,1 | 5,4 | 1,0 | 100 |
| 1926 г. | 0,2 | 2,9 | 6,2 | 20,2 | 19,2 | 24,9 | 13,2 | 6,8 | 4,7 | 1,7 | 100 |
| % у насяленьні | 4,9 | 5,2 | 4,4 | 9,8 | 7,8 | 11,2 | 8,2 | 6,4 | 6,9 | — | 100 |
| **Коэфіцыйнае адхіленьне** | — | — | — | 105 | 146 | 122 | — | — | — | — | — |

Па прыведзеных даных відаць дзіўная ўстойлівасьць радоў разьмеркаваньня ўзроснага складу асуджаных за злачынствы супроць асобы ў апошнія тры гады. Належыць адзначыць, што максымум прыходзіцца на ўзрост 20-39 год, які перавышае ў два разы процант гэтых груп у насяленьні, дасягаючы найбольшай інтэнсыўнасьці ў 25-29 год, процант адхіленьня—146 проц., потым ў 30-39 год—122 проц. Апрача таго, за тры

гады адбылася зьмена складу ў бок павялічэньня сярод асуджаных асоб больш маладых узростаў да 30 год і памяншэньне ў узросьце старэй 30 год. Гэта павялічэньне знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з павышэньнем проценту асуджаных за хуліганства, узрост якіх прыходзіцца, галоўным чынам, на гады да 30 год.

Калі кінуць беглы погляд на галоўнейшыя віды злачынстваў супроць асобы—забойства, полавыя злачынствы, абражаньні і цялесныя пакалечаньні, то ўзрост асуджаных за пералічаныя злачынствы прадстаўляецца наступнымі лічбамі:

| | Да 30 год | Старэй 30 год |
|---|---|---|
| | 1924, 1925, 1926 г. | 1924, 1925, 1926 г. |
| 1 Забойствы . . . . . . . . | 71,7 | 28,3 |
| 2. Полавыя . . . . . . . . . | 54,6 | 45,4 |
| 3. Цялесныя пакалечаньні . . | 52,8 | 47,2 |
| 4. Абражаньні . . . . . . . . | 32,5 | 67,5 |

Як відаць, забойцы маюць найбольш малады ўзрост (71,7 проц. да 30 год), потым асуджаныя за полавыя злачынствы і цялесныя пакалечаньні, а найбольш пажылыя—за абразу. Падобнае разьмяркаваньне ўпаўне адпавядае пэрыяду накапленьня энэргіі, выпадкаў маладзецтва і г. д.

*Сямейны быт.* Злачынствы супроць асобы ўва многім носяць на сябе рысы і быту, якія самым цесным чынам пераплятаюцца з умовамі сямейнага жыцьця. Адзін з дасьледчыкаў заўважвае, што шлюбнасьць павышае злачыннасьць, накіраваную супроць асобы і іншых. У самай замкнутасьці сямейнай ячэйкі, у яе супраціпастаўленьні, як чагось-то аб'яднанасуцэльнага, усім іншым сямейным ячэйкам, ёсьць, ўскладненая барацьбой за існаваньне, варожасьць. Па меры павялічэньня ліку членаў сям'і даная сямейная ячэйка атрымоўвае ўсё большую і большую каштоўнасьць, якая прымушае яе членаў адносіцца з большай ашчаднасьцю да самого яе існаваньня, адхіляючы ўсё, што пагражае яе быцьцю [1]). І сапраўды, сямейны склад асуджаных за злачынствы супроць асобы рэзка адрозьніваецца ад іншых груп:

| | Нежанатых | Жанатых | У т. л. маючых дзяцей | Удовых | У т. л. маючых дзяцей | Разьведзеных | У т. л. маючых дзяцей | Невядомых | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 г. . . . . . . . . | 28,5 | 65,5 | 46,5 | 2,7 | 1,8 | 1,0 | 0,2 | 2,3 | 100 |
| 1925 г. . . . . . . . . | 29,8 | 64,9 | 49,6 | 3,4 | 2,3 | 1,1 | 0,4 | 0,8 | 100 |
| 1926 г. . . . . . . . . | 27,5 | 65,5 | 45,9 | 2,9 | 1,8 | 1,7 | 0,7 | 2,4 | 100 |

Сямейны склад асуджаных за тры гады досыць устойлівы. Найбольшы процант складаюць жанатыя (65,5 проц.), потым у два з паловай разы менш—нежанатыя (27,8 проц.) і значная доля прыходзіцца на ўдовых і разьведзеных. Відазьмена ў сямейным складзе асуджаных за злачынствы супроць асобы за тры гады амаль што не адбылася, калі ня лічыць павялічэньня проценту разьведзеных (з 1 да 1,7 проц.), аб'ясняемага, бязумоўна,

[1]) Заменгоф „Брак, семья и преступность“ (Ж. М. Н, за 1902 г.)

павялічэньнем гэтай групы насяленьня (ў 1924 г. на 100 насяленьня было разводаў 0,6 проц., а ў 1926 г. на той жа лік насяленьня—1,7 проц).

Па полу ў сямейным складзе асуджаных за разглядаемыя злачынствы наглядаецца наступная розьніца:

| | Не жан. | Дзевак | Жанат | | Удоў. | | Разьведз. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. | Муж. | Жан. |
| 1924 г. | 30,2 | 19,1 | 65,4 | 65,9 | 1,5 | 10,0 | 0,8 | 2,0 |
| 1925 г. | 32,9 | 14,9 | 64,1 | 68,8 | 1,5 | 12,7 | 0,8 | 2.2 |
| 1926 г. | 30,3 | 15,6 | 64,9 | 67,8 | 1,2 | 10,2 | 1,4 | 2,9 |

Прыведзеныя даныя паказваюць на пераважнасьць сярод мужчын не жанатых, а сярод жанчын-удоваў, разьведзеных і якія лічацца ў шлюбе. Найбольшы процант жанчын удоваў, параўнальна з удаўцамі, паказвае на асаблівасьць абставін удоўяга жыцьця, дапамагаючы частаце асабовых сутычкаў.

*Выхаваньне і адукацыя* Па выхаваньні і адукацыі асуджаныя за асабовыя злачынствы разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

| | У родн. сям'і | У чужой сям'і | Неграм. | Толькі чыт. | Атрым. адукацыю | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Выш. | Сяр. | Ніж і хатн. |
| 1924 г. | 98,4 | 0,7 | 33,1 | 17,2 | 0,1 | 1,6 | 45.6 |
| 1925 г. | 97,3 | 0,4 | 35,0 | 17,2 | 0,0 | 0,8 | 45.9 |
| 1926 г. | 95,4 | 0,4 | 31,2 | 19,3 | 0,0 | 1,0 | 42,4 |
| | 93,9 | 0,5 | 32,3 | 20,2 | 0,1 | 1,4 | 40,9 |

Злачынствы супроць асобы ўчыняюцца асобамі, выхаванымі ў розных сям'ях у большай долі, чымся ўсе іншыя злачынствы, потым па адукацыі і граматнасьці, стаячымі на нізкай ступені культурнага разьвіцьця—непісьменных каля 35 проц.

*Кватэрныя ўмовы.* Жыльлёвыя ўмовы асуджаных за злачынствы супроць асобы не характарызуюцца асаблівымі рысамі ўхіленьня ад звычайнага размеркаваньня, бо ў гэтых злачынствах істотнае ролі эканамічны фактар, як у маемасных, ня іграе.

З 100 асуджаных за злачынствы супроць асобы займала (у проц):

| | Хату | Кватэру | Пакой | Куток | Агульн. памяшк. | Нярэўнае жыцьцё |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925 г. | 27,4 | 44,7 | 15,7 | 3,1 | 3,7 | 5,4 |
| 1926 г. | 33,4 | 37,6 | 17.4 | 2,1 | 2,2 | 7,3 |

Каля 90 проц. жывуць у пакоях, кватэрах і хатах, каля 5 проц.—у кутках і агульных памяшканьнях з паніжэньнем гэтага проценту ў 1926 г. (да 4,3 проц. супроць 6,8 проц. у 1924 г.).

*Час учыненьня злачынства.* Сацыялёгічная школа крымінальнага права, падняўшая на належную вышыню значэньне сацыяльна-эканамічных фактараў злачыннасьці, сыграла вялікую ролю ў высьвятленьні цэлага шэрагу ўмоў, сапуцтвуючых зьмене злачыннасьці ў залежнасьці ад узросту і часу іх учыненьня. Італьянскай школай з Лёмброзо на чале заўважана было законамернае разьмеркаваньне злачынства па месяцах і гадох, і, у прыватнасьці, злачынствы супроць асобы ў часе ўсюды разьмяркоўваліся аднолькава. „Крыміналістыя антрапалёгічнай школы нахілены бачыць тут ап'яняючы ўплыў летняга сонца, якое стварае лішкі сіл і энэргіі. Крыміналістыя-сацыялёгі ўлічваюць уплыў сацыяльных ўмоў: большая супольнасьць у цеплыя месяцы, калі з прычыны гэтага павялічваецца мажлівасьць асабовых сутычкаў“ [1]).

З прычыны асобнай спэцыфічнасьці разьмеркаваньня злачынстваў супроць асобы па месяцах прывядзем ніжэйнаступныя даныя па БССР і іншых краінах.

| МЕСЯЦЫ | Ангельшч. 1846—900 | Францыя 1824 79 | Нямеччына 1883—92 | Расія 1892—98 | Сэрбія 1896 | Баўгарыя 1910 г. | Б. С. С. Р. 1924 г. | Б. С. С. Р. 1925 г. | Б. С. С. Р. 1926 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Студзень | 85 | 87 | 78 | 83 | 32,73 | 7,65 | 2,4 | 6,1 | 6,1 |
| Люты | 72 | 95 | 83 | 86 | 28,26 | 7,17 | 2,5 | 5,5 | 4,8 |
| Сакавік | 82 | 94 | 81 | 66 | 32,98 | 7,07 | 2,8 | 5,6 | 5,6 |
| Красавік | 101 | 97 | 94 | 109 | 39,62 | 8,10 | 6,7 | 8,8 | 6,5 |
| Май | 105 | 113 | 108 | 118 | 33,98 | 9,74 | 14,2 | 11,7 | 13,0 |
| Чэрвень | 119 | 124 | 116 | 122 | 41,97 | 9,32 | 14,0 | 12,8 | 11,2 |
| Ліпень | 123 | 112 | 121 | 115 | 49,16 | 8,63 | 12,1 | 11,0 | 11,1 |
| Жнівень | 119 | 112 | 128 | 113 | 41,10 | 10,59 | 12,1 | 10,6 | 11,0 |
| Верасень | 117 | 101 | 118 | 113 | 37,53 | 9,08 | 11,9 | 8.7 | 9,2 |
| Кастрычнік | 104 | 90 | 102 | 109 | 29,22 | 7,83 | 8,9 | 6,8 | 7,0 |
| Лістапад | 89 | 88 | 91 | 86 | 31,11 | 7,15 | 5,8 | 5,8 | 6,5 |
| Сьнежань | 83 | 86 | 78 | 78 | 30,35 | 5,85 | 2,9 | 4,5 | 4,5 |
| **Сярэдняе** | **100** | — | — | — | — | — | — | — | — |

Усюды ўстанаўліваецца павышэньне ліку злачынстваў супроць асобы ў летнія месяцы з тэй розьніцай, што максымум гэтых злачынстваў пры параўнаньні паасобных краін хістаецца. У Ангельшчыне, Нямеччыне і Сэрбіі прыходзіцца на ліпень, у Францыі, б. Расіі і БССР—на чэрвень, а ў 1926 г. у апошняй—на чэрвень. Досьледамі прафэсараў Фойніцкага і Гэрнэта ўстаноўлена хістаньне каляндара злачыннасьці ад эканамічных умоў жыцьця краіны. І ў пэрыяд голаду „мы были удивлены глубочайшими изменениями помесячного распределения различных преступлений в 1922 году; все законы такого распределения оказались нарушенными, и установленный порядок времени совершения того или иного преступления—ниспровергнутым“ ).

*Сацыяльнае становішча.* Сацыяльна-клясавы склад асуджаных за злачынствы супроць асобы абумоўліваецца характарам і зьместам злачынстваў.У сувязі з тым, што злачынствы супроць асобы разьмяжоўваюцца

[1]) Гэрнэт „Маральная статыстыка“, стар. 156.

[2]) Фойніцкі „На досуге“, т. II. Гэрнэт „Преступность и самоубийство“, стар. 168.

на дзьве рэзка адна ад другой адрозьніваючыяся групы, як пазбаўленьне жыцьця—забойства, цялесныя пакалечаньні і, з другога боку, абразы словамі і лёгкія пабоі, і склад асуджаных адпаведна з гэтым розны. Калі першы патрабуе дапасаваньня фізычнай сілы, найяўнасьці ў дастатковай ступені грубасьці, як вынік неўцтва, някультурнасьці, то для іншых досыць аднаго раздражэньня, каб выклікаць сварку і паклёп. Характарам правапарушэньняў абумоўлівецца сацыяльны склад асуджаных.

| Сацыяльныя групы | %% да агульнага ліку асудж. | | | % асудж. за асабов. злач. да агульн. ліку асуджаных | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
| Гаспадары ў с. г. . . . | 81,7 | 86,0 | 83,1 | 17,0 | 32,6 | 31,8 |
| Гаспад. інш. . . . . . | 2,8 | 2,7 | 3,4 | 7,4 | 17,8 | 21,9 |
| Служачыя . . . . . . . | 2,1 | 1,7 | 1,8 | 11,1 | 20,1 | 15,4 |
| Рабочыя . . . . . . . | 0,3 | 0,3 | 0,3 | 13,4 | 27,9 | 29,5 |
| Беспрацоўныя . . . . . | 1,0 | 0,8 | 0,8 | 4 4 | 19,2 | 19,5 |
| Іншыя . . . . . . . . . | 2,9 | 0,6 | 0,8 | 7,5 | 15,5 | 23,0 |
| Дэклясаваныя . . . . . | 0,4 | 0,3 | 0,2 | 18,7 | 6,7 | 5,2 |
| Несамадз. і невядомыя . | 2,2 | 1,9 | 2,5 | 16,1 | 41,1 | 55,5 |
| Іншыя . . . . . . . . . | 0,9 | 0,4 | 0,5 | — | — | — |
| Усяго . . . | 100,0 | 100,0 | 100.0 | - | — | — |

---

**В. Ромашаў.**

# Органы юстыцыі і Чырвоная армія[1]).

Чырвоная армія ёсьць баявая арганізацыя рабочай клясы, школа грамадзкага дзеяча. Таму яна побач з пытаньнямі ваеннага абучэньня мае задачы палітычнага выхаваньня вясковага маладняку. Аднэй з форм палітычнай падрыхтоўкі чырвонаармейскіх мас зьяўляецца выхаваньне ў духу рэвалюцыйнай законнасьці. На дакладзе па пытаньнях савецкага будаўніцтва на III Усесаюзным Зьездьзе Саветаў т. Калінін гаварыў: „Внедрение законности означает поднятие культурного уровня масс, ибо лишь культурные рабочие и крестьяне будут добиваться восстановления своих прав, неграмотный же бедняк слишком занят необходимостью зарабатывать себе пропитание тяжелым, необеспеченным трудом,--ему не до восстановления прав. Укрепление законности повышает культурность населения, его правосознание“. Вот гэта пастаўленая III Зьездам Саветаў задача—выхаваньне мас у духу рэвалюцыйнай законнасьці, перш за ўсё кладзецца на плечы працаўнікоў органаў юстыцыі.

Чырвоная армія для іх можа зьявіцца самай лепшай арганізацыяй, дзе лягчэй усяго можна наладзіць юрыдычна-асьветную працу.

Шэрагі Чырвонай арміі кожны год асьвяжаюцца новым папаўненьнем. Чарговы прызыў моладзі прыходзіць на зьмену старым байцам, а гэтыя, выходзячы з арміі, атрыманыя ў казарме веды разносяць ва ўсе канцы Савецкага Саюзу. Такім чынам, даючы чырвонаармейцам юрыдычную падрыхтоўку, мы ня толькі ўмацоўваем баявую магутнасьць часьцей, але і тым самым робім з іх піянэраў рэвалюцыйнай законнасьці.

1) Зьмяшчаючы арт. т. Ромашава, рэдакцыя зьвяртаецца да іншых вайсковых таварышоў прыняць удзел у нашым часопісе.

Чырвоная армія, як мы ведаем, складаецца з рабочых і сялян, і, як працоўнае насельніцтва, яны зьвязаны з вытворчасьцю, з сваёй сельскай гаспадаркай. З вёсак, рабочых пасёлкаў і гарадоў у Чырвоную казарму сыплюцца лісты, каторыя нясуць пытаньні, зьвязаныя з бягучым заканадаўствам, з працай сельсаветаў РВК (ВВК), зямельных і судовых органаў, каапэрацыяі і іншых мясцовых арганізацый. На ўсе гэтыя рознастайныя пытаньні, чырвонаармейцы патрабуюць поўнага вычэрпваючага адказу. Каманднa палітычны склад не заўсёды ў курсе грамадзянскага заканадаўства і нярэдка на пастаўленыя пытаньні дае ня заўсёды правільныя растлумачэньні. І з гэтага боку справы працаўнікі юстыцыі могуць аказаць вялікую дапамогу сем'ям чырвонаармейцаў у справе абароны іх праў.

З сказанага ясна відаць, што органы юстыцыі павінны задумацца над правядзеньнем працы па праўным выхаваньні, заняцца поўным юрыдычным абслугованьнем ваеннаслужачых Чырвонай арміі.

Мы ведаем, што па некаторых вайсковых вучастках юрыдычна-асьветная праца праводзіцца. У часьцях Чырвонай арміі ставяцца даклады па пытаньнях бягучага заканадаўства, праводзіцца кансультацыя.

Праўда, гэта работа ня прыняла яшчэ належнага размаху і строга—плянавага характару, тым ня менш вынікі маюцца ў наяўнасьці. Дзеля таго, каб падняць работу на належную вышыню, неабходна ўнесьці зьмены ў форму яе правядзеньня. На мой погляд, трэба другія арганізацыйныя пачаткі. Было-б лепш, калі-б работа рэвалюцыйнай законнасьці ў Чырвонай арміі была пабудована на прынцыпе прымацаваньня. Працаўнікі пракурорскага нагляду, калегіі абаронцаў і судовых органаў раўнамерна прымацоўваюцца для сталай працы да вайсковых часьцей і там пад кіраўніцтвам начальнікаў клюбаў праводзяць юрыдычную асьветную працу, арганізуюць сумесна з камісіямі сувязі часьцей кансультацыі. Ідэёвае кіраўніцтва прымацованымі трэба ўскласьці на тройку, створаную з ліку працаўнікоў ваенна-грамадзянскага пракурорскага нагляду. На абявязку гэтай тройкі павінны ляжаць задачы—выпрацоўка пляну, інструктаваньне і паверка правадзімай працы ў часьцях. Перавага гэтай организацыйнай формы відавочна. Перш за ўсё, вылучаныя для працы ў часьцях працаўнікі юстыцыі будуць у курсе сваёй справы, маюць магчымасьць бліжэй падыйсьці да побыту і жыцьця казармы, своечасова ўлаўліваць настрой вайсковых мас. Апрача таго, гэта арганізацыйная сыстэма адхіліць казёншчыну і перабойнасьць у працы і прыме цьвёрдыя формы плянавасьці. Як бы там ні было, але прапаганда рэвалюцыйнай законнасьці ў часьцях арміі ёсьць справа важная і патрэбная. За гэту працу трэба неадкладна ўзяцца і праводзіць яе „пабальшавіцкі“. Працаўнікі юстыцыі павінны зразумець, што іх праца ў вайсковых часьцях ня толькі павысіць культурны ўзровень мас, але ў належнай ступені ўмацуе баявую магутнасьць абароны краіны.

# СТАРОНКА ПРАКТЫКА.

Н. В. Быхаўскі.

## Пра спрашчэньне грамадзянскага працэсу [1]).

Многа гавораць і пішуць у апошні час пра спрашчэньне працэсу і пра прысьпяшэньне разгляду маючыхся ў вядзеньні судоў спраў. Усе прапанованыя ў сувязі з гэтым мерапрыемствы зводзяцца, паколькі нам вядома, да двух палажэньняў:

1) да перадачы некаторых катэгорый спраў на вырашэньне іншых, чым суд, установ, а менавіта: сельсаветаў, асобных прыміральных камісій РКК, таварыскіх судоў і інш.;

2) да абмежаваньня магчымасьці абскарджаньня рашэньняў па некаторага роду справах, накшталт працоўных (т. Ларын прапанаваў ад працоўных пераходзіць паступова да іншых груп спраў), каб скараціць судовую цяганіну.

Абодва гэтыя мерапрыемствы мы ўхваліць ніяк ня можам і лічым іх вельмі шкоднымі для нармальнага вырашэньня спраў, бо першае мерапрыемства створыць замест адзінай сыстэмы суду, да якой мы ўвесь час імкнемся, якіясь-то асобныя для рознага роду спраў суды і пры тым суды з вельмі ня высокай кваліфікацыяй, у выніку чаго вельмі моцна будуць ўшчэмлены правы тых, якім у гэтыя суды прыдзецца зварочвацца; другое-ж мерапрыемства пазбавіць, з аднаго боку, спрачаючыхся магчымасьці дамагацца аховы і абароны сваіх праў шляхам зьвяртаньня ў вышэйшую інстанцыю і прымусіць іх падпарадкавацца тым рашэньням першай інстанцыі, якія, як паказвае статыстыка, у большай колькасьці зьяўляюцца няправільнымі і адмяняюцца; з другога-ж боку, ня дасьць магчымасьці вышэйшай інстанцыі шляхам паказаньняў па паасобных, конкрэтных справах вучыць судзьдзю першай інстанцыі.

Пагэтаму у замен паказаных мерапрыемстваў мы прапануем другое, адзіназдольнае, на наш погляд, значна скараціць судовую цяганіну і прысьпешыць прахаджэньне спраў.

Мерапрыемства гэта, прапануемае намі пакуль толькі для грамадзянскага працэсу, зводзіцца да наступнага: *належыць даць касацыйнай інстанцыі права вырашаць васходзячую да яе на разгляд справу і па сутнасьці*, г. зн. другую інстанцыю зрабіць аднача сна і касацыйнай і апэляцыйнай. Тут, напэўна, магчымы два варыянты:

1) альбо даць другой інстанцыі вырашаць справу па сутнасьці толькі тады, калі маючыйся для гэтага матар'ял у справе ўпаўне выстарчальны, фактычныя акалічнасьці ўстаноўлены і старанамі не аспрэчваюцца, і калі неабходна толькі зрабіць адпаведныя вывады, калі суд першай інстанцыі зрабіў гэтыя вывады не ў адпаведнасьці з законам;

2) альбо даць другой інстанцыі права прыймаць і разглядаць новыя доказы і дапытваць новых сьведак.

Прадстаўленьне II інстанцыі права вырашаць справы і па сутнасьці ў значнай ступені, на наш погляд, прысьпешыць вырашэньне спраў, бо судовая цяганіна ў большай меры бывае не таму, што ёсьць магчымасьць абскардзіць рашэньне суду першай інстанцыі, а таму: 1) што не

---

[1]) Зьмяшчаецца ў дыскусыйным парадку. Па гэтым пытаньні глядзі хроніку „У Інстытуце Беларускай Культуры“.

заўсёды суд першай інстанцыі кіруецца паказаньнямі вышэйшай інстанцыі з прычыны чаго і другі, і трэці раз прыходзіцца адмяняць рашэньне, 2) што шмат часу ідзе на хаджэньне справы з другой інстанцыі ў першую ізноў у другую і г. д.

У БССР прапануемая намі мерапрыемства ўжо даўно праведзена ў адносінах зямельных спраў, і практыка паказала, што гэтым дасягнута значнае скарачэньне часу праходжаньня спраў. Мы ня маем зьвестак аб тым, як справа абстаіць ува ўсёй БССР, але ў нашай акрузе з паступаючых на разгляд акруговай зямельнай камісіі спраў па скаргах на рашэньне раённых зямельных камісій, якія падлягаюць адмене, прыблізна $^3/_4$ вырашаецца самой акруговай зямельнай камісіяй шляхам зьмен рашэньняў РЗК, і толькі адна чверць ($^1/_4$) перадаецца на новы разгляд, паколькі ні маючыся ў справе, ні пададзены старанамі дадатковы матар'ял не дае магчымасьці вырашыць справу па сутнасьці.

Права Вышэйшага Касацыйнага Суду вырашаць справу і па сутнасьці прадугледжана многімі замежнымі законадаўствамі. Па нямецкаму статуту імпэрскі суд сам пастанаўляе рашэньне, не перадаючы справы ў другі суд, калі фактычныя акалічнасьці справы ня выклікаюць сумненьня, і рашэньне падлягае адмене толькі з-за няправільнага дапасаваньня закону да ўстаноўленых і неаспрэчваемых фактычнай акалічнасьцю. Таксама справа абстаіць і ў Амерыцы.

У Ангельшчыне-ж, Злучаных Штатах і Скандынаўскіх Дзяржавах Вышэйшая Судовая Інстанцыя (трэцяя) не абмяжоўваецца праверкай юрыдычнага боку справы, а вырашае поўнасьцю справу па сутнасьці.

---

**Качэргін.**

# Ці патрэбны нам абаронцы ў савецкім судзе?[1]).

У артыкуле 10 Палажэньня аб судабудаўніцтве БССР гаворыцца: „Для юрыдычнай дапамогі працоўным і ажыцьцяўленьня судовай абароны грамадзян праз асоб, якія ўпаўне адпавядаюць патрабаваньням, неабходным для ўдзелу ў адбыцьці пралятарскага правасудзьдзя, пры акрсудох пад іх непасрэдным наглядам дзейнічае калегія абаронцаў“.

Зараз пабачым, як-жа выконвае абарона надзеі савецкага ўраду і ці зьяўляецца яна сапраўдным дапамагальнікам суду, пры адпраўленьні ім пралятарскага правасудзьдзя? Ці адпавядае яна запатрабаваньням шырокіх колаў пралятарскага насельніцтва, альбо зьяўляецца ў нашым судзе зусім непатрэбным прыдаткам, перашкаджаючым у працы і ствараючым суцяжніцтва? Члены калегіі абаронцаў уліліся ў нашы судовыя ўстановы, як і звычайныя былыя чыноўнікі, з сваімі ўкараніўшыміся звычаямі і векавымі традыцыямі па спадчыне. Ня гледзячы, што савецкі апарат, дзе галоўным чынам чыноўніцтва знайшло прытулак, за дзесяць год існаваньня савецкай улады паддаўся вялікім карэнным перабудоўкам і зьменам, шмат чаго былога і хворага,назіраючагася ў працы, зьнішчана як рэпрэсіямі, так і прафіляктычнымі і маральнымі ўплывамі, але інстытут абароны з сваімі мэтадамі і падыходамі да працы, на які спадзяваліся працоўныя, не паддаўся ніякім зьменам, ня кажучы аб карэнным перабудаваньні.

На практыцы мне дадводзілася назіраць такія выпадкі, якія падмацуюць мой выказаны погляд і такія адмоўныя адносіны да абароны. Як правіла,

---

[1]) Зьмяшчаецца ў дыскусыйным парадку.

абаронцы пры спатыканьні кліентуры, не бяруцца за справу ў прысутнасьці іншых асоб, трэба, каб умовіцца „выйсьці ў карыдор“, а там магчыма і абыйсьці закон аб ганарары і дабіцца гэтай справы, пры адсутнасьці ўсякай патрэбы ў забароне. Імкненьне ў выігрываньні ўсякай справы нават пры наяўнасьці выстарчальных доказаў і прызнаньня самого злачынца. Як правіла, кожны абаронец імкнецца ў час судовага сьледзтва прад'явіць шмат хадайніцтв, бязгрунтоўных, з мэтай сарваць працэс, зацягнуць яго, а потым і сама справа губіць грамадзкую цікавасьць, чым выклікаецца абурэньне насельніцтва, і ў сувязі з гэтым узьнікае падчас ня зусім правільнае меркаваньне аб пралятарскім судзе і карнай палітыцы. Сплашное перанясеньне спраў з першае ў другую судовую інстанцыю, пры адсутнасьці ўсякіх доводаў і падстаў к гэтаму і, ў выпадку няўдач, заграмаджэньне скаргамі паднаглядных установ. Напэўна, з боку працоўнага майму погляду раздадуцца такія крыкі; што-ж? Вы пажадаеце забараніць насельніцтву скардзіцца і дабівацца свайго законнага права?

На гэта павінен адказаць наступнае: што скардзіцца, так трэба, і абаронцу трэба пісаць скаргу і аказваць юрыдычную дапамогу, але тады, калі сапраўды парушаны яго кроўныя інтарэсы і чыннае савецкае заканадаўства, а не ствараць непатрэбную цяганіну і параджаць суцяжніцтва.

Прадаўжаючы варыцца ў сваім уласным былым саку, яе паасобнымі сябрамі выкідаюцца такія выкрутасы, якія, добра не ведаю, ці мелі месца і ў былы час, як-та: перахват спраў адзін у аднаго ў пагоні за ганарарам і „славутасьцю“. Калі адзін выступае ў судзе ў першай інстанцыі і справу прайграў, то ў другой інстанцыі выступае другі абаронец, які б'е на сваю вялікую практыку, мастацтва і славутасьць.

Пагоня за практыкай набывае вялікі прыток кліентуры, а ў сувязі з гэтым і вялікую колькасьць спраў. Дзякуючы славутасьці па суцяжніцтву, якая не дае магчымасьці абслугаваць бесхваробна, з прычыны чаго шмат сялян фактычна пазбаўляюцца мець у судзе абаронца, абураюцца ў судовым паседжаньні на савецкія парадкі, заяўляючы хадайніцтва аб адкладаньні спраў і толькі таму, што праца абаронца праходзіць без належнай савецкай афарбоўкі. Аказаньне дапамогі з абодвых бакоў, займаючыся падчас пагоджаньнем іх, даволі сьведчыць аб скажэньні савецкага заканадаўства. Усе гэта яскрава сьведчыць, што абарона ў сучасны момант, у якім-бы там выглядзе яна ні была і як-бы яна ні была падфарбована, не патрэбна пралятарскай дзяржаве. За дзесяць год існаваньня, савецкая юстыцыя ўзмацніла свае шэрагі чырвонымі юрыстымі. Рабочая кляса разам з бяднейшым сялянствам здолелі выхаваць і вылучыць з сваіх шэрагаў значную колькасьць чырвоных юрыстых з пралятарскім чуцьцём. Нашы нарсуды забясьпечаны здольнымі і добрасумленнымі працаўнікамі, якія здольны учыняць правасудзьдзе без асобных груп дапамагальнікаў. Маючыся інстытут нарзасядацеляў даў магчымасьць уцягнуць у судабудаўніцтва значную частку працоўнага насельніцтва. За дзесяць год насельніцтва праз чырвоных працаўнікоў юрыспрудэнцы, выстарчальна азнаёмілася з рэвалюцыйнай законнасьцю і за гэты час навучылася шанаваць, аховаць і пільнаваць рэвалюцыйныя законы. І пры тых умовах, калі суд грунтуе свой прысуд **выключна** на маючыхся ў справе доказах, разгледжаных у судовым паседжаньні, і калі ацэнка гэтых доказаў зьяўляецца неад'емным правам судзьдзяў па іх унутраным пераканаьні ў залежнасьці ад акалічнасьцяй справы і злучнасьці доказаў, я пытаю: для якой мэты патрэбна пры судзе абарона? Якая карысьць ад яе працоўным пры існуючых яе мэтадах у аказаньні юрыдычнай дапамогі? Абарона і з савецкай шыльдай аджыла свой доўгі і „каратайны“ век; час, настаў зручны час, каб яе здаць у архіў гістарычных рэдкасьцяй бесхваробна.

**Ю. Шыфрын**

# Аб кваліфікацыі злачынстваў, зьвязаных з таемным гандлем хлебным віном[1]).

Абежнікам НКЮ і НК Гр. Спраў ад 21/II—28 г. за № 30 растлумачана, што гандаль хлебным віном без належнага на тое дазволу і без асобнага патэнту павінен пацягнуць адказнасьць па арт. 140 К. К.

Пры наяўнасьці-ж адпаведнага дазволу, але пры адсутнасьці асобнага патэнту, гандаль гэтым віном, паводле гэтага абежніку, павінен пацягнуць за сабой пакараньне ў адміністрацыйным парадку. Гэты апошні вывад абежніку грунтуецца на інструкцыі НКУС, НКГС і НКАЗ ад 7/I—26 г. аб парадку гандлю хлебным віном.

Растлумачэньне гэта як у першай, так і ў другой яго частках знаходзіцца, на мой погляд, ў супярэчнасьці як з вышэйпаказанай інструкцыяй, так і з арт. 140 і 139-а Кр. Код. і вось па якіх меркаваньнях:

1. З дакладнага сэнсу арт. 140 К. К., ува ўсіх яго пунктах, з бясспрэчнасьцю, відаць, што для дапасоўваньня гэтага артыкулу неабходна мець у наяўнасьці дзьве ўмовы:

а) незаконны выраб і б) збыт незаконна-выробленых сьпірытусовых трункаў.

Без наяўнасьці аднае з гэтых умоў арт. 140 дапасаван быць ня можа.

2. Гэты пункт гледжаньня знаходзіць сабе пацьвярджэньне пры супастаўленьні арт. 140 бяз пунктаў і арт. 140-г Кр. Код., якія арт. арт. і маюць толькі на ўвазе барацьбу з патаемным гандлем і вырабам сьпірытусовых трункаў, за выключэньнем самагону, якi прадугледжан іншымі пунктамі арт. 140 К.К., а менавіта, арт. 140 бяз пунктаў, як маючы больш суровую санкцыю, прадугледжвае выраб з мэтай збыта і самы збыт він, гарэлак і г. д., а арт. 140-г. К. К, як маючы больш нізкую санкцыю, прадугледжвае хаваньне незаконна выробленых сьпірытусовых трункаў. Такім чынам, відаць, што арт. 140 бяз пунктаў прадугледжвае, як больш цяжкае злачынства, і незаконны выраб і збыт незаконна-выробленых сьпірытусовых трункаў; абодвы гэтыя пункты сумесна і ні ў якім разе не паасобныя выпадкі незаконнага вырабу і збыту, як гэта разумеецца вышэйпаказаным абежнікам НКЮ і НКГС а арт. 140-г. К. К. прадугледжвае толькі хаваньне з мэтай выпадковага збыту, незаконна выробленых сьпірытусовых трункаў.

3. Пры продажы хлебнага віна ня можа быць і гутаркі аб „збыце незаконна-выробленага“, бо хлебнае віно вырабляецца самым законнейшым чынам на нашых дзяржаўных заводах, і пагэтаму продаж гэтых сьпірытусовых трункаў ня можа карацца па арт. 140 К. К.

4. Цяпер паўстае пытаньне: парушэньне якіх законаў мы маем пры патаемным гандлі хлебным віном, і ў якім парадку гэты гандаль павінен карацца?

Згодна інструкц. НКУС, НКГС і НКАЗ ад 7/I—26 г. («Бюл. СНК», 1926 г., № 1, арт. 50) і далейшых распараджэньняў па адміністрацыйнай лініі, гандаль хлебным віном дазваляецца ўсім гр-нам БССР, за некаторымі выключэньнямі, паказанымі ў гэтай інструкцыі. Для гэтага неабходна толькі атрымаць дазвол ад адпаведных адміністрацыйных органаў і выплачваць у грашовыя органы спэцыяльны патэнтны збор.

Такім чынам, гандаль хлебным віном без паказанага вышэй дазволу і без спэцыяльнага патэнту парушае правілы аб гандлі прадметамі, на каторыя ёсьць спэцыяльная забарона, з аднаго боку, і парушае правілы аб спэцыяльным патэнтным зборы, з другога.

---

[1]) Зьмяшчаецца у парадку дыскусіі.

5. Парушэньне гэтых правіл дакладна прадугледжваецца арт. 139-а Кр. Код. (у рэдакцыі, зьмешчанай у З. З. БССР, № 27, 1927 г.), які карае за парушэньне акцызных правіл ці правіл аб спэцыяльным патэнтным зборы. Згодна гэтага арт., могуць быць два выпадкі адказнасьці за гэтыя парушэньні—судовая і адміністрацыйная. Цяпер нам трэба толькі ўстанавіць, якую адказнасьць павінен за сабой пацягнуць гандаль хлебным вінам—ці судовую, ці адміністрацыйную.

6. Мы маем толькі адно паказаньне аб тым, што гандаль хлебным вінам без дазволу і без патэнту цягне за сабой, «як быццам», адміністрацыйнае пакараньне.

Гэтае паказаньне мы маем у інструкцыі НКУС, НКГС і НКАЗ ад 7/I—26 г., і на гэтую інструкцыю робіць адноску абежнік НКЮ ад 21/II—28 г. за № 30 у тым месцы яго, дзе гаворыцца аб магчымасьці адміністрацыйнай адказнасьці за гандаль хлебным вінам.

7. На мой погляд, адноска на гэтую інструкцыю зусім ня грунтоўна, бо яна зусім ня кажа аб адміністрацыйнай адказнасьці. У гэтай інструкцыі сказана, што „міліцыя, выявіўшы патаемны гандаль хлебным вінам, складае аб гэтым пратакол і накіроўвае апошні ў грашовыя органы для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці „па закону“. А гэта яшчэ ня значыць, што грашовыя органы будуць і павінны накладаць адміністрацыйнае пакараньне на вінаватых, а гэта, па-мойму, значыць, што грашовыя органы павінны аформіць гэты пратакол, вылічыць страты, нанесеныя дзяржаве патаемным гандлем, і пратакол накіраваць па належнасьці ў суд для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці па арт. 139-а К. К.

Іншых паказаньняў у законе аб адміністрацыйнай адказнасьці за патаемны гандаль хлебным вінам мы ня маем, і такім чынам, трэба сказаць, што гандаль хлебным вінам як без дазволу, так і без асобнага патэнту караецца ў судовым парадку па арт. 139-а К. К.

8. Маючаеся ў гэтым артыкуле паказаньне на магчымасьць адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне акцызных правіл і правіл аб асобным патэнтнтым зборы, нас непакоіць не павінна, бо гэта паказаньне можа мець адносіны да парушэньня акцызных правіл ці правіл аб патэнтным зборы пры гандлі іншымі прадуктамі і вырабамі, а ня хлебным вінам.

З прычыны цікавасьці гэтага пытаньня пажадана, каб судовыя працаўнікі выказалі сваю думку аб гэтым на старонках часопісу «Рэвалюцыйная Законнасьць».

# З СУДОВАЕ ПРАКТЫКІ АСОБАЕ КАЛЕГІІ ВЫШЭЙШАГА КАНТРОЛЮ ПА ЗЯМЕЛЬНЫХ СПРАВАХ

У лютым месяцы г. г. у А. К. В. К. разглядалася цікавая з прынцыповага боку справа № 189—1928 г. па іску Грэскага райвыканкому, Менскае акругі, да гр. Ермалінскага аб скасаваньні арэнднага дагавору на садова-гародную гаспадарку „Мураванка“ і спагнаньні страт.

Акалічнасьці справы наступныя:

Грэскі райвыканком у сваёй іскавай заяве прасіў аб скасаваньні арэнднага дагавору ад 7 жніўня 1924 г., заключанага з гр. Ермалінскім на садова-гародную гаспадарку „Мураванка“, а таксама аб спагнаньні з арандатара Ермалінскага ў карысьць райвыканкому страт за невыкананьне ім арэнднага дагавору.

Да іскавае заявы была далучана копія акту абсьледваньня садова-гароднае гаспадаркі „Мураванка“, якім паказаныя страты вызначаны ў разьмеры 1230 руб.

Менская акруговая зямельная камісія, грунтуючыся на пастанове Ц. В. К. і С. Н. К. БССР пра датэрміновае скасаваньне дагавораў на адданую ў арэнду дзяржаўную зямельную маемасьць за 27 кастрычніка 1927 г., спыніла 16 лістапада 1927 г. спра-

вавядзеньнне ў судовым парадку, перадаўшы справу ў Грэскі райвыканком дзеля разгляду ў адміністрацыйным парадку.

А. К. В. К., разглядзеўшы 28 лютага 1928 г. гэту справу па скарзе арандатара Ермалінскага, знайшла, што:

1. Згодна пастанове ЦВК і СНК БССР пра датэрміновае скасаваньне дагавораў на адданую ў арэнду дзяржаўную зямельную маемасьць за 27 кастрычніка 1927 г. (Зб. Зак. за 1927 г., № 40, арт. 28), уся дзяржаўная зямельная маемасьць мясцовага значэньня, якая знаходзіцца ў арэндным карыстаньні, павінна быць перададзена ў працоўнае карыстаньне безьзямельнаму і малазямельнаму сялянству, пры чым арэндныя дагаворы на дзяржаўную зямельную маемасьць, якая належыць да перадачы безьзямельнаму і малазямельнаму сялянству, касуюцца адпаведнымі райвыканкомамі. Пагэтаму акр. зям.кам. правільна ў меркаваньнях сваей пастановы ад 16 лістапада 1927 г. паказвае, што арэндны дагавор на садова гародную гаспадарку „Мураванка“ павінен быць скасаван райвыканкомам у адміністрацыйным парадку.

2. З другога боку, Грэскі райвыканком, апроч скасаваньня арэнднага дагавору, прасіў таксама аб спагнаньні з арандатара Ермалінскага страт, якія райвыканком меў з прычыны невыкананьня ім дагавора.

3. Згодна пункту 5 памяненай вышэй пастановы ЦВК і СНК БССР за 27 кастрычніка 1927 г., разьмер страт, якія арандатары могуць мець пры датэрміновым скасаваньні дагавораў на дзяржаўную зямельную маемасьць, належачую да перадачы безьзямельнаму і малазямельнаму сялянству, з прычыны няпоўнага скарыстаньня імі зробленых палепшаньняў у арандаванай маемасьці, устанаўляецца ў адміністрацыйным парадку спэцыяльнаю ацэначнаю камісіяю і зацьвярджаецца райвыканкомам. Парадак-жа спагнаньня страт, якія дзяржаўная зямельная маемасьць мае ў сувязі з невыкананьнем аранадатарам арэнднага дагавора, падлягаючага датэрміноваму скасаваньню на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 27/X-1927 г., паказанаю пастановаю не прадугледжан, а значыцца гэтыя страты павінны быць устаноўлены ў агульным зямельна-судовым парадку.

Такім чынам, іск райвыканкому ў часьці спагнаньня страт з адказчыка падлягаў разгляду і вырашэньню А. З. К.

Грунтуючыся на гэтым, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю адмяніла пастанову Менскае А. З. К. ад 16 лістапада 1927 г. і справу дзеля новага разгляду накіравала ў тую-ж зямельную камісію.

**Д. Г.**

---

## Аб праве працоўных землякарыстальнікаў на лясныя распашкі, зробленыя імі да 17 сьнежня 1920 году.

Бабруйская акр. зям. камісія, разглядзеўшы справу па іску Парыцкага лясьніцтва, Бабруйскае акругі, да Янкі Каханчыка аб адабраньні зямлі, прызнала сваім рашэньнем ад 27 кастрычніка 1927 г спрэчную зямлю ў разьмеры каля 2-х дзес. за Парыцкім лясьніцтвам, абавязаўшы адказчыка Янку Каханчыка зьнесьці пабудаваныя ім на гэтай зямлі будынкі не пазьней 1 мая 1928 г.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю па зямельных справах, разглядзеўшы 13 сакавіка 1928 г. гэту справу (№ 234—1928 г.) па скарзе Янкі Каханчыка, знайшла, што.

1. Данымі справы, у прыватнасьці адносьнікам старшыні сельсавету і аб'ежчыка на імя старшыні Парыцкага райвыканкому, устаноўлена, што спрэчнаю лясною распашкаю Янка Каханчык пачаў карыстацца яшчэ ў 1917-18 г.

2. Згодна растлумачэньню А. К. В. К. па журналу № 10 свайго распарадчага пасяджэньня ад 6 ліпеня 1926 г., лясныя распашкі, зробленыя да 17 сьнежня 1920 г., гэта ёсьць да моманту зацьвярджэньня 2 Усебеларускім Зьездам Саветаў тэзысаў Наркамзему па аграрным пытаньні, вайшлі ў склад зямель працоўнага карыстаньня

3. Пагэтаму і паводле 124 арт. Зям. Код. адказчык Янка Каханчык з прычыны свайго доўгалетняга карыстаньня спрэчнаю зямлёю набыў на яе права працоўнага карыстаньня.

4. Калі спрэчная зямля неабходна для патрэб лясной гаспадаркі, дык яна можа быць адабрана з працоўнага карыстаньня гр. Янкі Каханчыка толькі ў парадку 21 арт. Зям. Код. і з захаваньнем вымаганьняў 22 арт. таго-ж Зям. Код.

Грунтуючыся на гэтым, А. К. В. К. адмяніла рашэньне Бабруйскае А. З. К ад 27 кастрычніка 1927 г. і спыніла справавядзеньне.

# РАСТЛУМАЧЭНЬНІ ВЯРХОЎНАГА СУДУ БССР.

**У пасяджэньні пленуму Вярхоўнага Суду за 4 красавіка—28 г. растлумачаны наступныя пытаньні:**

1. Ці зьяўляюцца 3 віды брагі прыгатаўленьнем да злачынства, альбо замахам на злачынства?

### Вярхсуд адказвае:

1. Згодна арт. 11 асноўных пачаткаў Крымінальнага Законадаўства Саюзу і саюзных рэспублік, якія дзейнічаюць і на тэрыторыі БССР з 1924 г., прыгатаўленьне да злачынства і замах на яго не разьмяжоўваюцца паміж сабою і караюцца таксама, як зробленае злачынства, але мера сацыяльнай абароны дапасоўваецца ў залежнасьці ад ступені небясьпечнасьці асобы і ступені ажыцьцяўленьня злачыннага намеру

2. Як трэба кваліфікаваць учыненьне абраду абрэзаньня над дзяцьмі бяз ведама і згоды бацькоў?

### Вярхсуд адказвае:

2. Маючы на ўвазе, што згодна арт. 57 Код. Зак. аб шлюбе, сям'і і апецы ўсе мерапрыемствы ў адносінах да дзяцей прымаюцца бацькамі з іх агульнай згоды, а пры разнагалосьсі бацькоў спрэчнае пытаньне вырашаецца органамі апекі і папячыцельства з удзелам бацькоў, што ўчыненьне абраду абрэзаньня, які дзякуючы бытавых і рэлігійных забабонаў да сяго часу яшчэ мае некаторае распаўсюджваньне, бязумоўна зьяўляецца правам толькі бацькоў, а ня іншых асоб, што такім чынам учыненьне гэтага абраду адным з бацькоў бяз згоды на гэтае другога бацькі альбо зусім іншай асобай зьяўляецца самапраўным вырашэньнем пытаньня, якое павінна вырашацца толькі органамі апекі і папячыцельства, растлумачыць, што ўчыненьне абраду абрэзаньня адным з бацькоў альбо іншай асобай пры адсутнасьці на гэтае агульнае згоды бацькоў павінна кваліфікавацца, як самапраўства па арт. 103 КК.

3. Ці пашыраецца ўвага да арт. 180 „д“ КК і на справы па абвінавачваньні службовых асоб дзяржаўных устаноў?

### Вярхсуд адказвае:

3. Паколькі ўвага гэта прадугледжвае:

1) кражу фабрычна-завадзкую;

2) учыненую рабочым альбо служачым, які працуе на вытворчасьці;

3) і ў межах свайго прадпрыемства,— растлумачыць, што ўвага да арт. 180 „д“ КК па справы на абвінавачваньні ў дробных кражах служачых дзяржаўных устаноў не пашыраецца.

4. Ці мае права нарсудзьдзя пры нязгодзе з пастановай сьледчага аб адданьні пад суд унесьці гэту справу ў парадку арт. 234 КПК у распарадчае пасяджэньне для абмеркаваньня пытаньня аб спыненьні справы альбо накіраваньні яе да дасьледваньня?

### Вярхсуд адказвае:

4 Маючы на ўвазе:

1) што арт. 234 КПК не забараняе забароны нарсуду разглядаць гэтыя справы ў распарадчым пасяджэньні, а толькі раіць іх, у мэтах эканоміі часу, прызначаць для разгляду ў судовым пасяджэньні;

2) што згодна арт. 248 КПК нарсудзьдзя мае права перадаць на разгляд распарадчага пасяджэньня ўсе пытаньні, якія прадстаўлены яго самачыннаму вырашэньню.

3) што прызначэньне справы да разгляду ў судовым пасяджэньні ў тых выпадках, калі ёсьць падстава для спыненьня справы альбо накіраваньня да дасьледван ня, пацягнула-б за сабой толькі зусім непатрэбную страту сіл і сродкаў, нарсуду растлумачыць, што справы, паступіўшыя ў парадку арт. 223 КПК ад сьледчага з пастановай аб адданьні пад суд, прызначаюцца нарсудзьдзёй да разгляду ў судовым пасяджэньні ў тых выпадках, калі нарсудзьдзя з гэтай пастановай згодзен; пры нязгодзе-ж нарсудзьдзі ён мае права ўнесьці справу ў распарадчае пасяджэньне для вырашэньня пытаньня аб далейшым накіраваньні справы.

5. Аб чарговасьці здавальненьня прэтэнзій прафэсыянальных саюзаў да ўзысканьня з наймальнікаў процантных адлічэньняў на ўтрыманьне фабзаўмясцкому і культурных патрэб членаў саюзу?

### Вярхсуд адказвае:

5. З тае прычыны, што процантныя адлічэньні на ўтрыманьне фабзаўмясцкому і на культпатрэбы выцякаюць з калектыўных і працоўных дагавороў і асновааны на арт. 16 Код. Зак. аб працы і зьяўляюцца асновай вядзеньня ўсей саюзнай культурнай работы, растлумачыць, што ўсе прэтэнзіі прафсаюзных органаў на ўтрыманьне нізавых саюзных органаў і на культурныя патрэбы ў адпаведнасьці з арт. 103 ГК павінны спаганяцца нараўне з зарплатай у першую чаргу.

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКОНАДАЎСТВА.

**За час ад 1-га лютага да 1-га сакавіка 1928 г.**

## А. Пастановы ўраду СССР.

### I. Савецкае Будаўніцтва.

1. Пастановай прэзыдыуму ЦВК СССР за 8 лютага 1928 г. зацьверджаны асноўныя палажэньні аб арганізацыі ў СССР гарадзкіх саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. („Изв. ЦИК", № 36—11/II—28 г.). Гарадзкія саветы ўтвараюцца ва ўсіх гарадох і рабочых паселішчах і іх арганізацыйныя формы, правы і абавязкі вызначаюцца ў парадку законадаўства саюзных рэспублік. Гарсаветы зьяўляюцца вышэйшымі органамі ўлады на тэрыторыі гораду і падначальваюцца выканаўчаму камітэту тэй адміністрацыйна тэрыторыяльнай адзінкі, у склад якой уваходзіць горад.

Гарсаветам перадаюцца прыбытковыя крыніцы для забесьпячэньня гара зкога бюджэту, і яны ўстанаўляюць мясцовыя падаткі і зборы і маюць права рабіць пазыкі. Гарсаветы вырашаюць усе пытаньні гарадзкога значэньня і маюць права кантролю ўсіх устаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі гораду.

### II. Праца.

2. Пастанова СНК СССР за 2 лютага 1928 г. пра тэрміны выплаты заработнай платы („Изв. ЦИК", № 33—8/II—28 г.) выдана дзеля мэты аблягчэньня работы гандлёвай сеткі і зьнішчэньня перабояў у забесьпячэньні працоўных прадметамі першай неабходнасьці, якія выклікаюцца ўзмоцненым попытам у дні выплаты заработнае платы НКПрацы СССР па згодзе з НКФ СССР і УЦСПС даручана ўстанавіць такі парадак выплаты заработнае платы работнікам устаноў і прадпрыемстваў, пры якім выплата заработнае платы ўтваралася-б у розныя тэрміны, якія не супадаюць з тэрмінамі, выплаты заработнае платы ў данай мясцовасьці работнікам прамысловых прадпрыемстваў.

### III. Фінансы і крэдыт.

3. Пастановай ЦВК і СНК СССР за 8 лютага 1928 г. зацьверджана палажэньне аб таварыствах узаемнага крэдыту („Изв. ЦИК", № 43—19/II—28 г.). Гэтыя таварыствы маюць мэтаю дапамогу сваім членам праз дачу ім кароткатэрміновага крэдыту. Членамі таварystваў могуць быць фізычныя і юрыдычныя асобы, якія займаюцца гандлем або прамысловасьцю, а таксама ўладары будынкаў і забудоўшчыкі. Дзяржаўныя прадпрыемствы, каапэрацыйныя і грамадзкія арганізацыі ня могуць быць членамі таварыстваў узаемнага крэдыту. Народныя статуты таварыстваў выдаюцца ў парадку законадаўства саюзных рэспублік. У пастанове падрабязна азначаны парадак арганізацыі таварыстваў, працы і абавязкі таварыстваў і іх членаў, апэрацыі таварыстваў, органы кіраваньня, парадак ліквідацыі і г. д.

4. Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 18 лютага 1928 г. аб зьмене арт. 36 палажэньня аб дзяржаўных працоўных касах ашчаднасьці („Изв. ЦИК" № 50—28/II—28 г.), укладчыку даецца права паказваць касе асоб, якім уклад павінен быць выданы ў выпадку сьмерці ўкладчыка. Такімі асобамі могуць быць фізычныя асобы незалежна ад таго, ці яны зьяўляюцца насьледнікамі ўкладчыка, таксама юрыдычныя асобы.

## Б. Пастановы ўраду БССР.

### I. Праца.

1. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 2 лютага 1928 г. пра ільготы для гэрояў працы („Сав. Бел.", № 35—10/II—28 г.), гэрoі працы карыстаюцца наступнымі ільготамі: стаўкі кватэрнай платы з іх вылічваюцца ў разьмеры 50 проц. стаўкі рабочых і служачых, і ва ўсіх выпадках высяленьня ў адміністрацыйным парадку гэроям працы даецца жылая плошча і транспартныя сродкі. Дзеці і ўтрыманцы іх прымаюцца ва ўсе школы БССР пераважна перад усімі іншымі катэгорыямі паступаючых і звальняюцца ад платы за навучаньне. Гэрoі працы ня плацяць падаткаў з будынкаў і з аднае штукі буйнае жывёлы, і на іх пашыраюцца ўсе ільготы, якія даюцца паводле законадаўства БССР рабочым.

### II. Фінансы і крэдыт.

2. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 6 лютага 1928 г. пра зьмену артыкулаў 4 і 10 пастановы ЦВК і СНК БССР аб самаабкладаньні насельніцтва („Сав. Бел.", № 37—12/II—28 г.) самаабкладаньне дазваляецца і ў грашовай і ў натуральнай форме а таксама працоўным удзелам. Сельскія гаспадаркі, звольненыя ад сельска-гаспадарчага падатку, прыцягваюцца да самаабкладаньня толькі ў відзе працоўнага ўдзелу. Раскладка агульнай сумы самаабкладаньня робіцца прапарцыянальна суме сельска-гаспадарчага, прамысловага і пераходнага падатку, якія плацяцца данаю гаспадаркаю або асобаю на працягу году. Гаспадаркі, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, абкладаюцца прапарцыянальна палове сумы налічанага сельска-гаспадарчага падатку. Саматужнікі, з якіх зьнят падатак, абкладаюцца па сярэдняй стаўцы сельскіх гаспадарак, ня плацячых сельска-гаспадарчага падатку.

## III. Грамадзянскае права.

3. Паводле пастановы СНК за 30 студзеня 1928 г. пра парадак устанаўленьня праў на млыны ўмоўнага ўладаньня („Сав. Бел." № 37—12/II—28 г.) з 1 сакавіка 1928 г., спыняецца прыём заяў ад умоўных уладароў млыноў і ад выканаўчых камітэтаў аб устанаўленьні праў на млыны ўмоўнага ўладаньня. Эканамічнай нарадзе запрапанована разгледзець усе заявы пра млыны ўмоўнага ўладаньня і вырашыць пытаньні аб устанаўленьні праў на гэтыя млыны не пазьней 1 чэрвеня 1928 г.

## IV. Грамадзянскае судаводзтва

4. Пастановай ЦВК і СНК за 2 лютага 1928 г. пра зьмену арт. 316 і пра дапаўненьне артыкулам 316-а Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР („Сав. Бел.", № 38 14/II-28 г.) значна пашыран сьпіс прадметаў, якія вызваляюцца ад арышту і вопісу пры прымусовым спагнаньні доўгу.

У сьпіс уключаны і сыравіна і апал, патрэбныя для фактычнае працы прадпрыемства-даўжніка на працягу трох месяцаў. харчы і апал, патрэбныя для даўжніка і яго ўтрыманцаў; адна хата, хлеў і гумно, а таксама будаўнічы матар'ял на гэтыя будынкі; грашовыя сумы, патрэбныя для выплаты заработнае платы рабочым і служачым, узносаў на сацыяльнае страхаваньне, алімэнтаў і пэрыядычных плацяжоў за калецтва альбо сьмерць за мінулы час і за два тыдні наперад.

5. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 19 студзеня 1928 г. пра дапаўненьне палажэньня аб вэксалёх аддзелам IV і пра зьмену, дапаўненьне ўвагаю артыкулу 12 гэтага палажэньня („Сав. Бел.", № 27—1/II—28 г.), у выпадку страты вэксалю, зацікаўленыя асобы маюць права зьвярнуцца ў Народны Суд на месцы плацяжу з заявай аб прызнаньні вэксалю страціўшым сілу. Гэткая заява разглядаецца парадкам, устаноўленым арт. арт. 262—277 ГПК, паводле правіл запісаных у гэтым аддзеле. На падставе пастановы суду аб прызнаньні вэксалю страціўшым сілу могуць быць ажыцьцяўлены ўсе правы па вэксалі ў дачыненьні да асоб, паказаных у пастанове суду.

## V. Крымінальнае права.

6. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 19 студзеня 1928 года пра парадак ужываньня пастановы ЦВК і СНК СССР аб абмежаваньні канфіскацыі па суду („Сав. Бел.", № 29—3/II—28 г.), ня могуць быць канфіскаваны: патрэбныя для асуджанага і яго ўтрыманцаў адзеньне, бялізна, абутак, мэбля і іншыя рэчы хатняга ўжытку; прылады саматужнай або рамеснай працы і начыньне для прафэсыянальных заняткаў; сельска-гаспадарчы жывы і мёртвы інвэнтар і запас корму для жывёлы ў колькасьці, патрэбнай для падтрыманьня працоўнае земляробскае гаспадаркі; насеньне, патрэбнае працоўнай земляробскай гаспадарцы для чарговых пасеваў і нязьняты ўраджай, жылыя і дваровыя будынкі ў сельскіх мясцовасьцях, патрэбныя для нармальнага вядзен ня сельскае гаспадаркі; прадукты і апал на 6 месяцаў і некаторыя грашовыя сумы. У пастанове падрабязна паказаны колькасьці прадметаў кожнай катэгорыі, якія не падлягаюць канфіскацыі.

7. Пастановай ЦВК і СНК за 31 студзеня 1928 г. аб зьмене ў Крымінальным Кодэксе БССР у зьвязку з узмацненьнем барацьбы з вырабам самагону („Сав. Бел.", № 27—1/II—28 г.) зацьверджаны арт. арт. 140-а, 140-б, 140-в і 140-г КК у новай рэдакцыі, паводле якой выраб, захаваньне для збыту, а таксама гандаль самагонам выклікае пазбаўленьне волі на тэрмін ня менш 3 год са строгаю ізаляцыяю, канфіскацыю ўсяе маемасьці і пазбаўленьне праў да 5 год, а калі гэта рабілася з прычыны матар'яльнага недастатку, беспрацоўя, альбо маласьвядомасьці—пазбаўленьне волі да 3 гадоў або штраф да 500 руб. Выраб сьпіртавых напіткаў, у тым ліку самагону, не для збыту выклікае ў адміністрацыйным парадку штраф да 300 руб. альбо прымусовыя работы да 3-х месяцаў.

## VI. Судабудаўніцтва.

8. Пастановай прэзыдыуму ЦВК за 9 лютага 1928 г. аб ліквідацыі дысцыплінарных судоў („Сав. Бел.", № 42—18/II—28 г.) дысцыплінарныя суды БССР ліквідуюцца, і іх справы перадаюцца ў агульныя судовыя ўстановы ў парадку, які павінен быць устаноўлены Народным Камісарыятам Юстыцыі.

## VII. Адміністрацыйнае права.

9. Пастановай ЦВК і СНК за 2 лютага 1928 г. пра пасьведчаньні асобы („Сав. Бел.", № 42—18/II—28 г.) дзяржаўным органам, службовым асобам, домакіраўніцтвам і інш. забараняецца патрабаваць ад грамадзян, каб яны абавязкова паказвалі дакуманты, якімі сьведчыцца асоба, апроч выпадкаў, спэцыяльна прадугледжаных законамі. Грамадзяне, якія хочуць атрымаць пасьведчаньне выдаецца на неабмежаваны тэрмін сельскімі местачковымі саветамі, а ў гарадох—органамі міліцыі.

# Агляд важнейшых актаў савецкага законадаўства за час ад 1 сакавіка да 1 красавіка 1928 г.

## А. Пастанова ўраду СССР.

### Праца

Пастановай ЦВК і СНК СССР за 14 сакавіка 1928 г. зацьверджана палажэньне пра забясьпечаньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня па выпадку інваліднасьці і па выпадку страты кармільца („Изв. ЦИК“, №72—25/III—28 г.). Забясьпечаньне ў парадку сацыяльнага страхаваньня пашыраецца на асоб, якія працуюць па найму, у выпадку наступленьня ў іх інваліднасьці і на членаў сям'і асоб, якія працуюць па найму, у выпадку страты кармільца. Забясьпечаньне па інваліднасьці даецца асобам, страціўшым працаздольнасьць з прычыны няшчаснага выпадку, які здарыўся ў зьвязку з работай па найму, альбо з прычыны прафэсыйнага захварэньня, а таксама ад іншых прычын; у апошнім выпадку, пры наяўнасьці агульнага стажу работы па найму ад 1 да 8 год у залежнасьці ад іх узросту. Забясьпечаньню па выпадку страты кармільца належаць наступныя члены сям'і, якія знаходзіліся на ўтрыманьні асобы, якая памёрла ці бязьвесна адсутнічае: не дасягнуўшыя 16 гадовага ўзросту дзеці, браты і сёстры, а таксама дасягнуўшыя 16 год, але страціўшыя працаздольнасьць да дасягненьня імі менаванага ўзросту; бацькі непрацаздольныя ці дасягнуўшыя — мужчыны 60 гадовага ўзросту, а жанчыны 55 гадовага ўзросту а таксама, хаця і не здавальняючы гэтым умовам, але занятыя даглядам за дзяцьмі братамі і сёстрамі кармільца, які памёр ці бязьвесна адсутнічае, не дасягнуўшымі 8 гадовага ўзросту. Пэнсія па выпадку інваліднасьці асобе, якая зусім страціла працаздольнасьць і мае патрэбу ў пабочным даглядзе, вызначаецца ў велічыні яго заработку ад работы па найму, калі інваліднасьць зьявілася вынікам няшчаснага выпадку, які здарыўся ў зьвяку з работай па найму, ці прафэсыйнага захварэньня, і ў велічыні $^2/_3$ яго заработку, калі інваліднасьць зьявілася вынікам іншых прычын, Пэнсія па выпадку інваліднасьці асобе, якая зусім страціла працаздольнасьць, але ня мае патрэбы ў пабочным даглядзе, а таксама асобе, часткова страціўшай працаздольнасьць, вызначаецца ў паніжанай велічыні ў залежнасьці ад групы інваліднасьці, да якой яна аднесена. Пэнсія па выпадку страты кармільца сям'і вызначаецца ў велічыні ад $^3/_4$ да $^4/_9$ яго заработку, у залежнасьці ад прычыны сьмерці кармільца, калі сям'я складаецца з 3 ці больш асоб і ў паніжанай велічыні для сям'і менш, чым з 3 асоб.

## Б. Пастановы ўраду БССР.

### І. Праца.

1. Пастановай ЦВК і ЗНК за 1 сакавіка 1928 г. пра дапаўненьне Кодэксу Законаў аб Працы БССР артыкулам 93[1] („Сав. Бел.“, № 68—21/III—28 г.) устаноўлена для спрэчак, узьнікаючых пры ўжываньні наймовае працы, трохгадовая іскавая даўнасьць і для спрэчак аб прыняцьці назад на пасаду і аб аплаце звышмерных работ—шасьцімесячная іскавая даўнасьць.

2. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 1 сакавіка 1928 г. пра зьмену артыкулаў 111 і 112 Кодэксу Законаў аб Працы БССР („Сав. Бел.“, № 71—24/III—28 г.) не дазваляецца праца ў наступныя сьвяточныя дні: 1 студзеня—Новы год і дзень абвяшчэньня БССР; 22 студзеня—дзень 9 студзеня 1905 г. і дзень памяці У. І. Леніна; 12 сакавіка—дзень, у які скінута самаўладзтва; 18 сакавіка—дзень Парыскай Камуны; 1 траўня—дзень Інтэрнацыяналу і 7 і 8 лістапада—дні Пралетарскай Рэвалюцыі. Апроч гэтых сьвяточных дзён, НКПрацы па згодзе з ЦСПС БССР устанаўляе штогодна сем дзён адпачынку, кіруючыся мясцовымі нацыянальна-бытавымі ўмовамі.

3. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 1 сакавіка 1928 г. пра дапаўненне правіл аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, у прамысловай каапэрацыі і працоўных арцелях („Сав. Бел.“, № 75—29/III—28 г.), пры абкладаньні дзяржаўным прамысловым падаткам не ўваходзяць у лік наймовых рабочых: у прамысловых каапэрацыйных таварыствах (арцелях) вучні да 20 гадоў у колькасьці, якая не перавышае ліку членаў таварыства, у саматужных і рамесных прадпрыемствах з лікам рабочых ня больш 3, у саматужнікаў і рамесьнікаў, якія працуюць самі, альбо пры дапамозе членаў свае сям'і, а таксама ў саматужнікаў і рамесьнікаў, якія не абкладаюцца прамысловым падаткам,—першыя 2 вучні да 20 год.

### ІІ. Зямельнае права.

3. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 23 лютага 1928 г. пра перадачу выхаванцаў дзіцячых дамоў у працоўныя земляробскія гаспадаркі для падрыхтоўкі іх да сельска-гаспадарчае працы („Сав. Бел.“, № 54—3/III—28 г.) кожны калектыў альбо двор можа браць аднаго выхаванца ад 8 да 15 год на тэрмін ня менш за 3 гады. З дазволу райвыканкому двор можа браць 2 выхаванцаў, а калектыў—і больш. Калектыў або двор павінен трымаць выхаванца ў

аднолькавых умовах з іншымі членамі двара, навучаць яго вядзеньню сельскае гаспадаркі і даць яму магчымасьць скончыць ня менш чым 4-гадовую школу. Каляктыў або двор, які ўзяў выхаванца, мае права атрымаць на выхаванца вучастак зямлі. Гэтая зямля, па сканчэньні тэрміну працоўнага выхаваньня, пакідаецца ў карыстаньні двара, калі выхаванец застаецца ў двары на правах яго члена, калі ж ён выйдзе са двара і захоча вясьці самастойную гаспадарку, ён атрымлівае зямлю на агульных падставах.

## III. Фінансы.

5. Пастановаю ЦВК і СНК за 10 сакавіка 1928 г. аб пашырэньні пастановы ЦВК і СНК БССР аб самаабкладаньні насельніцтва мястэчак і сельскіх саветаў, якія знаходзяцца ў межах гарадоў („Сав. Бел.“, №62—14/III—28 г.), закон аб самаабкладаньні насельніцтва пашыран на насельніцтва мястэчак і на насельніцтва сельскіх саветаў, якія знаходзяцца ў межах гарадоў. Агульны разьмер самаабкладаньня насельніцтва мястэчак ня можа перавышаць 35% сумы сельска-гаспадарчага, падаходнага і прамысловага падаткаў. Правы і абавязкі па самаабкладаньні, якія дадзены ў законе сельскім саветам, у дачыненьні да мястэчак пераходзяць да местачковых саветаў.

## IV. Грамадзянскае права.

6. Паводле пастановы ЦВК і СНК за 1 сакавіка 1928 г. пра дапаўненьне Грамадзянскага Кодэксу БССР артыкуламі 107-а—107-р („Сав. Бел.“, № 70—23/III—28 г.) крэдытныя ўстановы і іншыя юрыдычныя асобы, якім гэта дазволена законам, маюць права браць у заставу тавары, якія знаходзяцца ў звароце ці ў пераапрацоўцы; застаўленыя тавары ў звароце пакідаюцца ў заставадаўцы і павінны захоўвацца ў вызначаным дагаворам складзе, магазыне і г. д. асобна ад іншае яго маемасьці. Пры заставе тавару ў пераапрацоўцы ён пакідаецца для пераапрацоўкі заставадаўцу альбо перадаецца для гэтага трэцяй асобе. Пры заставе тавараў у звароце і ў пераапрацоўцы ўжываюцца адпаведныя артыкулы ГК аб заставе маемасьці.

# ХРОНІКА.

## У Інстытуце Беларускай Культуры

21 красавіка гэтага году пад старшынствам праф. М. О. Грэдынгэра адбылося пасяджэньне праўнай сэкцыі Інстытуту Беларускай Культуры, на каторым быў заслухан даклад тав. Ватацы на тэму: „Прынцып рэвізійнасьці ў касацыйным справавядзеньні па ГПК“.

Зазначыўшы на тое. што Грамадзянскі Працэсуальны Кодэкс адхіляе сыстэму двух інстанцый. г. зн. неабходнасьць апэляцыйнага абскарджаньня, дакладчык устанаўляе далей, што па ГПК дапушчаецца толькі юрыдычная праверка рашэньня ў мэтах абароны парушэньня законаў матар'яльнага і працэсуальнага характару.

Такога роду праверка можа рабіцца двума мэтадамі: па пачатках касацыі і па пачатках рэвізіі.

З эўрапэйскіх кодэксаў пэршымі пачаткамі кіруюцца працэсуальныя кодэксы раманскай групы, пачаткам-жа рэвізіі ідуць кодэксы германскай групы.

Даўшы на падставе пастаноў заходня-эўрапейскіх кодэксаў характарыстыку таго і другога пачатку, дакладчык прыходзіць далей, на падставе аналізу пастаноў ГПК аб абскарджаньні рашэньняў і артыкулаў 7 і 11 Асноў Судабудаўніцтва СССР, да вываду аб тым, што „касацыйнае справаводзтва па ГПК пабудована па пачатках рэвізіі, а не касацыі, хоць тэрміны „рэвізія“, „рэвізійны парадак“ у тэксьце ГПК не ўпамінаюцца.

Далей на падставе матар'ялу Вярхоўнага Суду БССР, часткаю і РСФСР, а потым па матар'ялах камісіі па складаньні асноў грамадзянскага судаводства, а таксама Асобнай Камісіі НКРСІ БССР па абсьледваньні судовага апарату, дакладчык устанаўляе наступныя палажэньні:

1. Асновы судабудаўніцтва, не дапушчаючы апэляцыйнага абскарджаньня рашэньняў суду, будуюць вышэйшую інстанцыю суду па прынцыпу рэвізійнасьці.

2. Грамадзянскі Працэсуальны Кодэкс БССР, таксама як КПК, прынялі гэту канструкцыю вышэйшай інстанцыі, пры чым Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс зрабіў гэта больш пасьлядоўна і глыбока, чым ГПК.

3. Судовая практыка імкнулася і імкнецца да тлумачэньня норм Чыннага Грамадзянскага Кодэксу ў сэнсе ўзмацненьня рэвізійнасьці ў касацыйным працэсе.

4. Яшчэ далей у гэтых адносінах ідуць тыя пажаданьні і прапановы de lege ferenda, каторыя выражаны камісіяй па складаньні асноў грамадзянскага судаводства і Камісіяй НКРСІ БССР па абсьледваньні судовага апарату.

Улічваючы судовую практыку, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР унёс у заканадаўчыя органы БССР вялікі законапраэкт аб зьменах у Грамадзянскім Працэсуальным Кодэксе, і ў прыватнасьці ў разьдзеле аб абскарджаньні рашэньняў.

Мэтаю ўсіх праэктуемых НКЮ зьмен зьяўляецца рацыяналізацыя і спрашчэньне грамадзянскага працэсу.

У дакладзе быў дадзен падрабязны разгляд тэй часьці законапраэкту, каторая тычыцца абскарджаньня рашэньня. Па канструкцыі праэкту НКЮ БССР касацыйная інстанцыя:

а) называецца касацыйна—рэвізійнай;

б) яна абавязана абглядаць усё справаводзтва па кожнай паступіўшай да яе касацыйнай скарзе, грамадзянскай справе;

в) задачай яе зьяўляецца праверка юрыдычнага боку рашэньня суду;

г) касацыйна-рэвізійная інстанцыя ня зьвязана касацыйнымі повадамі. прыведзенымі старанамі;

д) у мэтах прысьпяшэньня працэсу, касацыйна-рэвізійная інстанцыя, у выпадку адмены рашэньня, перадае справу на новы разгляд толькі ў тых выпадках, калі з прычыны сваіх дэфэктаў рашэньне суду ня можа быць прызнана гэтакім; у астатніх выпадках касацыйна-рэвізійны суд або спыняе справу вядзеньнем, або пастанаўляе рашэньне па сутнасьці;

е) пастанова рашэньня па сутнасьці ў касацыйна-рэвізійнай інстанцыі недапусьціма, калі яе нельга вынесьці на падставе маючагася ў справе матар'ялу.

Паказаны праект НКЮ БССР, па думцы дакладчыка, не адходзіць ад асноўных прынцыпаў, выражаных у асновах грамадзянскага судаводства Саюзу ССР і адпавядае нашаму ладу. Праектуемыя нормы выкліканы жыцьцём, і таму яны ўпаўне прыемлемы.

Праект НКЮ БССР аб абскарджаньні рашэньняў пажадана, аднак, дапоўніць пастановай аб тым, што касацыйна-рэвізійная інстанцыя. пастанаўляючы рашэньне па сутнасьці і ня будучы зьвязанай касацыйнымі (рэвізійнымі) повадамі. ня можа, аднак, выйсьці з граніц касацыйных (рэвізійных) патрабаваньняў, пад каторымі разумеецца заява стараны аб тым, ці патрабуецца адмена або зьмена рашэньня і ў чым менавіта.

Пасьля адказу дакладчыка на заданыя пытаньні былі адчынены спрэчкі, у каторых прынялі ўдзел т. т. Парэчын, Вішнеўскі, Шпакаў, Шапіра, Курачкін, Канаплін, Чарняўскі.

Т. т. Парэчын, Вішнеўскі і Шпакаў выказалі пажаданьне, каб, замест касацыйна-рэвізійнай інстанцыі, у нас была арганізавана інстанцыя апэляцыйная.

Т. Парэчын мяркуе, што не патрэбна ў ГПК уводзіць найменьні інстанцыі, бо тэрміны „рэвізійны суд", „касацыйны суд", „апэляцыйны суд" для сялян не зразумелы; для селяніна важна толькі, каб ён меў права абскардзіць рашэньне, і каб справа была перагледжана зноў.

Далей т. Парэчын высунуў яшчэ адно палажэньне: неабходна зусім выключыць з ГПК пастанову аб тым, што ў выпадку неабходнасьці ў кіраўнічым растлумачэньні сэнсу закону гэта растлумачэньне даецца Пленумам Вярхоўнага Суду (арт. 247 ГПК РСФСР і арт. 290 ГПК БССР).

— Па думцы т. Парэчына, закон заўсёды павінен быць ясным і павінен дапасоўвацца „бяз усякіх тлумачэньняў". Калі закон ня ясны, яго неабходна неадкладна зьмяніць. Тлумачэньні закону прыводзяць да таго, што адзін і той-жа закон розна тлумачыцца ў БССР, РСФСР і УССР, што зусім недапусьціма.

Дакладчык і астатнія апанэнты пярэчылі супраць абодвых, вьставуленых т, Парэчыным палажэньняў.

Апэляцыйны суд мае шмат усім вядомых недахопаў; пры разглядзе справы ў апэляцыйнай інстанцыі не дасягаецца непасрэднасьць успрыйманьня доказаў; апэляцыйны суд далёк ад насельніцтва; ён уздарожвае і зацягвае працэс. Пагэтаму асновы судабудаўніцтва і не дапушчаюць апэляцыйнага суду. У рэспубліканскім Рыме ня было апэляцыйных судоў; зьнішчаны былі апэляцыйныя суды і ў Францыі ў час Вялікай Ф анцускай Рэвалюцыі; у сучасны момант на Захадзе прыкмецен рух супраць апэляцыйных судоў. Пагэтаму ўвядзеньне ў нас апэляцыйнага суду не пажадана.

З думкаю т. Парэчына аб тлумачэньні закону нельга згадзіцца. Гісторыя законадаўства яшчэ не дала прыкладу такіх законаў, каторыя не патрабавалі-б тлумачэньня. Гэта аб'ясьняецца цэлым шэрагам прычын, і ў прыватнасьці тым, што закон зьяўляецца заўсёды агульнай нормай, каторая ня можа і ня ставіць сваёй задачай выражаць канкрэтныя выпадкі. Пры выражэньні такіх канкрэтных выпадкаў, натуральна, тлумачыцца закон, а калі закон ня досыць поўны або ясны, то патрабуецца і кіраўнічае паказаньне. Як-бы рухома ні было законадаўства, закон ніколі ня можа ўгнацца за жыцьцём, і дзякуючы гэтаму роля Вярхоўнага Суду па прыстасаваньні і дапасаваньні закону да зноў нараджаючыхся грамадзкіх адносін вельмі значна і карысна.

# ЗАПЫТАНЬНІ і АДКАЗЫ.

**Запытаньне.**

1. Чым належыць кіравацца пры кваліфікацыі дзеяньняў службовых асоб аб парушэньні правіл па зьніжэньні цэн?

**Адказ.**

Парушэньні службовымі асобамі правіл аб гандлі і, ў прыватнасьці, пастаноў і дырэктыў урадавых органаў аб зьніжэньні дробных цэн павінны кваліфікавацца, згодна абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Вярхоўнага Суду, № 90, за 15 кастрычніка 1927 г. („Весьці НКЮ" № 9-10) толькі па 141 арт. Кр. Код. і падсудны народным судом.

У растлумачэньні гэтага пытаньня ў № 5 „Рэвалюцыйнай Законнасьці" была дапушчана памылка.

**Запытаньне.**

2. У чыю карысьць павінны ісьці грошы, атрымліваемыя юрыдычнымі кансультацыямі за аказаньне юрыдычнай дапамогі насельніцтву?..

**Адказ.**

Грошы, якія атрымліваюць абаронцы за працу ў кансультацыі, павінны паступаць у акруговы прэзыдыум калегіі абаронцаў, які скарыстоўвае іх на палепшаньне юрыдычнай дапамогі насельніцтву: абсталяваньне кансультацыі, набыцьцё літаратуры і г. д., і разьмяркоўваюцца прэзыдыумам па ўсіх кансультацыях.

# ЗАГАД № 48

## па Народнаму Камісарыяту Юстыцыі і Пракуратуры Рэспублікі

7-го чэрвеня 1928 г. г. Менск

§ 1.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР 7 чэрвеня г.г. здаволіў маё хадайніцтва аб аслабаненьні мяне ад абавязкаў Народнага Камісара Юстыцыі І Пракурора Рэспублікі. У бліжэйшыя дні я пакідаю БССР і пераходжу на навуковую працу.

Звыш 3-х годаў мне прыходзілася кіраваць органамі юстыцыі ў БССР. Гэта былі гады вялікай арганізацыйнай працы ўсіх судовых працаўнікоў Рэспублікі. Судовая рэформа, праведзеная ў 1925-26 г.г. у відзе арганізацыі акруговых судоў, вучастковай пракуратуры, народных судоў для нацыянальных меншасьцяй, пераарганізацыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі, Вярхоўнага Суду, акруговых пракуратур, абароны, -- поўнасьцю сябе апраўдала.

Далека пайшло ўперад законадаўства БССР у галіне судовага права. Усе гэта было праведзена агульнымі дружнымі сіламі ўсіх працаўнікоў юстыцыі Рэспублікі.

Расстаючыся з ўсімі тымі, хто дружна разам са мной ўзмацнялі справу савецкай юстыцыі ў БССР, я ўпэўнены, што судовыя працаўнікі Рэспублікі, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі і Ураду, прыложаць усе сілы да паляпшэньня і ўдасканаленьня судовай справы ў БССР.

Я прынашу сваю глыбокую прызнацельнасьць судовым працаўнікам Рэспублікі за аказанае мне падтрыманьне ў працы і жадаю ім у далейшым быць зоркім вокам і цьвердай караючай рукой пралетарыяту.

Шырей дарогу, цьвярдзей шаг па Ленінскаму шляху ў барацьбе за рэвалюцыйную законнасьць!..

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *Сэгаль*

---

# ДОБРЫ ПРЫКЛАД.

Пам. пракурора 2-га вуч. Віцебскай акругі т. Качэргін навербаваў 15 падпісчыкаў на часопіс „Рэвалюцыйная Законнасьць“ і заклікае ўсіх судовых і пракурорскіх працаўнікоў пасьледаваць яго прыкладу.

Рэдакцыя часопісу з свайго боку таксама зьвяртаецца з просьбай да ўсіх судовых працаўнікоў пасьледаваць гэтаму добраму прыкладу і па магчымасьці прыняць захады ў справе пашырэньня падпіскі на часопіс „Рэвалюцыйная Законнасьць“.

*Рэдакцыйная Калегія.*

---

# АД РЭДАКЦЫІ.

**Рэдакцыя паведамляе ўсіх падпісчыкаў, якія падпісаліся на 6 месяцаў з 1 студзеня г.г., калі яны жадаюць сваечасова атрымліваць наш часопіс і на далей, павінны патарапіцца даслаць падпісную плату.**

---

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Прусаву В. О**. Закранутае Вамі пытаньне „аб прыйманьні ў лік членаў двара новых членаў“ вельмі цікавае, але па гэтым пытаньні ёсьць ужо тлумачэньне АКВК, якое зьмешчана ў № 4 Бюлетэню СНК—1928 г.

**Уладаўскаму**. З прычыны таго, што закранутае Вамі пытаньне ў арт. „Да рацыяналізацыі судовага апарату“ вырашана ў законадаўчым парадку, зьмяшчаць яго на старонках часопісу немэтазгодна.

**Розэнгаўзу.** Ваш. арт. „Чаму і аб чым пішуцца заявы сялянамі ў Пракуратуру“ перададзен для скарыстаньня, як матар'ял у Пракуратуру Рэспублікі.

**Савіцкаму.** Рэдакцыя лічыць, что закранутае Вамі пытаньне ў арт. „Патрэбен перагляд арт. 105 КПК“ досыць высьветлена ў артыкуле Дамброўскага, Судакова і Шапіра, які зьмешчан у № 5 „Рэв. Законнасьці“.

**Марголіну.** З тае прычыны, што закранутае Вамі пытаньне ў арт. „Немного о рационализации“ застарэла, зьмяшчаць яго немэтазгодна.

**Сараку**. Закранутае Вамі пытаньне ў арт. „Пока не поздно“ канчаткова вырашана ў тым сэнсе, у якім прапануеце і Вы, а таму рэдакцыя лічыць немэтазгодным зьмяшчаць яго на старонках часопісу.

---

**Адказны рэдактар:** **Рэдакцыйнае Калегія.**

# АФІЦЫЙНАЯ ЧАСТКА.

ЗЬМЕСТ: абежнікі №№ 52, 53, 56, 57, 58, 59, 61, цыркулярны ліст № 3, інструкц. ліст Вярхоўнага Суду.

## АБЕЖНІК № 52

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 21 красавіка 1928 г.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

**Аб узмацненьні нагляду за выкананьнем рашэньняў па грамадзянскіх справах і аб прыняцьці некаторых мерапрыемстваў да разгрузкі судовых выканаўцаў.**

З маючыхся ў НКЮ матар'ялаў угледжваецца, што выкананьне рашэньняў па грамадзянскіх справах у судовых выканаўцаў і ў іншых органаў выкананьне значна адстае ад паступленьня да іх спраў аб выкананьні пакараных рашэньняў. Гэта наглядаецца ў адносінах да ўсіх катэгорый спраў, асабліва ў адносінах да спраў аб спагнаньні сродкаў на ўтрыманьне (алімэнтаў).

Прыймаючы пад увагу, што гэткае зьявішча часткова тлумачыцца нядбайнымі адносінамі некаторых органаў выкананьня да сваіх абавязкаў, а часткова надзвычайнай нагрузкай судовых выканаўцаў з прычыны іх нязначнай колькасьці па рэспубліцы, а ў адносінах да спраў аб спагнаньні алімэнтаў—таксама і адсутнасьцю ў судовых выканаўцаў неабходных сродкаў на праезд для выкананьня гэтых спагнаньняў на вёсцы, па-за месцам знаходжаньня камэр судовых выканаўцаў, Народны Камісарыят Юстыцыі, у мэтах адхіленьня гэткага зьявішча, якое вельмі перашкаджае інтарэсам працоўных і аўтарытэту суду, прапануе наступнае:

1. Акруговым судом—узмацніць нагляд за дзейнасьцю судовых выканаўцаў і адначасова прыняць меры да перадачы судовымі выканаўцамі праз адпаведныя нарсуды ў парадку арт. 4-га інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах („Рэвалюцыйная законнасьць“ 1928 г. № 1—2), усіх няскончаных імі спагнаньняў, у тым ліку і аб алімэнтах, органам міліцыі і местачковым і сельскім саветам, маючы на ўвазе пры гэтым, што апошнім падлягаюць спагнаньні на суму ня звыш 15 рублёў, і што па пэрыядычных спагнаньнях, як, напрыклад, па спагнаньнях алімэнтаў, пры вырашэньні пытаньня аб перадачы справы сельскаму ці местачковаму савету павінна брацца пад увагу не агульная сума спагнаньня, а разьмер кожнага пэрыядычнага спагнаньня.

2. Акруговым пракурорам—узмацніць нагляд за выкананьнем рашэньняў па грамадзянскіх справах ува ўсіх органах дазнаньня, менавіта—у судовых выканаўцаў, міліцыі і сельскіх і местачковых саветах, асабліва—за выкананьнем рашэньняў аб спагнаньні алімэнтаў на ўтрыманьне дзяцей, прымаючы адпаведныя меры да прыцягненьня да належнай адказнасьці службовых асоб, вінаватых у дапушчэньні маруднасьці і цяганіны пры выкананьні рашэньняў па грамадзянскіх справах.

3. Усе спагнаньні па алімэнтных справах рабіць у першаю чаргу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

---

## АБЕЖНІК № 53

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

за 24 красавіка 1928 г.

*Усім акрпракурорам, акрсудом, нарсудом і начальнікам месц зьняволеньня.*

**Аб парадку дастаўкі арыштаваных у камэры сьледчых для допыту, у суд і лекавыя ўстановы.**

15 асобны канвойны батальон войск канвойнай варты адносінай сваёй ад 29 сакавіка г. г. за № 944 прасіў прыняць меры да ўпарадкаваньня канваіраваньня арыштаваных як у камэры сьледчых, а таксама і суды і да магчымага памяншэньня ліку нарадных канваіраў.

Гэтыя акалічнасьці, як указвае камандаваньне канвойнай варты, выкліканы ў сувязі са скарачэньнем да мінімуму штатаў войск канвойнай варты СССР і ўзяцьцем ЦУКСО'м курса на падвышэньне справы вучобы ў войсках ВКС да ўзроўню лінейных стралковых часьцей, незалежна ад нясеньня войскамі канвойнай варты спэцыяльнай службы.

Ідучы насустрэч камандаваньню канвойнай варты, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе.

### Акрпракурорам.

1. Даць сьледчым належнае ўказаньне, каб яны выклікалі арыштаваных у свае камэры для допыту ў тых толькі выпадках, калі гэта немагчыма будзе рабіць шляхам непасрэднага допыту арыштаваных у мясцох зьняволеньня—спраўдамох і арпамяшканьнях (значная адлегласьць месц зьняволеньня ад камэры сьледчага, няпрыгоднасьць пакояў месц зьняволеньня для допыту і іншыя перашкаджаючыя ўмовы).

2. У выпадках неабходнасьці выкліку арыштаваных у камэру для допыту, сьледчы павінен пасласць трэбаваньне ў месца зьняволеньня раней тэрміну (1—2 дні), указанаму ў трэбаваньні і ні ў якім разе не пазьней, як напярэдадні допыту, арыштаваных.

3. Пры дастаўцы канваірамі арыштаваных сьледчы павінен зараз-жа прыступіць да допыту абвінавачваемых дзеля таго, каб не затрымоўваць доўгія часы канваіраў.

4. Кожнаму сьледчаму неабходна дакладна раглямэнтаваць свой працоўны дзень і ні ў якім разе не дапушчаць доўгіх затрымак канваіраў.

### Акрсудом.

1. Паклапаціцца аб тым, каб кожны раз пры слуханьні арыштанскіх спраў трэбаваньні аб дастаўцы арыштаваных пасылаліся судамі ў месца зьняволеньня раней дню суду за 3—5 дзён (прыстасоўна да мясцовых умоў) і ні ў якім разе не пазьней, як напярэдадні.

2. Слуханьне арыштанскіх спраў распачынаць у тыя гадзіны, якія вызначаны судамі у іх трэбаваньнях, не прымушаючы канвойную варту дарэмна траціць свой службовы час.

3. Дзеля некаторага ізаляваньня арыштаваных ад публікі (да слуханьня яшчэ справы) кожнаму суду ў межах сваіх гаспадарчых і кватэрных магчымасьцяй адвесьці або асобныя пакойчыкі дзеля арыштаваных і канваіраў, або, пры адсутнасьці асобных пакояў, адвесьці асобны куток, адгароджаны ад астатняй часткі залі. Гэтыя мерапрыемствы будуць больш спрыяць ахове канваірамі арыштаваных.

### Начальнікам месц зьняволеньня.

1. Пры атрыманьні трэбаваньняў ад суду або сьледчых аб дастаўцы арыштаваных начальнікі спраўдамоў павінны зараз-жа ставіць у вядомасьць начальніка канвойнай варты аб вылучэньні канваіраў, указаўшы ў паведамленьні дакладна, калі і ў колькі гадзін павінен прыбыць канвой у спраўдом дзеля саправаджэньня арыштаваных і каму ён павінен даставіць арыштаваных (суду або сьледчаму).

2. Начальнікам месц зьняволеньня, у выпадках неабходнасьці прадастаўленьня зьняволеным спэцыяльнай мэдычнай дапамогі (рэнтгэнаўскія праменьні, душы і г. д.), якую яны ў мурах спраўдамоў атрымаць ня могуць, належыць больш сумленна адносіцца да сапраўднай патрэбы ў гэтым зьняволеных і гэтым самым паменшыць лік выпадкаў выкліку канвоя для саправаджэньня хворых арыштаваных у спэцыяльныя лекавыя ўстановы. Пры гэтым начальнікам месц зьняволеньня трэба дакладна кіравацца ўказаньнямі НКЮ і НКУС па гэтым пытаньні.

3. Пры наведваньні сьледчым месц зьняволеньня з мэтай допыту арыштаваных начальнікам месц зьняволеньня належыць паклапаціцца або прадастаўленьнем асобных пакояў для допыту, або пакою, у якім умовы больш спрыяюць вытвару допыту (цішыня).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

Ст. Інспэктар Месц Зьняволеньня *Якубчык.*

---

## АБЕЖНІК № 56

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

за 10 мая 1928 г.

*Усім акруговым і народным судом.*

**Аб нявыкліку народных засядацеляў, якія знаходзяцца ў адпачынку.**

Згодна Кодэксу Законаў аб працы, кожнаму рабочаму і служачаму прадастаўляецца чарговы адпачынак, акрамя таго, гэтыя-ж катэгорыі працоўных атрымліваюць адпачынак па прычыне хваробы, цяжарнасьці і г. д.

У практыцы судоў наглядаюцца выпадкі, калі рабочых і служачых, якія знаходзяцца ў адпачынку, выклікаюць у суды ў якасьці народных засядацеляў і тым самым пазбаўляюць магчымасьці цалкам скарыстаць свой адпачынак.

З прычыны паказанага Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе тых народных засядацеляў, якія знаходзяцца ў чарговым адпачынку, альбо ў адпачынку па прычыне хваробы, цяжарнасьці і г. д. не выклікаць у гэты час для выкананьня судовых абавязкаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар.*

Ст. Інспэктар *Гінцбург.*

---

## АБЕЖНІК № 57

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 17 мая 1928 г.

*Усім судовым органам.*

**Аб адхіленьні некаторых недахопаў у працы судовых органаў.**

Абсьледваньне судовых органаў з боку НКРСІ і НКЮ выявіла некаторыя недахопы ў працы судоў, якія, папершае, вельмі дрэнна адбіваюцца на тэрмінах праходжаньня спраў ў судох, а, падругое, дарэмна ўскладняюць працу судовых органаў. Так заўважана: 1) вельмі частае адкладваньне спраў па розных дробных фармальнасьцях, калі суду ясна, што справа можа быць разгледжана, як, напрыклад: а) з прычыны няяўкі таго або іншага сьведкі, унесенага ў сьпісак асоб, якія выклікаюцца ў судовае пасяджэньне толькі з тае прычыны, што суд своечасна пры падрыхтоўцы справы да слуханьня ў судовым пасяджэньні не абмеркаваў здавальняюча гэтага сьпіску і значэньня паказаньня незьявіўшагася сьведкі; б) з прычыны прадстаўленьня старанамі па грамадзянскай справе новых довадаў пасьля пачатку разгляду справы ў судовым пасяджэньні; в) з прычыны прызнаньня судом яўкі стараны па грамадзянскай справе абавязковай, калі для гэтага ня было здавальняючых падстаў і справа магла быць заслухана ў тым-жа судовым пасяджэньні і 2) што ў апісальнай частцы прыгавору часта зьмяшчаецца тое, што ёсьць ў пратаколе і што не павінна зьмяшчацца ў гэтай частцы згодна закону, напрыклад, паказаньні сьведкаў і г. д.

Зварачаючы на гэта ўвагу судовых органаў, НКЮ прапануе наступнае:

1. Пры падрыхтоўцы спраў да слуханьня ў судовым пасяджэньні прыймаць усе меры да таго, каб справа ня была адкладзена ў судовым пасяджэньні на другі тэрмін, у прыватнасьці, па крымінальных справах строга абмяркоўваць неабходнасьць выкліку таго або іншага сьведкі, маючы пры гэтым на ўвазе, што паводле арт. 391 КПК, акруговыя суды маюць права не выклікаць у судовае пасяджэньне тых сьведак, якія былі дапытаны на папярэднім сьледзтве або на дазнаньні і паказаньні якіх не выклікаюць сумненьняў у іх пэўнасьці.

2. Пры прадстаўленьні старанамі па грамадзянскіх справах новых довадаў строга захоўваць патрабаваньні арт. арт. 6 і 106 ГПК, дапушчаючы адкладваньне справы для прадстаўленьня новых довадаў толькі ў выпадках прызнаньня судом уважлівасьці прычын, якія перашкодзілі своечасоваму прадстаўленьню гэтых довадаў і наглядаючы за тым, каб хадайніцтвы старон аб адкладваньні справы ня мелі сваёй мэтай зацягнуць або зацямніць працэс.

3. Пры разьвязаньні пытаньня ў парадку 99 арт. ГПК аб неабходнасьці заслуханьня па грамадзянскай справе асабістых аб'яс ненньняў стараны, якая не зьявілася ў судовае пасяджэньне, дакладна выяўляць ступень сапраўднай неабходнасьці асабістай яўкі стараны.

4. Пры выкладаньні апісальнай часткі прыгавору строга прытрымлівацца арт. 334 КПК, выкладаючы ў гэтай частцы прыгавору толькі тыя зьвесткі, якія паказаны ў гэтым артыкуле, і не дапушчаць зьмяшчэньня ў ёй іншых зьвестак, як, напрыклад, паказаньняў сьведак, даных экспэртызы і г. д.

Нам Народнага Камісара Юстыцыі *Бутар*

## АБЕЖНІК № 58

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 17 мая 1928 г.

*Усім акруговым судом*

**Аб зьмене інструкцыі НКЮ аб парадку вытварэньня рэвізій Народных Судоў**

Маючы на ўвазе нязначнасьць сродкаў, якія адпушчаны акрсудом на шляхавае харчаваньне (камандыроўкі), у сувязі з агульным скарачэньнем адміністрацыйных выдаткаў, Народны Камісарыят Юстыцыі ў зьмену сваей інструкцыі аб парадку вытварэньня рэвізій народных судоў за 25 лістапада 1927 г., № 67, часова, да асобага распараджэньня, дазваляе вытварэньне рэвізій адным сябрам акруговага суду або адным інструктарам-рэвізорам акрсуду.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*
Ст. Інспэктар *Гінцбург.*

---

## АБЕЖНІК № 59

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Вярхоўнага Суду БССР

за 15 мая 1928 г.

*Акруговым судом і акруговым пракурорам.*

**Аб парадку спагнаньня нядоімак па самаабкладаньні.**

Пры правядзеньні ў жыцьцё закону аб самаабкладаньні насельніцтва на мясцох паўсталі пытаньні, ці павінны прыцягвацца да адказнасьці па арт. 79 КК асобы, якія ня выконваюць пастаноў агульных сходаў аб самаабкладаньні.

З прычыны гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі і Вярхоўны Суд растлумачваюць:

Паколькі арт. 20 пастановы ЦВК і СНК БССР аб самаабкладаньні насельніцтва ад 14 студзеня 1928 г. (З. З., 1928 г., № 7, арт. 37) прадугледжвае выключна адміністрацыйны парадак спагнаньня нядоімак, арт. 79 КК і наогул прыцягненьне да адказнасьці ў крымінальным парадку за адмаўленьне выканаць пастанову аб самаабкладаньні ўтварацца ня можа.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*
Ч. в. а. Старшыні Вярхоўнага Суду *Несьцер.*

---

## АБЕЖНІК № 61

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі

за 1 чэрвеня 1928 г.

*Усім акруговым судом і працоўным сэсіям пры нарсудох.*

**Аб складзе працоўных сэсій.**

Згодна арт. арт. 63 і 64 Палажэньня аб судабудаўніцтве, склад працоўных сэсій пры народных судох складаецца з сталага народнага судзьдзі і двух членаўпрадстаўнікоў: ад мясцовага аб'яднаньня прафэсыянальных саюзаў і акруговага альбо раённага выканаўчага камітэту.

Між тым, па маючыхся ў НКЮ зьвестках, працоўныя справы там, дзе існуюць працсэсіі пры нарсудох, разглядаюцца ў нарсудох у агульным парадку, з удзелам чарговых народных засядацеляў.

Зварочваючы на паказанае ненармальнае становішча вашу ўвагу, Наро[...] місарыят Юстыцыі лічыць неабходным:

1. Спыніць практыку разгляду працоўных спраў у агульным парадку [...] нарсудох, пры якіх існуюць працоўныя сэсіі.

2. У пратаколах судовых пасяджэньняў, а таксама ў прыгаворах рабіць адзнаку аб тым, што справа разглядалася ў парадку працоўнай сэсіі і прадстаўнікамі якіх органаў (прафсаюзаў альбо выканкому) зьяўляецца член працсэсіі, які ўдзельнічаў у разглядзе справы.

Акруговым судом даручаецца пры разглядзе спраў у касацыйна-рэвізійным парадку правяраць выкананьне гэтага абежніка і правільнасьць складу суду працоўнай сэсіі.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Я. Бутар.*

Пракурор па працоўных справах *Глезераў.*

---

## ЦЫРКУЛЯРНЫ ЛІСТ № 3

### Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### за 18 красавіка 1928 г.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам*

**Аб хутчэйшым праходжаньні спраў, якія ўзбуджаюцца органамі дзяржаўнага фінансавага кантролю і аб ўзмацненьні ўвагі да гэтых спраў.**

Дзяржаўны фінансавы кантроль пры практычным выпаўненьні ім ускладзеных на яго функцый па наглядзе за правільным, экономным і мэтазгодным скарыстаньні дзяржаўных сродкаў, за цэласьцю і заахованасьцю дзяржаўных матар'яльных каштоўнасьцяй, знаходзячыхся ў распараджэньні дзяржаўных органаў, якія знаходзяцца на агульнадзяржаўным і мясцовым бюджэтах, выяўляе выпадкі незаконных і немэтазгодных страт, безгаспадарчых і нядбайных адносін да дзяржаўнай маемасьці.

У інтарэсах пасьпяховай барацьбы з гэтымі парушэньнямі маемасных інтарэсаў дзяржавы, дзяржаўны фінансавы кантроль, згодна палажэньню аб ім, мае права дапасаваньня да асоб, адказных за зробленыя скарбу страты, мер уплыву, у прыватнасьці, яму дадзена права беспасрэднага ўзбуджэньня супроць вінаватых асоб крымінальнага і дысцыплінарнага прасьледваньня, беспасрэднага прад'яўленьня да іх грамадзянскіх іскаў і права спагнаньня страт у адміністрацыйна-бясспрэчным парадку.

Так як эфэктыўнасьць прац дзяржфінкантролю ў нямалай ступені залежыць ад хуткай рэалізацыі вынікаў рэвізій, ад хутчэйшага праходжаньня рэвізійных спраў, дык з гэтай прычыны немалаважнае значэньне для дзяржфінкантролю мае хуткае праходжаньне ў пракуратуры і судох спраў, якія ўзбуджаюцца органамі дзяржаўнага фінансавага кантролю, а з мэтай прыцягненьня грамадзкай увагі да дзейнасьці дзяржфінкантролю зьяўляецца вельмі пажаданым, каб з боку судовых органаў была выяўлена да спраў, узбуджаемых дзяржфінкантролем, адносіна як да спраў грамадзкага значэньня, якія патрабуюць да сябе асобнай увагі.

Гэта абставіна здабывае асобную важнасьць іменна ў сучасны момант, калі, у зьвязку з правадзімай урадам ува ўсіх галінах дзяржаўнай гаспадаркі і народнага кіраўніцтва палітыкай рэжыму эканоміі і барацьбой супроць усякай безгаспадарчасьці і незаконных выдаткаў, работа дзяржфінкантролю, як аднаго з удзельнікаў у справе ажыцьцяўленьня гэтай ўрадавай задачы, мае асабліва актуальнае значэньне.

З прычыны вышэйвыкладзенага і прыймаючы пад увагу, што органы юстыцыі могуць даць дзяржфінкантролю каштоўную дапамогу ў справе рэалізацыі выніку рэвізій, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе ўсім акрсудом і акрпракурорам прыняць меры да хутчэйшага праходжаньня спраў, якія ўзбуджаюцца органамі дзяржаўнага фінансавага кантролю, а таксама і аб узмацненьні ўвагі да гэтых спраў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі па Судох *Бутар.*

---

Рассылаецца на падставе арт. 4 наказу ККК па зацьверджаньні яго пленумам Вярхоўнага Суду ў пасяджэньні ад 9 сакавіка 1928 г.

Старшыня Вярхоўнага Суду *Варашылаў*

# Інструкцыйнае пісьмо

## Крымінальна-Касацыйнай Калегіі Вярхоўнага Суду БССР

## № 1 1928 года.

## СТАРШЫНЯМ АКРУГОВЫХ СУДОЎ.

**Паважаныя таварышы!**

Практыка Крымінальна-Касацыйнай Калегіі Вярхоўнага Суду за 1927 год, як гэтае відаць з разгледжаных спраў і рэвізій Акруговых судоў (Аршанскага, Бабруйскага, Віцебскага і Гомельскага), выявіла, што ня гледзячы на шэраг матываваных вызначэньняў па адмененых справах, на значную колькасьць прыватных вызначэньняў, на падробнае інструкцыйнае пісьмо за 1927 г., на шэраг паказаньняў па канкрэтных справах пры рэвізіях,—істотныя парушэньні як матар'яльнага, так і працэсуальнага права да сяго часу Акрсудом ня зьнішчаны.

Лічачы гэтае бязумоўна вельмі буйным недахопам у рабоце судоў, бо гэтае цягне за сабой новы разгляд шэрагу спраў, выклікаючы такім чынам зусім непрадукцыйную трату энэргіі і сродкаў судовага апарату, маючы на ўвазе выявіць гэтыя парушэньні і паказаць правільны шлях да іх адхіленьня на будучы час, Вярхоўны Суд, зацьвярджаючы да выкананьня і інструкцыйнае пісьмо за 1927 г., прапануе абмеркаваць гэтае пісьмо на бліжэйшым пленуме Суду з мэтай падрабязнага азнаямленьня усяго пленуму Суду з паказанымі ў ім палажэньнямі.

### Аб арт. 16 К.К.

Пытаньне аб тым, каго лічыць выканальнікам і падбухторнікам у практыцы амаль не выклікае непаразуменьняў.

Інача абстаіць пытаньне з дапаможнікамі, паколькі акрсуды часта зьмешваюць пакрываньне з непаведамленьнем, якое караецца у строга вызначаных законам выпадках.

Перш за ўсе патрэбна мець на ўвазе, што пад пакрываньнем трэба падразумяваць такія дзеяньні асобы, якія накіраваны на схаваньне злачынца, альбо сьлядоў злачынства, а гэтае значыцца, што пакрываньне дапушчае пэўную дзейнасьць з боку захаўніка адносна ўчыненага злачынства.

Сутнасьць-жа непаведамленьня заключаецца ў тым, што хто-небудзь, ведаючы аб учыненьні якога-небудзь злачынства, не паведаміць аб гэтым дзяржаўныя органы, г. значыць непаведамленьне характарызуецца нядзейнымі адносінамі асобы да злачынства.

Дзеля таго, каб ня зьмешваць захаваньня з непаведамленьнем, трэба па кожнай канкрэтнай справе дакладна выявіць гэтыя адзнакі і выразна паказаць у прысудах тыя факты, якія прывялі суд да кваліфікацыі дзеяньня асуджаных, як захаваньне.

### Аб арт. 18 „а“ і 18 „б“ К. К.

Калі па справе ёсьць падстава лічыць, што падсудзімы зьяўляецца непаўналетнім, то узрост яго, згодна арт. 141 КПК, павінен быць дакладна выяўлен шляхам належнай даведкі альбо мэдыцынскай экспэртызы. Зусім відавочна, што калі гэтае ня выяўлена папярэднім сьледзтвам, то суд павінен накіраваць справу да расьсьледаваньня альбо вытварыць экспэртызу ў стадыі судовага сьледзтва, бо не выяўленьне ўзросту ў такіх выпадках цягне за сабой прызначэньне неправільнай меры сацыяльнай абароны. Паміж тым практыка ККК паказвае, што Акрсуды часта парушаюць гэта правіла; нават ёсьць шмат і такіх выпадкаў, калі суды дзеля нядбаласьці не дапасоўваюць арт. арт. 18 „а“ і 18 „б“ КК пры дакладным выяўленьні непаўналецьця падсудзімых.

Маючы на ўвазе, што парушэньне гэтых арт. арт. большасьцю цягне за сабой адмену прысуду, трэба тэрмінова прыняць належныя меры да дакладнага выяўленьня ўзросту непаўналетніх, тым болей, што ў практыцы гэта пытаньне не зьвязана з якімі-небудзь цяжкасьцямі.